№ 1 (263) 4 студзеня 2002 г.

# НАША НІВА

+тэлепраграма на сьвяты

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## 48 СМ СЬНЕГУ

выпала ў Лынтупах і Мядзеле

## УВАЙСЬЦІ ПАЖАДАНА

С.Багданкевіч, М.Корбут, А.Драздоў аб далучэньні Беларусі да зоны эўра

## "П'ЯНЫЯ ГОСЬЦІ"

Першы альбом Памідорава

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Нараджаныя ў свабодзе

*калядар «НН»*

Мінулы год "Наша Ніва" часта пісала пра сьмерць, пахаваньні і магілы. Так склалася аб'ектыўна. Імкнучыся вычуваць кантэкст часу і роднае культуры ў ім, ня можаш не разважаць пра найважнейшыя здарэньні ў нас і ў сьвеце. Гэтыя здарэньні на працягу 2001 г. і дыктавалі нам тэмы. У Менску памерла найстарэйшая гарадзкая вуліца — Замкавая. Памёр пісьменьнік, аўтар "Чужой Бацькаўшчыны" Вячаслаў Адамчык... Памёр кумір гіпі Кен Кізі... Памёр музыка экс-*Beatles* Джордж Гарысан... Пасажыры скрадзеных тэрарыстамі амэрыканскіх боінгаў шукалі апошняе чароўнае слова, якое б іх ўратавала... Мастак і этнограф Дзяніс Раманюк знайшоў у Беларусі ўнікальныя дзіцячыя пахаваньні, што рабіліся ў нас у XX ст., а па ўсім сьвеце — на мяжы каменнага і бронзавага вякоў. У Вільні адшукалася дакладнае месца пахаваньня Кастуся Каліноўскага... Хіба не аб'ектыўны зьбег абставінаў зноў і зноў павяртаў да тэмы сьмерці? Урэшце і сам гэты Новы год некаторыя з нас адзначалі на могілках — у Курапатах. Мала хто са сьведамых беларусаў не згадае пра іх у сьвяточную ноч. Злом эпохаў, а для нас яшчэ й злом сацыяльных, эканамічных, сьветапоглядных фармацыяў, паміраньне чалавека XX ст. зь ягонымі стэрэатыпамі — усё гэта вялікія адзнакі сёньняшняй зьмены гадоў. I ў гэтым найпершая прычына таго, чаму так шмат гаварылася пра сьмерць у 2001-м. Аднак усякі канец ёсьць пачаткам іншага. Вось чаму, раскрываючы загадкі магіл і заўчасных сьмерцяў, мы як ніколі шмат гаварылі менавіта пра нараджэньне, пра будучыню, зашыфраваную ў былым.

Мне згадваюцца савецкія навагоднія паштоўкі з тагачаснай сьвяточнай сымболікай. Год мінулы ў выглядзе старога Дзеда Мароза і год наступны — у выглядзе малога, апранутага ў дзедмарозаўскі жупан. Стары прыводзіў да нас малога, нібы перадаваў эстафэту, або, па-багушэвіцку, штахвэт. І тады часьцяком у дзіцячай душы нараджалася пытаньне: стары дзед прывез са сваёй Лапляндыі хлопчыка, які, у сваю чаргу, праз год стане такім самым дзедам (пра што будзе сьведчыць тая самая лічба на ягоным жупане) і прывядзе нам новага хлопчыка з наступнай лічбай, і так будзе паўтарацца бясконца. Тое, што хлопчык — гэта Новы год, зразумела. Але куды кожнага разу дзяюцца старыя? Паміраюць? Ці, можа, растаюць? Адказу не было.

Між тым, у гэтай казцы можна разгледзець зусім хрысьціянскія алегорыі. Стары Дзед Мароз насамрэч уваскрос у новым. Сьмерцю сьмерць зваяваў. Борхес мог бы параўнаць іх з чарговымі нумарамі аднаго часопісу, бо казаў, што жыцьцё — ня вечнае і не канечнае, а пэрыядычнае.

У 2001 г. споўнілася 150 гадоў з дня нараджэньня Янкі Лучыны. На старонках "НН" мы спрабавалі разгадаць таямніцы жыцьця і творчасьці паэта.

Працяг на старонцы 3.

## Нашы будучыя грошы?

Старонкі 4-5

## навіны

### Набліжаецца грып

**Мэдыкі прагназуюць у Беларусі на канец студзеня эпідэмію грыпу. Хвароба ідзе з Расеі.** Дзяржаўныя і недзяржаўныя клінікі актыўна заклікаюць рабіць папераджальныя прышчэпкі. У недзяржаўных прышчэпка каштуе 11 тыс. рублёў. Дзяржаўныя робяць бясплатна – але толькі для пэўных сацыяльных групаў.

### Беларускі баль у Атаве

**5 студзеня а 18-й у Атаве (Канада) у хаце мастака Пятра Шварцмана (*4 Parkland Court, Nepean*) пачнецца традыцыйны калядны беларускі баль.** Арганізатары запрашаюць і бацькоў, і дзяцей, а таксама просяць, згодна з амэрыканскай традыцыяй, прыносіць з сабой напоі ды закускі. На леташні баль зьехаліся блізу 70 гасьцей. Беларусы Атавы традыцыйна спаборнічаюць з Таронта за гонар лічыцца галоўным цэнтрам беларускага жыцьця ў Канадзе.

**Ул.інф.**

### Дзень нараджэньня Захаранкі



**Сёньня спаўняецца 50 год з дня нараджэньня Юр'я Захаранкі, міністра ўнутраных спраў Беларусі ў 1994—96 г.** Зьявіўся на сьвет ён у горадзе Васілевічы (Палесьсе). Бясьследна зьнік 7 траўня 1999 г.

# Беларусы на Амазонцы



**Ці бачылі вы фільм Вэрнэра Герцага "Фіцкаральда"? Напэўна, памятаеце, як ён пачынаецца: гранітная лесьвіца крута ўздымаецца ад прырэчнага прычалу і проста з водаў Амазонкі паўстае ружова-белы, казачнай прыгажосьці нэаклясычны палац — опэрны тэатар пасярод багністай экватарыяльнай сэльвы. Гісторыя беларусаў у Манаўсе сваёй фантастычнасьцю нагадвае кінасюжэт.**

Працяг на старонцы 7.

# 2002 год дог

Новы год — з магічнаю, паліндромнаю лічбаю: зь якога боку ні чытай — атрымаецца 2002. Паліндром здаўна прысутнічаў у сьвядомасьці нашага народу. Яшчэ ў XVIII—XIX ст. беларускія знахары ў якасьці сродку ад зубнога болю выкарыстоўвалі замову *sator arepo tenet opera rotas*. Яны лічылі яго чарадзейным "завумным" тэкстам, нават не здагадваючыся аб ягоным лацінскім паходжаньні й тым больш аб тым, што гэта першы вядомы ў гісторыі паліндром.

Моўныя паліндромы зазвычай маюць аўтарства. Лічбавыя, у т.л. часавыя, ня маюць яго. Сама храналягічная шкала сусьветнае гісторыі мае паліндромны выгляд — яна падзяляецца на Да нашай і Нашу эры ці на Да і Пасьля Нараджэньня Хрыстовага. Тэолягі заўважылі люстэркавасьць у пасьлядоўнасьці Эвангельскіх падзеяў, а таксама ў сюжэтах Старога і Новага Запаветаў і прыйшлі да высновы, што Сын Божы зьдзейсьніў зваротны шлях у часе дзеля вяртаньня страчанага — збаўленьня чалавецтва ад Адамавых грахоў. Менавіта дзякуючы Ягонаму ўваскрашэньню гадавыя лічбы гістарычнае шкалы сымэтрычна разьбегліся ў два бакі. Калісьці мне здавалася, што час рухаецца не ў адным напрамку, а ў двух, і праз шмат гадоў яны сустрэнуцца. Калі-небудзь, калі прыйдзе новы Мэсія і перакуліць сьвет па-новаму.

Нашаму пакаленьню пашчасьціла з паліндромнымі гадамі. Здаецца, яшчэ нядаўна быў 1991-ы: забастоўкі рабочых у Менску, жнівеньскі путч у Маскве, афіцыйнае вяртаньне "Пагоні" й бел-чырвона-белага сьцягу, крах савецкага імпэрыялізму і ўтварэньне СНД... Што рыхтуе нам год 2002? Што разваліцца? Што ўтворыцца? Хто будзе зрынуты, а хто выйдзе пераможцам?

З часоў старажытнасьці паліндрому надаецца сакральны, сымбалічны сэнс. Акрамя перамогі над часам і Вяртаньня (вяртаньня страчанага, вяртаньня да зыходнае кропкі, да сваіх вытокаў, каранёў) паліндром сымбалізаваў яшчэ й Залатую сярэдзіну, якую неабходна адшукаць, каб потым захоўваць у жыцьці раўнавагу. Толькі надта цяжка адшукаць тую Сярэдзіну. Мабыць, таму чалавецтва ніяк ня можа дасягнуць Сусьветнае Гармоніі — каб кожны народ і асобны чалавек адчуваў сябе абсалютна свабодным, не замінаючы пры гэтым іншым. Вядома ж, далёка ня ўсё ў гэтым сьвеце мы вырашаем самі, але... 2002 — аптымальны час для зьдзейсьненьня ўсяго таго, што ў іншых гадах зрабіць мы б ня здолелі. Інакш давядзецца чакаць ажно да 2112-га!..

**В.Ж.**

### Віктар Жыбуль
## Мэдытацыя

Мансарда – адрас нам.
Нам сіла – талісман.
Мантра гуру – гарт нам.
Мандала – лад нам.

Ура! Душу дару
Магам!
Я – сіла! Праменьне мар, паліся!
Мара, гары зырагáрам!
Я і гамана тытана – магія!
Я і гамонка мага –
брама мар,
багам акно,
магія!
Маг замілаваны, цар,
працы навалі мазгам!

### Гады-паліндромы ў беларускай гісторыі

**Нават калі ня верыш у магію лічбаў і іншую лухту, цікава зірнуць, чым былі адметныя аналягічныя гады-паліндромы ў беларускай гісторыі.**

**1001 г.** Памёр князь Ізяслаў.

Працяг на старонцы 3.

# Навіны гаспадарскія

**КОШТ ПРАЕЗДУ Ў АЎТОБУСАХ І ТРАЛЕЙБУСАХ ПА БЕЛАРУСКІХ ГАРАДАХ З 1 СТУДЗЕНЯ ВЫЗНАЧАЮЦЬ МЯСЦОВЫЯ ЎЛАДЫ.** Гэткае права дае новы закон аб транспарце.

**МЕНГАРВЫКАНКАМ ПЛЯНУЕ ЗБУДАВАЦЬ СЁЛЕТА У ЦЭНТРЫ СТАЛІЦЫ 5 АЎТАЗАПРАВАК.** Такі ж тэмп (4—5 новых заправак штогод) хочуць вытрымліваць і надалей. Калі атрымаецца, чэргі за бэнзынам у Менску павінны назаўсёды зьнікнуць да 2010 г.

**МІНІСТЭРСТВА ЭКАНОМІКІ ЗАГАДАЛА НАПАЛОВУ ЗЬМЕНШЫЦЬ БЮДЖЭТНЫЯ ВЫДАТКІ НА БУДАЎНІЦТВА ШКОЛАЎ, БОЛЬНІЦАЎ І ДАМОЎ КУЛЬТУРЫ.** Цяпер у новых сацыяльных установах не павінна быць нічога "лішняга" — басэйнаў, вялікіх спартовых залаў, музэяў, пакояў адпачынку пэрсаналу. Апроч таго, будаўнікі мусяць "шукаць дадатковыя крыніцы фінансаваньня" — то бок прасіць грошы ў прадпрымальнікаў.

**У МІНІСТЭРСТВАХ БЕЛАРУСІ, ПАСЬЛЯ ПЕРАДНАВАГОДНЯГА 10-ПРАЦЭНТНАГА СКАРАЧЭНЬНЯ АГУЛАМ ПРАЦУЮЦЬ 3996 ЧАЛАВЕК.** Найбольш супрацоўнікаў у Міністэрствах эканомікі (485 чыноўнікаў), фінансаў (397), статыстыкі (360), замежных справаў (349), працы і сацыяльнай абароны (320), а найменш — у Міністэрствах культуры й гандлю (па 95), сувязі (81), спорту й турызму (74), інфармацыі (72), аховы навакольнага асяродзьдзя (64), а таксама жыллёва-камунальнай гаспадаркі й энэргетыкі (па 55).

**ДРУГІ ТРАНСПАРТНЫ КАЛІДОР БЕРАСЬЦЕ-МЕНСК-МАСКВА (НОВАЯ ЧЫГУНКА ДЫ АЎТАБАН) КАШТАВАЎ БЫ 2,4 МЛРД. ДАЛЯРАЎ.** Паводле пляну П.Барадзіна, цягам наступных 10 гадоў мільярд даляраў на яго маглі б выдаткаваць са сваіх бюджэтаў Беларусь і Расея, 0,8 млрд. даў бы «саюзны бюджэт», а 0,6 млрд. хочуць назьбіраць шляхам продажу акцыяў прыватным інвэстарам. У беларускім Міністэрстве транспарту пацьвярджаюць толькі інфармацыю пра тое, што такі праект ёсьць, пра ягоную ж рэалістычнасьць і фінансаваньне — маўчаць.

**Сяржук Іваноўскі**

## з усей краіны

### Новая карупцыйная справа

**На кіраўніка Клімавіцкага райвыканкаму У.Канавалава завялі крымінальную справу. А Лукашэнка нядаўна ўзнагародзіў яго ордэнам Пашаны "за ўнёсак у сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё".** Вінавацяць Канавалава ў крадзяжах і злоўжываньні службовым становішчам.

### Мерзнуць людзі

**Ад 10 сьнежня да 3 студзеня ў Беларусі ад пераахалоджаньня пацярпелі блізу 400 чалавек.** Ніхто, дзякуй богу, не памёр.

**Паводле БелаПАН**

### Дыягностыка на вуліцы

**З тэхнічных прычынаў не працуе флюараграфічны кабінэт Бярозаўскай райбольніцы.** Хворых накіроўваюць на вуліцу, у перасоўны флюарограф, зьмешчаны ў салёне грузавіка. Але ж на двары зіма. І тэмпэратура часам зьніжаецца да дваццаці марозу. Людзі абураюцца: у салёне ЗІЛ-130 халодна, лекар сядзіць у шубе і шапцы, а каб зрабіць рэнтгенаўскі здымак, распранайся. За апошнія 10 дзён каля 500 чалавек абсьледаваліся. Колькі зь іх працягнула падчас флюараграфіі — невядома.

### Тэрарызм па-беларуску

**Жыхар вёскі Чамялы (Івацэвіччына) Іван Ермачок, пагражаючы нажом,** выгнаў з хаты сына і жонку, унёс газавы балён, адкруціў вэнтыль, крыкнуў жонцы, каб ішла дадому, а сам рушыў у суседнюю вёску. Добра, што кабета не пасьпела дайсьці — адбыўся выбух газапаветранай сумесі (у хаце палілася печ). Хату зьнішчыў пажар. Сям'я засталася на вуліцы, гаспадаром займаюцца міліцыянты.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

### Пяцідзёнка

**На Берасьцейшчыне са студзеня 2002 г. усе базавыя школы пераходзяць на пяцідзёнку.** Такі экспэрымэнт зроблены, каб "разгрузіць" дзяцей, а таксама з мэтай эканоміі грошай (прыкладна 1,5 млрд. рублёў). Урокі, што праходзілі ў суботу, проста перанесеныя на іншыя дні. **Вучні 10—11 клясаў** працягнуць навучаньне і ў суботу. Таксама гэтая прыдумка не датычыць навучэнцаў гімназіяў і ліцэяў.

**Руслан Равяка, Баранавічы**



# Завіруха мяце, завіруха

**Пачатак году адзначыўся вялікім сьнегападам. Сьнег ішоў увесь першы дзень новага году, уначы гула завіруха. Да раніцы намяло вялізныя сумёты. Ад Раёўкі (Маладачаншчына) да Менску крыху больш за 70 км, але пазаўчора мы з жонкай пераадолелі гэтую адлегласьць за чатыры з паловай гадзіны, нібы на пачатку мінулага стагодзьдзя. З-за сьнегу не пайшлі ў рэйс аўтобусы. Аўтамабілісты, што рызыкнулі ўраньні выехаць зь вёскі, здолелі праехаць толькі да шашы Ільля—Краснае, дзе іх чатырохколавы конік носам зарываўся ў сьнег. Далей машына не ішла, а заднім ходам (разьвярнуцца таксама не было як!) вярталася ў вёску. Дзесьці а 10-й нейкі добры чалавек на трактары пачысьціў шашу. Пераадолеўшы тры кілямэтры пад няспынным сьнегападам, мы злавілі "папутку". Кіроўца ехаў асьцярожна, бо пад сьнегам зьзяў лёд. Ад сьнегу была ачышчаная толькі адна паласа, і калі на дарозе сустракалася машына, абодва аўтамабілі мусілі зьяжджаць у сьнег, каб разьмінуцца. Яны ўздымалі хмары сьнегавога пылу, нібы знаходзіліся мы не на вясковай дарозе, а бралі ўдзел у аўтаралі.**

**З-за сьнегавых заносаў зьбіўся рух цягнікоў на розных накірунках, а таксама гарадзкога транспарту на пэрыфэрыйных маршрутах. Увечары 2 студзеня і раніцай 3 студзеня менская гарадзкая аўтаінспэкцыя заклікала менчукоў карыстацца грамадзкім аўтатранспартам, а выяжджаць на ўласным аўто толькі па крайняй неабходнасьці, каб не ствараць праблемаў на дарогах.**

**Найбольш сьнегу выпала на паўночным захадзе Беларусі (трохкутнік Лынтупы-Мядзел-Вялейка). Там сьнегавое покрыва дасягнула вышыні 40—48 см. Звычайна больш сьнегу выпадае на Магілёўшчыне. Найменш жа сьнегу выпала ў Горадні — 15 см, дзе і заўсёды яго бывае найменей. У Менску на раніцу ўчора сьнежнае покрыва складала 39 см. Але да амэрыканскага Буфала (штат Нью-Ёрк) нам далёка. Там вышыня сумётаў — 2 м, і гэта адзіны буйны амэрыканскі горад, дзе ёсьць сьнег. Беларусы Нью-Ёрку страшна зайздросьцяць, калі ў электронным лісьце пішаш ім пра менскую завею. У Нью-Ёрку ні сьняжынкі.**

**Але для Беларусі самым сьнежным месяцам зьяўляецца люты. Багата сьнегу бывае і ў сакавіку. У 2000 г. у сярэднім у Беларусі сьнежнае покрыва складала 30 см, у асобных раёнах сьнег сягаў 45 см. 1999 г. быў бедны на сьнег, большую частку зімы сьнежнае покрыва складала 4—7 см, сям-там сягала 13 см. Самай сьнежнай зімой у Менску была зіма 1995–96 гг., калі сьнежнае покрыва ўсталявалася на адзнацы 54 см. Але супрацоўнікі Галоўгідрамэту мяне "супакоілі", калі зараз ня здарыцца адліга, то сьнежнае покрыва павялічыцца. Ужо 6—7 студзеня ("раз каталіцкія Каляды былі ў лёдзе, праваслаўныя мусяць быць хоць адною нагою ў водзе", сьцьвярджае прымаўка) прыйдзе "пацяпленьне" (удзень 2—7 градусаў марозу), чакаецца сьнег. Яшчэ пару такіх сьнегападаў, і рэкорд зімы 1995—1996 г. будзе пабіты.**

**Алег Раявец**

# Новы год у сьвеце

**Сьвет сустракаў Новы Год малітвамі, фаервэркамі і балямі.** Адбывалася гэта больш сьціпла, чым мінулыя гады, і ня так весела.

Шмат людзей сабралася на Таймссквэр у **Нью-Ёрку**, каб разам правесьці страшны для Амэрыкі 2001 год і адзначыць надыход новага. У некалькіх кілямэтрах ад плошчы выратавальнікі працягвалі раскопваць руіны Усясьветнага гандлевага цэнтру. У смутку разьвітваліся са старым годам і жыхары Пэру. Падчас пажару ў гандлёвым цэнтры ў **Ліме** загінулі 283 чалавекі. Бяда здарылася, калі гандляр ракетамі, пэтардамі і іншым выбуховым начыньнем пачаў дэманстраваць, як дзейнічае ягоны тавар. Агонь імгненна ахапіў вялікі гандлевы дом, поўны пакупнікоў. Такія самыя піратэхнічныя прылады прывялі да сьмерці яшчэ некалькіх дзясяткаў жыхароў **Кітаю**, дзе выбухнула фабрыка, што выпрабляла тыя пэтарды. Не зважаючы на тое, што агонь падступіў да самых прадмесьцяў аўстралійскага **Сыднэю**, мільён сыднэйцаў у аблоках дыму, якія прыгнаў вецер з навакольных лясоў, узялі ўдзел у гуляньнях. Эўропа ж дзівіла прыхільнасьцю да баляў і клясыкі. **Брусэль** пачаў Новы год гукамі сымфанічнай паэмай "Влтава" напісанай бацькам чэскае нацыянальнае музыкі Б.Сьметанам - у рамках спэктаклю "Эўрамост" даваў канцэрт Эўрапейскі фэстывальны аркестар. Жыхары **Вены** сабраліся на галоўныя ўрачыстасьці пад катэдру Сьв.Стэфана са сьвечкамі ў руках, якія ў гэтым годзе замянілі пэтарды, - пра тое папрасіў месьцічаў бурмістар Гаўпль. Перад ратушай паклалі на 8 тысячах квадратных мэтраў паркет для балю, які і адбыўся ў навагоднюю ноч - танчылі вальсы Штраўса і Легара. У **Лёндане** на Трафальгарскім пляцы адбыўся баль, у якім узялі ўдзел каля 80 тысячаў брытанцаў. Хто не хацеў ісьці на баль - ехаў на дыскатэку ў Грынвіч (такіх знайшлося 40 тысячаў). Усюды было поўна паліцыі, якая пільнавала, каб што не ўзарвалі. А вось ў славацкай **Браціславе** ўрачыстасьці былі праведзеныя па мінімуме, дарма, што славакі адначасова сьвяткавалі 9-ю гадавіну незалежнасьці. Урад ашчаджаў, і сёлета традыцыйнага дармавога пачастунку ды піва на пляцах не было - такім чынам зэканомілі 25 млн. кронаў (больш за паўмільёна даляраў).

**Сяргей Рак**

### Новы год у Курапатах

**Новы 2002 год у Курапатах сустрэлі 15 чалавек абаронцаў.** Нарыхтавалі дроваў, потым сядзелі, слухалі музыку, размаўлялі. У Новы год выйшлі на дарогу і выпілі шампанскага, сказалі тосты за лепшае жыцьцё. Да абаронцаў Курапатаў прыходзіў Дзед Мароз — сябар КХП-БНФ. Прынес цёплыя коўдры й ежу. Зьвязацца з абаронцамі Курапатаў у навагоднюю ноч было немагчыма. Іхныя мабільныя тэлефоны не працавалі — сетка была перапоўненая, усе людзі віншавалі адно аднаго.

**Паводле радыё "Свабода"**

# У Менску зьявіцца мячэт

**Татары ў Беларусі жывуць ужо 600 гадоў: яшчэ за Вітаўта яны бралі ўдзел у Грунвальдзкай бітве і абароне межаў. Калісь у ВКЛ мелася больш за паўсотню мячэтаў. Цяпер татар каля 11 тысяч. Больш за ўсё іх у Менску і на Меншчыне (4 тысячы) ды на Гарадзеншчыне (2 тысячы).**



Пасьля другой сусьветнай вайны ў Беларусі працаваў толькі адзін мячэт — у Іўі. Астатнія пазачынялі. Цяпер беларускія татары моляцца ў 7 мячэтах: апрача Іўя, у Відзах, Клецку, Лоўчыцах (самы стары ва Ўсходняй Эўропе), Наваградку, Слоніме і Сьмілавічах. Малітвы чытаюцца пераважна па-арабску, казані — па-беларуску і па-расейску, бо многія вернікі арабскае мовы ня ведаюць. Яшчэ адзін мячэт зь вёскі Даўбучкі Смургонскага раёну ў разбураным выглядзе ляжыць у Музэі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах.

Быў мячэт і ў Менску — на ягоным месцы цяпер рэстарацыя гатэлю "Юбілейны". Ён быў пабудаваны ў 1599 г. і прастаяў да канца XIX ст. Потым татарская грамада цягам дзесяці гадоў сабрала грошы і ў 1902 г. узьвяла замест драўлянага новы — мураваны. У 1936 г. мячэт ператварылі ў харчовыя склады, а пасьля вайны, падчас якой у ім ізноў маліліся, перадалі таварыству садзейнічаньня флёту. А ў 1962 г. увогуле зьнесьлі. Гатэль "Юбілейны" менскія татары да гэтай пары інакш як "шайтанскі дом" не называюць і марна просяць гарадзкія ўлады дазволіць павесіць тут памятны знак.

Менскія мусульмане здымаюць пад пятнічныя малітоўныя службы памяшканьне ў Доме прафсаюзаў. Мячэт яны плянуюць распачаць адбудоўваць увесну 2002 г. Паўстане ён на рагу вуліцаў Грыбаедава і Тарханава. У гэтым раёне калісьці знаходзіліся зьнесеныя ў 1967 г. татарскія могілкі (мізар). Пляцоўку пад будаўніцтва Менгарвыканкам выдзеліў яшчэ ў 1992 г., аднак тады ў татараў не было грошай. Цяпер зьявіўся спонсар — дабрачынная арганізацыя "Рабіта" з Саудаўскай Арабіі, якая дапамагае будаваць альбо аднаўляць мячэты па ўсім сьвеце. Каштаваць адбудова мячэту ў Менску будзе 1,5—2 мільёны даляраў.

**Ігнат Чакацкі**

**Гутарка зь беларусам, які перайшоў у Іслам, — на старонцы 6.**

## дзе варта быць

### Беларускамоўныя набажэнствы на праваслаўныя Каляды

**У ПРАВАСЛАЎНЫМ САБОРЫ СЬВ.ПЯТРА І ПАЎЛА,** што на Нямізе, літургія па-беларуску адбываецца кожную першую суботу месяца ( у 7.30). Кожную сераду а 17-й па-беларуску ў саборы Сьв.Пятра і Паўла служыцца акафіст.

**ПРАВАСЛАЎНАЕ НАБАЖЭНСТВА ПА-БЕЛАРУСКУ Ў КУРАПАТАХ (СЬВЯТА-КРЫЖАЎЗЬВІЖАНСКІ ПРЫХОД АЎТАКЕФАЛЬНІКАЎ)** — 6-га а 13-й.

Больш беларускай мовы ў касьцёлах. **У КАСЬЦЁЛЕ СЬВ.РОХА** (вул.Залатая Горка) імша вядзецца выключна па-беларуску (штодня а 8-й). У сераду дадаецца вячэрняя імша (19.00). У нядзелю імша адпраўляецца чатыры разы на дзень: а 9-й, аб 11-й (так званая "дзіцячая" імша), а 12-й ды а 19-й. **У КАСЬЦЁЛЕ СЬВ.СЫМОНА І АЛЕНЫ** (плошча Незалежнасьці) імша таксама вядзецца па-беларуску (8.00, 9.00, 12.00, 17.00, 19.00). Па-польску імша служыцца ў нядзелю а 13-й. **У МЕНСКАЙ КАТЭДРЫ** з панядзелка да суботы імша па-беларуску адбываецца а 18.30. У нядзелю - у 8.30 і 13.00. А 18.30 у нядзелю імша вядзецца на лаціне. Па-беларуску адпраўляецца імша і ў **ПАРАФІІ СЬВ.ЯНА ХРЫСЬЦІЦЕЛЯ, ШТО Ў СЕРАБРАНЦЫ** (вул. Пляханава, 68, корп.4). Касьцёл пакуль будуецца, таму службы адпраўляюцца ў памяшканьні, якое даў ЖЭС. Імша бывае штодня а 19-й, у нядзелю - у 9.00, 11.00, 19.00.

Уніяты служаць толькі па-беларуску. **У ПАРАФІІ СЬВ.ЯЗЭПА** (а.Андрэй) імша штодзень а 19-й гадзіне ўвечары, у нядзелю аб 11-й раніцы. Адрас парафіі: пр. Пушкіна, 50. Уваход з тарца (паўночны бок будынка), спусьціцца па лесьвіцы долу. Вернікі **ПАРАФІІ АБРАЗА МАЦІ БОЖАЙ НЯСТОМНАЙ ДАПАМОГІ** ладзяць свае набажэнствы ў нядзелю а 9-й і 12-й гадзіне ў касьцёле Сьв. Сымона і Алены (дольная заля).

**У ЦАРКВЕ ЭВАНГЕЛЬСКІХ ХРЫСЬЦІЯН-БАПТЫСТАЎ** (Царква Дабравесьця) па-беларуску набажэнствы ладзяцца ў нядзелю а 15.30 (вул. Чайкоўскага, 37).

**ХРЫСЬЦІЯНЕ ВЕРЫ ЭВАНГЕЛЬСКАЙ** запрашаюць на беларускамоўныя набажэнствы па панядзелках а 19-й гадзіне (Гурскага, 48).

### Новы зборнік Аркуша

**У аўторак, 8 студзеня, Беларускі калегіюм запрашае на прэзэнтацыю новага паэтычнага зборніка Алеся Аркуша "Проста ў сярэдзіну".** Паэт выступіць са спавешчаньнем "Новыя нечаканасьці на шляху рэгіяналізацыі беларускай літаратуры". Купалаўская бібліятэка, 18 30.

### "Трышчан" у Купалаўскім

**4 і 5 студзеня а 19-й на вялікай сцэне Купалаўскага паказваюць "Трыстана ды Ізольду" па п'есе Сяргея Кавалёва.** Да сьнежня мінулага году спэктакль ішоў на Малой сцэне, і з прычыны невялікай колькасьці месцаў у глядзельнай залі квіткі было дастаць надта цяжка. Магчыма, менавіта гэта сталася падставай для зьмены сцэнічнае пляцоўкі. Сярэднявечную гісторыю каханьня прыгожа распавядаюць маладыя беларускія акторы. Асабліва ўдалая акторская работа караля Маркі, якога грае Пятро Юрчанкоў-малодшы. Цікавы для аматараў і саўндтрэк.

**Вольга Гурло**

# Гады-паліндромы ў беларускай гісторыі

Працяг са старонкі 1.

Ізяслаў быў сынам Рагнеды — згодна зь летапісамі, гэта ён абараніў маці ад Уладзімера. Ваяўнічы Брачыслаў быў ягоным сынам, а славуты Ўсяслаў Чарадзей — унукам. Сам Ізяслаў не праславіўся вайсковымі выправамі. Ніканаўскі летапіс сьведчыць, што полацкі князь быў хутчэй кніжнікам, чым ваяром: *"Бысть жа сий князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и прилежаше прочитанию божественных писаний, и отвращаяся от сетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив"*.

8 траўня **1551 г.** памерла Барбара Радзівіл, каралева Польшчы і ВКЛ. Яе везьлі хаваць з Кракава аж у Вільню. Муж, Жыгімонт Аўгуст, апрануты ў чорнае, не адыходзіў ад труны. Сьмерць Барбары яшчэ больш ускладніла ягоныя адносіны з маці, каралевай Бонай, якая была супраць іхнага шлюбу.

1 лютага **1661 г.** жыхары Магілёва выразалі 7-тысячны расейскі акупацыйны гарнізон. Вялікі князь Ян Казімір выдаў прывілей, паводле якога месьцічы-паўстанцы атрымалі шляхецтва, а гораду быў нададзены новы герб: тры вежы на блакітным фоне і збройны рыцар у браме пад выяваю "Пагоні". 2 сьнежня таго ж году войскі ВКЛ выгналі расейскі гарнізон зь Вільні.

**1771 г.** быў апошнім годам Барскай канфэдэрацыі, створанай праціўнікамі ўмяшальніцтва Расеі ў справы Рэчы Паспалітай. Вялікі гетман ВКЛ Міхал Казімір Агінскі сабраў 2-тысячнае войска, каб падтрымаць канфэдэратаў. У ноч на 23 верасьня 1771 г. на ягоны лягер пад Сталовічамі (ля Баранавічаў) напала ўдвая меншае расейскае войска на чале з Аляксандрам Суворавым. Нечаканасьць і цемра зрабілі сваю справу: канфэдэраты былі ўшчэнт разьбітыя. Расейцы захапілі іхныя сьцягі, гетманскую булаву, казну памерам 50 тыс. злотых, забілі 500 чалавек і тры сотні захапілі ў палон. Ад сораму Агінскі зьбег за мяжу. Пасьля паразы канфэдэратаў нічога не перашкаджала суседзям падзяліць Рэч Паспалітую.

У **1881 г.** нарадзіўся Іван Луцкевіч, нашанівец, стваральнік Беларускага музэю ў Вільні. У тым самым годзе беларус Ігнат Грынявіцкі забіў бомбай расейскага імпэратара Аляксандра II.

**1991 г.** Незалежнасьць. А таксама аднаўленьне "НН".

**Эдвард Людовіч**

# Нараджаныя ў свабодзе

Працяг са старонкі 1.

Па сканчэньні вышэйшае навукі ў Пецярбургу Лучына спрабаваў уладкавацца на працу ў родным Менску, але яго скіравалі ў далёкі Тыфліс. Рэч у тым, што ягоны бацька быў пад наглядам паліцыі. Неўзабаве Лучына вяртаецца ў Менск на пабыўку і тут на ганку гарадзкога тэатру яго раптам разьбівае паралюш. Натуральна, у Тыфліс ён ужо не вярнуўся. Рэшту жыцьця пражыў у Менску на мыліцах, але пры тым надта любіў выяжджаць на паляваньні. Усе гэтыя абставіны далі нам магчымасьць дапусьціць, што Лучына сымуляваў хваробу.

Яшчэ адно важнае адкрыцьцё чакала нас ў паэзіі Лучыны. Гаворка ідзе пра плач. Той самы плач па страчаным, забраным краі, нішчымным, бедным і цёмным, які насамрэч быў плачам паэта-шляхціца па адабранай маёмасьці. Наступнікі Лучыны працягнулі гэтае рыданьне, хаваючы яго ў бядотныя сцэны беларускага жыцьця, у шэрыя ды ўбогія краявіды, хоць насамрэч гэта была рэакцыя на ўласнае сацыяльнае паніжэньне. Гэты плач прайшоў праз усё XX ст. Ён страціў свой першаматыў і камуфляваўся пад самыя розныя, ужо сацрэалістычныя вобразы. Да нашага часу ён дакалываў у выглядзе плачу па роднай мове і незалежнасьці. І вось акурат у 2001 г. адбылася ня дужа заўважная, але надта істотная перамена інтанацыі. Загаварылі пра тое, што мова нікуды ня дзенецца і незалежнасьць далёка ня страчаная. І што ня плакаць над імі трэба, а мацаваць іхныя пазыцыі. Можа, найбольш выразна з прадстаўнічае публікі сказаў пра гэта нядаўна старшыня ТБМ Алег Трусаў.

Нарэшце, трэці важны момант. Лучына — найбольш значны дзяяч беларускай культуры — мянчук. У XIX ст. ён стаў сапраўдным і ўнікальным культурным героем цяперашняе сталіцы.

Які ж будзе наступны 2002 г.? Чыім імем мы назавем яго? Калі кіравацца лёгікай клясычнага юбілею, дата мусіць быць кратная 25 гадам. Юбілееў дастаткова: 25 гадоў таму паляцеў у космас Каваленак. 50 гадоў таму нарадзіўся Юры Захаранка. 75 гадоў назад пачаў выходзіць самы беларускі і самы літаратурны за савецкім часам часопіс "Узвышша", у Заходняй Беларусі адбыўся Косаўскі расстрэл, на сьвет зьявіліся Алесь Адамовіч і Вітаўт Кіпель. 125 гадоў споўніцца адраджэнцу-кампазытару Антону Грыневічу, столькі ж — прэзыдэнту БНР Васілю Захарку. 150 гадоў таму ў Менску паставілі першую беларускую опэру "Сялянка". 175 гадоў таму нарадзіліся паўстанцы Аляксандар Далеўскі і Якуб Гейштар. І вось цяпер — імя, бадай, найбольш важкае і сваім значэньнем, і датай, каб стаць імем году. У ліпені споўніцца 200 гадоў як нарадзіўся Ігнат Дамейка, філямат і паўстанец, вучоны з сусьветным імем. Лёс ягоны дастаткова тыповы для тагачасных беларускіх патрыётаў. Удзельнікі вызвольнага руху супраць расейскае акупацыі ўцякалі ад рэпрэсіяў па ўсім сьвеце і рабіліся першапраходцамі ў розных краёх, аддаючы свой розум іншым народам. Беларус Дамейка вывучаў чылійскую зямлю і меў у гэтай справе вялікія посьпехі. Ягоным імем названыя мінэралы, кветкі, горны хрыбет у Андах, мястэчка ў Чылі, вуліцы ў Сант'яга ды іншых тамтэйшых гарадах. А чылійскі ўрад назваў гэтага ў сябе на радзіме *"государственного преступника"* нацыянальным героем сваёй краіны.

У коле сваякоў ды знаёмцаў можна зладзіць такі экспэрымэнт. Пачытайце прысутным які-небудзь беларускі вершык Янкі Лучыны. Вы пабачыце, што асабліва старэйшыя векам людзі адрэагуюць на яго зь цеплынёю. Гэта наша, беларускае, такое, як песьні, што мы часам зацягваем у часе застольля. Палітычныя ды нацыяналістычныя спрэчкі тут недарэчы. На выгляд недасканалы вершык прамаўляе проста да сэрца. Калі ж вы возьмеце штосьці з сучаснага прыгожага пісьменства — бясспрэчна, больш літаратурнага, прафэсійнага і дасканалага ў словах, вобразах і рыфмах — эфэкт будзе ня той. Менавіта тут зьявіцца момант таго балеснага адчужэньня ад роднае мовы і распаляцца спрэчкі пра палітыку. Мне даводзілася гуляць у такія гульні, і кожнага разу я пераконваўся, што беларускасьць беларусаў у XX стагодзьдзі праляцела міма іх на тым транзытным цягніку, на які яны ня тое што спазьніліся, але й не маглі ўскочыць. Затое стагодзьдзе XIX-е, да якога храналягічна можна залічыць і нашаніўцаў, як натуральны працяг Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Лучыны, сталася набыткам беларускае душы. У такога парадоксу шмат прычынаў, але вылучаецца сярод іх адна.

Паэт Іосіф Бродзкі ў сваім эсэ, прысьвечаным нябожчыкам-бацькам, дзякуе богу, што бацькі ягоныя нарадзіліся ў свабодзе, г.зн. да савецкага часу, а таксама за тое, што ім не ўдалося выхаваць яго, Бродзкага, несвабодным чалавекам. Гаворка тут ідзе пра ўсіх, хто меў дачыненьне да краіны саветаў. Гэта праблема свабоды і несвабоды. Калі ў 1906 г. вулічныя хлопцы-газэтчыкі вынесьлі на віленскую вуліцу першы нумар самай першай беларускай газэты, людзі абдымаліся і плакалі, упершыню чытаючы друкаваны тэкст на той самай мове, на якой яны гавораць і думаюць. Выходзіць, гэта былі яшчэ свабодныя людзі. І паміж імі і беларушчынай не было і не магло быць ніякага адчужэньня. Але пройдзе якіх дзесяць гадоў, і ўсё пераменіцца. Літаратурна дасканалая і прафэсійная беларушчына прыйдзе да іх ужо разам з паклёпамі, арыштамі, расстрэламі. Яна будзе праслаўляць новы прыгнёт, хлусьліва называючы яго свабодай. Усё перамяшаецца ў галовах. І новая творчасьць ня знойдзе месца ў душах, дзе застанецца як на сёньня, дык ужо генэтычная вернасьць спрадвечнаму, беларускаму, спазнанаму некалі ў свабодзе.

**Сяргей Паўлоўскі**




**У 2001 г. споўнілася 150 гадоў з дня нараджэньня паэта Янкі Лучыны. Беластоцкая "Ніва" апублікавала невядомы раней здымак паэта ў атачэньні сям'і, зроблены каля 1895 г. у маёнтку Зацярэва. Першы справа ад паэта – Антон Нэканда-Трэпка, сын роднай сястры Лучыны – Антаніны. Янка Лучына перадаў пляменьніку беларускі нацыянальны дух. Той уключыўся ў беларускі рух падчас вучобы ў Пецярбурзе (у Тэхналягічным інстытуце). Калі ўявіць, што Нэканда-Трэпка браў удзел у выдавецкай суполцы "Загляне сонца і ў наша аконца", рэальнай становіцца думка, што выхаду кнігі дзядзькавых вершаў на беларускай мове "Вязанка" паспрыяў удзячны пляменьнік. Здымак перадала ў рэдакцыю "Нівы" Марыя Нэканда-Трэпка зь Белай-Падляскай, з Лучынавага роду.**




**У Курапатах людзі пабачылі зародак новае і яснае Беларусі. Гэта тое месца, адкуль пры канцы 2001-га пачаўся новы адлік беларускай палітыкі, маралі, інтэлектуалізму, грамадзкага супрацоўніцтва. Месца, дзе зь людзей адвальваецца ўсё шкарлупіньне. Месца нацыянальнага пакаяньня беларусаў.**

## навіны за тыдзень

### Мірон памяняў крыжы

**У ноч на 1 студзеня хтосьці перарабіў праваслаўныя крыжы, што стаялі на ўезьдзе ў Лёзна з боку Смаленску, на шасьціканцовыя крыжы Эўфрасіньні, зьбіўшы касыя папярэчкі.** Адказнасьці за акцыю пакуль ня ўзяў на сябе ніхто.

### Кальцавая пойдзе ў абход Курапатаў

**Варта ў Курапатах працягваецца. Тым часам вартавым Курапатаў стала вядома, што будаўніцтва дарогі мяркуецца весьці двума рукавамі.** Траса складаецца з шасьці палос — тры паласы ў адзін бок, тры паласы ў другі. Пачынаючы зь перакрыжаваньня з вуліцай Мірашнічэнкі дзьве паласы адводзяцца па Заслаўскай бэтонцы, а праз Курапаты ідуць толькі чатыры паласы. Калі гэткі варыянт рэканструкцыі будзе ажыцьцёўлены, можна будзе гаварыць пра вялікую перамогу валанцёраў.

### Крымінальная справа ў Лечкамісіі

**Па фактах парушэньняў у Рэспубліканскай лякарні Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта пракуратура завяла крымінальную справу.** Там, нібыта, выявілі факты парушэньняў у часе набыцьця мэдычнага абсталяваньня, выплаты заработнай платы, прэміяў, невыкананьне нормаў выдачы харчу. Страты дзяржавы ацэньваюцца ў 260 млн. рублёў.

### Новы збор за перасячэньне мяжы

**У памежных зь Літвой і Польшчай раёнах будзе ўведзены збор за праезд праз дзяржаўную мяжу на кантрольна-прапускных пунктах.** Плаціць абавяжуць толькі беларускіх грамадзянаў. Сродкі **пойдуць у бюджэт Гарадзенскай** вобласьці.

Памеры новага збору будуць вызначацца мінімальным заробкам — можа, 20%, а можа й 50% ад яго: абласное фінінсавае ўпраўленьне яшчэ не падбіла ўсе рахункі. Такі збор існаваў і раней, але ў розных раёнах сума яго адрозьнівалася. Для невялікіх раёнаў (Бераставіцкага або Ашмянскага), дзе мала прадпрыемстваў, памежны збор уяўляў для бюджэту істотную суму, а вось у Гарадзенскім раёне са зборам не атрымалася. Летась дэпутаты зацьвердзілі яго, але на памежным пераходзе "Брузгі" адразу адбыўся з гэтай нагоды страйк.

На працягу наступнага году памежны збор абавязкова зацьвердзяць ва ўсіх раёнах. Шанцы зарабіць найбольш грошай на КПП мае сёньня Бераставіцкі раён. Пераход на мяжы з Польшчай у Брузгах закрыты на год, і ўвесь транспарт ідзе праз КПП "Бераставіца".

**Паводле радыё "Свабода"**

### "Культура" на "Радыё-2"

**З 1 студзеня на "Радыё-2" пачаў вяшчаць канал "Культура".** Асноўны зьмест — навіны беларускага й замежнага культурнага жыцьця, інтэрвію зь дзеячамі мастацтва й культуры, музычныя праграмы. На першым канале беларускага радыё акцэнт зроблены на інфармацыйнае вяшчаньне — цяпер выпускі навінаў там трансьлююцца штогадзіны.

### Новы прафсаюзны лідэр

**У тамтую пятніцу адбыўся пазачарговы пленум фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі.** Адзіным пытаньнем было абраньне новага старшыні. Ганчарыка зьмяніў Франц Вітко. За яго прагаласавала абсалютная большасьць удзельнікаў пленуму. Другі намесьнік Мікалай Беланоўскі яшчэ да галасаваньня зьняў сваю кандыдатуру. Вітко родам з Глыбоччыны, да здабыцьця краінай незалежнасьці працаваў на невысокіх пасадах у КПСС.

**Э.Л.**

**Толькі жмінда і лянівы не чытае "Нашай Нівы"!**

**Дык падпісвайся!**

# Эўра



**Афіцыйны знак эўра — літара "е", перакрэсьленая дзьвюма паралельнымі гарызантальнымі рысамі, — нагадвае грэцкую літару "эпсылён", зь якой пачынаецца слова "Эўропа". Паралельныя лініі сымбалізуюць стабільнасьць эўра. Ягоныя стваральнікі спадзяюцца, што гэты знак неўзабаве набудзе гэткую ж вядомасьць, як і знак даляра. Дызайнэр банкнотаў эўра Робэрт Каліна з Аўстрыйскага цэнтрабанку кажа, што выявы вокнаў, арак, брамаў розных стыляў эўрапейскае архітэктуры на пярэднім баку банкноты сымбалізуюць дух адкрытасьці й супрацоўніцтва ў Эўразьвязе. На адваротным баку эўра — выявы мастоў, якія зьяўляюцца мэтафарай камунікацыі паміж народамі Эўропы, а таксама між Эўропай і астатнім сьветам.**

Дызайн манэтаў эўра распрацоўваў бэльгіец Люк Люйкс. Манэты эўра, у адрозьненьне ад банкнотаў, маюць на адваротным баку нацыянальныя сымбалі. На пярэднім баку манэты эўра зьмешчаная выява мапы Эўразьвязу на фоне паралельных лініяў, да канцоў якіх прычэпленыя зоркі эўрапейскага сьцягу.

На сёньня нацыянальныя валюты захавалі толькі тры краіны Эўразьвязу — Вялікая Брытанія, Данія й Швэцыя. Апошняя папросту яшчэ не адпавядае так званым "крытэрам падабенства", якія даюць права ўдзельнічаць у ЭГЗ (стабільнасьць цэнаў, устойлівая фінансавая пазыцыя дзяржавы, стабільны абменны курс ды нізкі ўзровень працэнтных ставак). А Вялікая Брытанія й Данія ня хочуць адмаўляцца ад нацыянальнай валюты як часткі нацыянальнага сувэрэнітэту.

Згаданыя тры краіны маюць права далучыцца да ЭГЗ у любы момант, а вось магчымасьці выхаду з Грашовага Зьвязу Маастрыхцкае пагадненьне не прадугледжвае. Яшчэ згодна з гэтым дакумэнтам краіна мусіць плаціць штраф, калі ейны дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту вышэйшы за 3% валавога ўнутранага прадукту.

Паводле аптымістычных прагнозаў, з увядзеньнем эўра ва ўсім Эўразьвязе выраўняюцца цэны, бо прадпрымальнікі ня змогуць нажывацца на рэгіянальных адрозьненьнях. Гэта ўніфікуе эўрапейскі рынак, а таксама выкліча рост канкурэнцыі. Апанэнты гэтае тэорыі сьцьвярджаюць, што ўвядзеньне эўра наадварот падвысіць цэны, а калі дзе і заўважаная карысная для спажыўцоў уніфікацыя, дык пакуль нішто ня сьведчыць пра тое, што гэтая зьява набудзе ў найбліжэйшы час вялікія памеры. Скептыкі кажуць пра выкліканую рознай падатковай палітыкай у розных краінах (якая надалей застаецца ў нацыянальнай кампэтэнцыі) розьніцу цэнаў. Яна падмацоўваецца цэнавай палітыкай вытворцаў, што зважаюць на розьніцу пакупніцкіх здольнасьцяў "небагатых" партугальцаў і самых заможных (па паказьніку ВУП на чалавека) ва ўсім ЭЗ люксэмбуржцаў ды нацыянальна-культурныя асаблівасьці. Па зьвестках Эўракамісіі, у розных краінах Зьвязу розьніца цэнаў, напрыклад, на бытавую электроніку дасягае 30—50%, на аўтамабілі да 40%, а ў сярэднім цэны вагаюцца недзе каля 20%. На Поўначы Эўропы цэны высокія, на Поўдні — нізкія.

Гандляры, пераводзячы цэны ў эўра, цішком падвышаюць іх. Брытанская фірма *"McKinsey"*, што аказвае юрыдычна-дарадніцкія паслугі, прааналізавала гэта на прыкладзе нямецкіх крамаў. Ейныя аналітыкі зьвярнулі ўвагу на тое, што цэны маюць гэтак званыя "зманлівыя" канцоўкі, якія прывабліваюць спажыўцоў — у выпадку дробных тавараў гэта найчасьцей 1,49 маркі, 0,99 маркі і 2,99 маркі. Калі пералічыць 1,49 маркі на эўра, атрымаецца нязручная з пункту гледжаньня маркетынгу цана ў 0,76 эўра, якую лепш павялічыць да 0,79 эўра альбо панізіць да 0,70. *"McKinsey"* палічыла, што калі гандляры будуць паніжаць цэны, то будуць губляць каля 1,2 млрд. марак штогод (пры агульным аб'ёме рынку ў прыкладна 116 млрд. марак на год). Брусэль загадаў краінам ЭЗ праводзіць маніторынг цэнаў, але сквапныя прадпрымальнікі адшукалі выйсьце і з гэтай сытуацыі, падвысіўшы цэны за пару месяцаў да часу ўвядзеньня эўра. Пра многія падобныя сытуацыі пісаў нямецкі друк — напрыклад, у кастрычніку з-за пераводу цэнаў з марак у эўра кошт спажывецкага кошыка павялічыўся на 0,2—0,4%. Францускі часопіс для спажыўцоў *Que Choisir* падлічыў, што з-за пераводу ў эўра цэны розных тавараў і паслугаў у Францыі вырасьлі на 2—8%. Напрыклад, цэны на выраб крэдытнай карткі, квіткі на праезд у грамадзкім транспарце, газэтную падпіску і рагалікі, якія французы купляюць штодня.

Эўракамісія ня можа даць рады падаражаньню ўжо хаця б таму, што цэны на свае тавары й паслугі ўздымаюць ня толькі прыватнікі, але і дзяржаўныя ўстановы й прадпрыемствы, дарма што ўсе краіны падпісалі своеасаблівы пакт пра нязьменнасьць цэнаў на грамадзкія паслугі. Часта акругленьне цэнаў на карысьць спажыўцоў азначае для грамадзкіх прадпрыемстваў вялізныя страты, якія ўсё адно трэба кампэнсаваць з кішэні падаткаплатніка. Ірляндзкія ўлады апынуліся перад дылемай — альбо дазволіць транспартным прадпрыемствам у сувязі зь пераходам на эўра падвысіць цэны, альбо паставіць гэтыя фірмы перад пэрспэктывай мільённых стратаў.

Раз-пораз паўстаюць і праблемы з-за тых жа памылак машыны, праграмнага забесьпячэньня альбо памылак супрацоўнікаў банку. Колькі тыдняў таму *Irish Independent* пісала, як адзін ірляндзец паспрабаваў перавесьці суму ў пэсэтах, адпаведную 1,5 тыс. ірляндзкіх фунтаў, на свой гішпанскі рахунак. Але з-за кампутарнага збою замест належных 300 тыс. пэсэтаў на рахунак ірляндца трапіла 300 тыс. эўра. Той ня стаў рабіць гвалту дый ціхенька згадзіўся з вынікам гэтае апэрацыі. Але праз пару дзён да яго прыйшлі паліцыянты, і небарака трапіў у турму. Эўрагрошы — гэта вам ня жартачкі.

**Янка Крывіч, Язапат Змысла**

апытаньне "НН"

## Калі Беларусь увойдзе ў зону эўра?

**Міністар фінансаў Мікалай Корбут:**

Гэта зарана абмяркоўваць, бо спачатку трэба мець сваю моцную валюту. На сёньня ж думка — перайсьці да 2005 г. на адзіную валюту з расейскім рублём.

**Колішні старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч:**

Спачатку трэба ўступіць у Эўразьвяз, але зараз мы адстаем ад яго на гадоў 15—20. Што да прывязкі беларускага рубля да эўра, як, напрыклад, прывязваюць свае нацыянальныя валюты да амэрыканскага даляра дзеля іх умацаваньня краіны Лацінскай Амэрыкі, то на гэта трэба гадоў 5.

**Экс-сьпікер Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч:**

Гэта доўгі тэрмін, бо дужа далёка мы адкаціліся назад, больш, чым калі адкатваліся. Адзінае, што мы маем адпаведнае зоне эўра цяпер, — гэта адукаванасьць, дысцыплінаванасьць і працавітасьць. Каб рэальна наблізіць пытаньне аб эўра, Беларусі трэба вярнуцца на ўзровень 91-га, 92-га гадоў. Тады да эўра нам будзе столькі ж, колькі прыбалтам.

**Старшыня АГП Анатоль Лябедзька:**

Калі АГП ды ейныя саюзьнікі прыдуць да ўлады ў Беларусі. Калі ж пачаць рэфармаваньне беларускай эканомікі ужо зараз, то, каб у нас было эўра, спатрэбіцца 10—15 гадоў.

**Актор Купалаўскага тэатру Віктар Манаеў:**

Увойдзе — нікуды не падзенецца. Цывілізаваны сьвет інтэгруецца. Але спачатку мы мусім стаць цывілізаванымі. Мне здаецца, пераход Беларусі на эўра можа быць мажлівым гадоў праз дзесяць. Я ня зь неба гэ-

# Новыя эўрапейскія грошы



Новы 2002 год для эўрапейскай інтэграцыі адзначыўся ўвядзеньнем адзінай наяўнай валюты Эўрапейскага грашовага зьвязу (ЭГЗ) — эўра. Гэта найвялікшая падзея ў жыцьці Эўразьвязу ад часу ягонага стварэньня ў 1991 г. у Маастрыхце. Сёньня ў ЭГЗ уваходзяць 12 дзяржаваў: Бэльгія, Нямеччына, Гішпанія, Францыя, Ірляндыя, Італія, Люксэмбург, Галяндыя, Аўстрыя, Партугалія, Фінляндыя, Грэцыя. Гэтыя краіны каардынуюць сваю эканамічную палітыку, а таксама маюць супольную Эўрапейскую сыстэму цэнтральных банкаў.

Дагэтуль Эўразьвяз быў збольшага справай палітычна-бюракратычных ды фінансава-эканамічных элітаў, але з увядзеньнем агульнаэўрапейскіх грошай ён надзвычай блізка падышоў да шараговых грамадзянаў Эўразьвязу, якія дагэтуль лічылі сябе больш грамадзянамі асобных краінаў, чым эўрапейцамі.

Эўрапейскую валюту ўводзілі ў 3 этапы. За 1991—93 гады ліквідавалі бар'еры для свабоднага перамяшчэньня капіталу паміж краінамі. З 1994 да 1998 г. стварылі Эўрапейскі цэнтральны банк у Франкфурце-на-Майне. Толькі ён мае права друкаваць эўра. З 1999 г. зьявіліся безнаяўныя эўра ды пачалася падрыхтоўка да ўвядзеньня эўрагатоўкі. Супольная валюта мела спачатку называцца "экю" (*"ecu"*), як і ранейшая разьліковая адзінка ў трансакцыях паміж дзяржавамі ЭЗ. Але гэтая назва асацыявалася ў адных зь сярэднявечнай французкай манэтай, у іншых — з партугальскім эскуда. Таму ў 1995 г. пастанавілі, што эўрапейскія грошы будуць называцца эўра.

Ужо гэтай восеньню доля міждзяржаўных трансакцыяў, якія праводзіліся ў эўра, напрыклад, у Нямеччыне ці Францыі дасягала 40%. Многія магутныя фірмы, накшталт "Фіяту" ці "Сымэнзу", даўно перавялі сваю справаздачнасьць на эўра.

І вось з 1 студзеня 2002 г. адзінкі нацыянальных валютаў краінаў ЭГЗ выкарыстоўваюцца ўжо ня толькі ў безнаяўнай форме. Манэты і банкноты нацыянальных валютаў страцяць сваю вартасьць пры канцы лютага, але іх можна будзе абменьваць у банках большасьці краінаў Эўразьвязу да канца году, а пасьля абмен будзе ажыцьцяўляцца на нявыгадных умовах.

Амэрыканцы ня радыя зьяўленьню эўра, яны справядліва бачаць у ім канкурэнта. Прэзыдэнт Амэрыканскага фэдэральнага рэзэрву (установа кшталту Эўрапейскага цэнтральнага банку) Алэн Грынспэн зазначыў, што новай эўрапейскай валюце шкодзіць нягнуткасьць рынку працы: нягледзячы на адкрытыя межы, працоўныя ў краінах Эўразьвязу не мігруюць з рэгіёнаў, закранутых беспрацоўем, як у ЗША. Гэта тлумачыцца культурна-псыхалягічнымі асаблівасьцямі эўрапейцаў і бытавымі цяжкасьцямі (прадаць ці набыць жытло, узяць банкаўскі крэдыт у Злучаных Штатах нашмат прасьцей, чым у Эўропе). Нельга забывацца й на тое, што ў ЗША ўсё-такі адна мова. А ляўрэат Нобэлеўскай прэміі ў галіне эканомікі, стэнфардзкі прафэсар Мілтан Фрыдман лічыць увядзеньне эўра вялікай памылкай: "Эўра мае на мэце стварэньне ўніфікаванай эканамічнай і палітычнай сыстэмы, у той час як Зьвяз перапоўнены супярэчнасьцямі. Прыклад? Ірляндыя і Італія. У той час як Зялёны востраў пільнуецца суворай грашовай палітыкі, Італіі патрэбная большая элястычнасьць у гэтай галіне. Калі немцы зараз паслабяць сваю манэтарную палітыку, гэта немінуча прывядзе да ўнутраных канфліктаў".

Гэта слушна, бо цяпер цэнтральныя банкі больш ня могуць мяняць працэнтных ставак дзеля прадухіленьня эканамічнага спаду альбо "перагрэву" эканомікі. Так, у Ірляндыі эканоміка разьвіваецца хутчэй, чым у іншых краінах Эўропы. Дубліну варта было б павялічыць працэнтныя стаўкі, тады як іншым краінам трэба іх зьніжаць, каб паскорыць эканамічны рост, але цяпер яны павінны праводзіць адзін курс.

Эканамісты нямецкага "Бундэсбанку" схіляюцца да думкі, што ўвядзеньне эўра ня выкліча інфляцыі. Цікавую тэорыю вылучылі аналітыкі аднаго з эўрапейскіх аддзелаў *Daiwa Securities*. Паводле іх, нэгатыўна на эканоміку можа паўплываць сам псыхалягічны дыскамфорт спажыўцоў і ўласьцівае "про- стаму чалавеку" перакананьне, што яго ашукваюць. Страх перад інфляцыяй можа выліцца ў прафсаюзную атаку на працадаўцаў з мэтай падвышэньня заробкаў. Але пачнецца інфляцыя якраз у тым выпадку, калі працадаўцы саступяць і падвысяць заробкі.

Урады асобных краінаў тармозяць працэс уніфікацыі сыстэмаў падаткаў, працоўнага права і фінансавай рэгуляцыі. Пакуль што, па падліках *The Wall Street Journal*, з 41 пастановаў, прыняцьце якіх абсалютна неабходнае для стварэньня

тую лічбу бяру, а з разважаньняў, пры якім пакаленьні такое можа адбыцца.

**Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч:**

То блакітная мара. Поўная нерэальнасьць. Эўра ў Беларусі ўявіць цяжка, бо Лукашэнка — гэта яшчэ не адзін тэрмін.

**Славамір Адамовіч, паэт:**

Ускосна Беларусь *ужо* знаходзіцца ў гэтай самай зоне, бо замест франкаў, марак ды іншых тугрыкаў і на нашай тэрыторыі з 1 студзеня пачалі хадзіць *эўрыкі*. Зь іншага боку, я за тое, каб Беларусь змагла калі-небудзь увесьці ў абарот сваю ўласную канвэрсоўную валюту, пазьбегнуўшы аргентынскага варыянту.

**Анатоль Драздоў, начальнік упраўленьня інфармацыі Нацбанку Беларусі:**

Яно, вядома, добра і прыгожа было б увайсьці ў зону эўра, але давайце разважаць цьвяроза: Польшча й Чэхія вось ужо дзесяць год імкнуцца далучыцца да аб'яднанай Эўропы — і што? Яны пакуль ня трапілі ні ў Эўразьвяз ні, тым больш, у зону эўра. Уявіце, колькі часу трэба нам, каб дасягнуць патрэбных для гэтага эканамічных паказьнікаў. Мая прыватная думка — калі і ўвойдзем (а ўвайсьці было б пажадана, усё-такі мы эўрапейская дзяржава), дык не раней, чым праз дзесяць год. Зрэшты, такія пэрспэктывы пакуль нават не разглядаюцца.

**"Беларусбанк"** прапанаваў грамадзянам краіны, што маюць гатоўку "валютаў эўразоны", пакласьці яе на спэцыяльныя рахункі. Банк абяцае ня толькі аўтаматычна перавесьці маркі, франкі, пэсэты і г.д. у даляры ЗША, але яшчэ і выплачваць іх уладальнікам 5% гадавых, калі пакінуць грошы на рахунку. Грамадзяне ж, якія плянуюць памяняць валюты 12 краінаў Эўразьвязу на гатоўку эўра, мусяць зрабіць гэта да 25 студзеня. Камісійныя складуць 1—5%.

# Данія сказала "не"

**Данія на эўра не перайшла. Для датчанаў тут справа нават ня столькі ў фінансавым сувэрэнітэце, колькі ў захаваньні нацыянальнай самабытнасьці. Датчане баяцца, што, адмовіўшыся сёньня ад кроны — манэты з 800-гадовай традыцыяй — заўтра будуць вымушаныя пагадзіцца і з выцясьненьнем дацкае культуры, і, магчыма, зь перадачай дацкай каралевай сваіх функцыяў нейкай цьмянай "эўракамісіі".**

У любым разе, мяркуе большасьць датчанаў, да такой невялікай краіны, як іхная, ніхто ў "адзінай Эўропе" вельмі прыслухоўвацца ня будзе. "Данія або Злучаныя Штаты Эўропы — выбар за вамі", — пад такім стрыманым лёзунгам ішла на рэфэрэндум аб далучэньні краіны да зоны эўра Дацкая Народная Партыя, праціўнік далучэньня. І гэтага лёзунгу было дастаткова, каб на тым рэфэрэндуме эўраскептыкі перамаглі. Гэта была ўжо ня першая іхная перамога ў гісторыі краіны.

Праціўнікаў скасаваньня нацыянальных валютаў хапае і ў Вялікай Брытаніі, якая традыцыйна аберагае сваю астраўную самабытнасьць, і ў Польшчы, дзе заходні капітал паклаў на лапаткі польскі, і нават у традыцыйна прыхільных да інтэграцыі Нямеччыне ці Гішпаніі. Эўрапейскім інстытутам ня вераць, за будучыню нацыянальных культураў баяцца.

Данія ўдвая меншая за Беларусь. Жыве ў Даніі 5 мільёнаў чалавек. Клімат, а таксама характар жыхароў у нечым падобныя да нашага. Данія слынная ў сьвеце казкамі Андэрсэна, малочнымі прадуктамі, Гамлетам, ціхаю і зычлівай каралевай, а таксама разьвітай сыстэмай сацыяльнай абароны.




No, please! We are British!

Зусім не далучылася да Эўразьвязу суседняя з Даніяй Нарвэгія. Нарвэжцамі, як і датчанамі, кіруюць ня столькі пачуцьці нацыянальнай выключнасьці, колькі боязь згубіцца ў будучай фэдэрацыі — а ўвядзеньне адзінае валюты непазьбежна прывядзе да яе ўтварэньня ў будучыні, хай і далёкай. Енс-Пэтэр Бондэ, адзін зь лідэраў дацкага левага "Чэрвеньскага руху", кажа: "Эўразьвяз нашмат больш цэнтралізаваная структура, чым ЗША. У Амэрыцы кожны штат вольны вырашаць, напрыклад, пытаньні экалягічнага рэгуляваньня самастойна. А ў Эўропе Брусэль бярэцца камандаваць ва ўсім. На рэфэрэндуме Данія прагаласавала за свабоду. Гэта быў не эканамічны, а палітычны выбар. Хай крона каштуе толькі 13 цэнтаў, а эўра — 90, але ейная сымбалічная вартасьць нам каштоўная. Калі немцы і французы ня супраць разьвітацца са сваімі маркамі і франкамі, мы лепей пачакаем і пабачым, што з тае "зоны эўра" стане".



Улётка дацкіх праціўнікаў далучэньня да зоны эўра

Рэзкае (да 30%) падзеньне эўра ў адносінах да даляра пахіснула прэстыж адзінай эўрапейскай валюты. Маленькая Данія распачала схізму, да якой далучыліся Швэцыя і Брытанія. Час пакажа, хто будзе жыць шчасьлівей: тыя, хто гоніцца за эканамічнай эфэктыўнасьцю (а эўра несумненна дасьць штуршок эканамічнаму разьвіцьцю), ці тыя, хто найбольш думае пра захаваньне культурнае традыцыі і нацыянальнае непаўторнасьці як неабходных перадумоваў чалавечага шчасьця і высокай якасьці жыцьця.

Дацкае "не", сказанае эўравалюце, азначае, што побач зь вялікімі ЗШЭ — Злучанымі Штатамі Эўропы — змогуць захавацца і маленькія сувэрэнныя краіны. Калі схочуць.

**Мікола Бугай**

сапраўднага супольнаэўрапейскага рынку, прынятыя толькі 16.

Што ж даюць эўрапейскія грошы паспалітаму народу? Для падарожнікаў увядзеньне эўра азначае ашчаджэньні й зручнасьць, бо больш няма патрэбы мяняць грошы ў кожнай краіне, плаціць за гэта працэнты і прывозіць дахаты жменю непатрэбных манэтаў. Прадпрымальнікі краінаў Зьвязу больш ня будуць мець стратаў з-за ваганьняў валютных курсаў, гандлюючы сваім таварам у іншых краінах ЭЗ. Напрыклад, партугальскі экспарцёр віна больш ня мусіць турбавацца, што партугальскі эскуда вырасьце ў дачыненьні да маркі і гэта зьменшыць ягоныя прыбыткі.

Наколькі пасьпяховым і карысным станецца праект агульнаэўрапейскіх грошай? Эўра ў любым разе ўжо прынесла карысьць задзіночанай Эўропе, бо, рыхтуючыся да ўвядзеньня супольнай валюты, краіны ЭЗ мусілі правесьці аздараўленьне сваёй эканомікі. Адным з галоўных закідаў на адрас эўра зьяўляецца ягоная слабасьць. Насамрэч, 1 студзеня 1999 г. адно эўра каштавала 1,17 даляра, а зараз — каля 90 цэнтаў. Зрэшты, пасьля пасьпяховага ўвядзеньня эўра ягоны курс ў дачыненьні да даляра можа вырасьці дзякуючы таму, што многія нацыянальныя банкі краінаў сьвету вырашылі перавесьці ў эўра свае валютныя запасы. Напрыклад, цэнтральны банк Кітаю абвесьціў, што зьбіраецца большую частку валютных рэзэрваў трымаць у эўра.

Моц валюты вызначаецца ейным прапанаваньнем і попытам. Попыт на тую ці іншую валюту фармуюць галоўным чынам інвэстары. Слабасьць эўра абумоўленая верай інвэстараў у тое, што ўкладаць грошы ў эканоміку ЗША, выгадней, чым у эканоміку краінаў Эўразьвязу. Попыт на інвэстыцыі, паводле сучаснай эканамічнай тэорыі, вызначаецца пяцьцю фактарамі.

Першы фактар прыцягальнасьці для інвэстараў — гэта супольная палітычная, эканамічная і падатковая стабільнасьць. Эўразьвязу ўласьцівыя дзьве небясьпечныя рысы: высокі ўзровень беспрацоўя і нізкі эканамічны рост. Гэта тлумачыцца тым, што ў Эўропу пакуль яшчэ не завітала "новая эканоміка", сутнасьць якой — у здатнасьці атрымліваць прыбытак ад выкарыстаньня інфармацыйных тэхналёгіяў, біятэхналёгіяў ды новых матэрыялаў, якія на сёньня зьяўляюцца абавязковай умовай эканамічнага росту і стварэньня новых працоўных месцаў. Эканамічныя дасягненьні ЗША тлумачацца якраз пасьпяховым выкарыстаньнем "новай эканомікі". Яшчэ Злучаныя Штаты прыцягваюць да сябе інвэстараў лібэральнейшым за эўрапейскае эканамічным заканадаўствам.

Другі фактар, на які зьвяртаюць увагу інвэстары, — гэта пазыцыя ў замежным гандлі. Тут эўрапейская эканоміка выглядае нават лепш за амэрыканскую. Балянс бягучых плацяжоў Эўразьвязу станоўчы. Тым часам у ЗША ён ужо больш за 16 гадоў адмоўны.

Трэці фактар — адсотак інфляцыі, які залежыць ад манэтарнай палітыкі цэнтральнага банку (ад таго, колькі грошай выпускаецца ў абарот). Манэтарная палітыка, у сваю чаргу, абумоўленая ступеньню незалежнасьці цэнтральнага банку ад нацыянальнага ўраду, які можа запатрабаваць ад банку фінансаваць бюджэтны дэфіцыт. Эўрапейскі цэнтральны банк быў змадэляваны зь нямецкага "Бундэсбанку", вядомага сваёй незалежнасьцю ад ураду. Эўрапейскі цэнтральны банк, не падпарадкаваны аніякаму нацыянальнаму ўраду, дагэтуль пасьпяхова змагаўся з інфляцыяй у ЭГЗ. На жаль, выкарыстаньне абмежавальных мераў у барацьбе з інфляцыяй запавольвае эканамічны рост і падвышае адсотак беспрацоўя.

Чацьверты фактар. Рашэньні інвэстараў вызначаюцца чаканьнямі працэнтнай стаўкі. Эўрапейскі цэнтральны банк падвышаў працэнтную стаўку, каб пазьбегнуць магчымага "перагрэву" эўрапейскай эканомікі, але гэтыя страхі былі дарэмныя. Высокія працэнтныя стаўкі ў ЭГЗ прыцягнулі б інвэстараў, якія шукаюць высокія прыбыткі.

Нарэшце, пяты фактар прыцягальнасьці для інвэстараў — статус сусьветнай валюты, які мае амэрыканскі даляр. Нягледзячы на тое, што Эўразьвяз зьяўляецца другой па аб'ёме эканомікай у сьвеце, а ягоная доля ў сусьветным гандлі найбуйнейшая, вельмі мала шанцаў, што эўра адразу здолее замяніць даляр. Статус сусьветнай валюты рэзэрву залежыць ня толькі ад удзелу ў сусьветным гандлі, але й ад велічыні нацыянальнага рынку капіталу ды доўгатэрміновых гарантыяў, што агульны фіскальны і эканамічны дабрабыт не пагоршацца.

Амэрыканскі фэдэральны рэзэрв зьяўляецца пакуль больш эфэктыўнай установай, чым Эўрапейскі цэнтральны банк, бо там лепш пастаўленая сыстэма кіраваньня, чым у падзеленым па "нацыянальным прадстаўніцтве" Эўрапейскім цэнтрабанку. Дый барацьба з інфляцыяй не зьяўляецца першачарговай мэтай Амэрыканскага фэдэральнага рэзэрву, бо стабільнасьць цэнаў — не адзіны фактар, які ўзьдзейнічае на моц ці слабасьць валюты.

**Я.К., Я.З.**

## навіны за тыдзень

### КПП на беларуска-літоўскай мяжы паменее

**Літва й Беларусь маюць намер зачыніць 13 пунктаў спрошчанага перасячэньня мяжы.** 23 такія пункты паўсталі ў 1994 г. — для жыхароў памежных раёнаў, якія ня маюць тавараў, падлеглых пад дэкляраваньне. Рух на іх не інтэнсіўны, бо літоўцы два гады таму ўвялі строгія абмежаваньні на ўвоз тавараў, на гандлі якімі нажываліся многія нашы землякі. Таму Беларусь і Літва ў 1999 г. узьнялі пытаньне пра закрыцьцё часткі зь іх. Перамовы адбудуцца на пачатку году. Наш карэспандэнт у Астраўцы Мар'ян Вянгроўскі кажа, што насельніцтва памежжа моцна нездаволенае закрыцьцём пунктаў спрошчанага пераходу, асабліва абураюцца тыя, хто мае сваякоў у літоўскім сэктары Віленшчыны. А памежнікі наадварот вітаюць такі крок — ім менш працы.

### Муфтый Татарстану запрасіў папу

**Вярхоўны муфтый Расеі і эўрапейскіх краінаў СНД, стаўленік Крамля Талгат Таджудын назваў правакацыйным запрашэньне наведаць Казань,** якое накіраваў Папу рымскаму муфтый Татарстану Гусман Ісхакаў. Таджудын нагадаў, што ў Расеі "ўжо многа вякоў існуе адзіная духоўная прастора традыцыйных канфэсіяў — праваслаўя, ісламу, юдаізму й будызму, таму, запрашаючы іншых духоўных лідэраў, да якіх належыць і Папа, мы абавязаныя ўлічваць спрэчныя моманты ў стасунках паміж канфэсіямі й памятаць пра добрыя адносіны паміж праваслаўнымі і мусульманамі нашай краіны".

### Смурод віскі ў турэцкім Мэджлісе

**Міністар прыватызацыі Турэччыны падараваў кожнаму дэпутату Мэджлісу на Новы год па бутэльцы віскі, дэманструючы посьпехі дзяржаўнай вінна-гарэлачнай фірмы *Tekel*.** Многія дэпутаты, найперш з блізкіх да ісламісцкай партыі колаў, выказалі абурэньне: мусульманам піць алькаголь няможна — дый павылівалі падарунак ва ўнітазы. Пах віскі яшчэ доўга чуўся па ўсім будынку.

### Трэба ратаваць пінгвінаў

***NASA* выказвае занепакоенасьць лёсам антарктычных пінгвінаў.** Разгледзеўшы зробленыя з космасу здымкі айзбэргаў Антарктыды, амэрыканскія спэцыялісты зрабілі выснову, што з-за зруху двух вялізных ледагораў агромністыя калёніі пінгвінаў, што налічваюць сотні тысячаў птушак, могуць сплысьці на своеасаблівых гіганцкіх ільдзінах у цяплейшыя шыроты, дзе льдзіны паціху растануць, а пінгвіны памруць. Немаведама пакуль, як ратаваць тых пінгвінаў.

### Амок

**На паромнай станцыі філіпінскага гораду Сурыгаё мясцовы рыбак, знаходзячыся ў стане амоку, цяжка параніў мачэтэ 22 наведвальнікаў.** Большасьць параненых — дзеці. Прыпадкі амоку — звычайная зьява на Філіпінах і ў Малайзіі. Амок быў апісаны Янкам Маўрам у аднайменным рамане. Гэты стан уяўляе сабой раптоўнае расстройства псыхікі, якое можа выклікацца ўзьдзеяньнем галюцынагенаў.

### Лупцаваньне за залёты

**Як паведаміла саудаўская газэта *Al-Riyadh*, 137 мясцовых жыхароў і 5 іншаземцаў былі публічна адлупцаваныя за тое, што чапляліся да жанчынаў.** Згодна з заявай адпаведнай камісіі мужчыны і надалей будуць карацца падобным чынам за дзеяньні такога роду.

**Сяргей Радштэйн**

# Сяргей стаў Саідам

**Дакладнай статыстыкі, колькі беларусаў за апошнія гады перайшлі ў іслам, няма. З 1994 г. такіх выпадкаў толькі ў Менску і адно толькі Мусульманскае рэлігійнае аб'яднаньне налічыла 95. У асноўным гэта дзяўчаты, што павыходзілі замуж за арабскіх студэнтаў (89). Праўда, усяго паміж хрысьціянкамі й мусульманамі зарэгістравана 223 шлюбы. Такім чынам, толькі кожная трэцяя беларуска, пашлюбаваўшыся з мусульманінам, прыняла мужаву веру.**

**Рэдкія беларускія хлопцы, што ўдаліся ў мусульманства, адмаўляюць, што зрабілі гэта зь нейкае моды. Толькі адзін прызнаўся, што прыняў іслам сярод іншага яшчэ і таму, што гэтая рэлігія найхутчэй распаўсюджваецца, а сваё мусульманскае імя ўспомніў не адразу: "Джафар... не, Шарыф!"**

**Сяргей Дзядко ў 27 гадоў стаўся ў ісламе Саідам, што значыць "шчасьлівы, радасны", але ў пашпарце пакінуў старое імя.**



**Сяргей Дзядко:** Бо гэта не прынцыпова. Гэтаксама па жаданьні робіцца й абразаньне.

**"НН": Скуль вы прыйшлі ў іслам: з каталіцызму ці з праваслаўя?**

**С.Д.:** З праваслаўя, але я быў пахрышчаны ў яго несьвядома, не ад душы. Не, не малым, проста, калі была мода на экстрасэнсаў, я быў пайшоў да аднаго зь іх, але ён мне сказаў, каб я прыйшоў тады, калі пахрышчуся. Праваслаўе мяне не задавальняла ў прынцыпе. Я не прымаў абразоў, бо трэба стасавацца з самім Богам. Дарэчы, у ісламе пакланеньне каму-небудзь, апрача Аллага, ёсьць самым вялікім грахом. Не падабалася, што сьвятары ўзялі на сябе права адпускаць грахі. Паводле ісламу, гэта можа зрабіць толькі Бог, ад дробных грашкоў ачышчае штодзённая пяціразовая малітва. Царква — ня Бог. Мой пераход у іслам адбыўся ня проста так: дагэтуль я пацікавіўся і вывучыў іншыя сусьветныя канфэсіі. Іслам вывучаў два гады, паступова прымаючы ягоныя прынцыпы, якія супадалі з маімі асабістымі. Напрыклад, ня браць у рот ні кроплі алькаголю. Бо за гэтым цягнецца лаянка, распуста, забойства. Я ня п'ю ўжо шэсьць гадоў, а ў мусульманстве — чатыры гады.

**"НН": А ці цяжка ў беларускіх умовах выконваць штодня ўсё, што мусіць рабіць вернік-мусульманін, тыя ж малітвы чытаць?**

**С.Д.:** Малітва доўжыцца максымум дзесяць хвілінаў. Як часта і зусім не патроху мы сядзім і нічога ня робім, ні аб чым не задумваемся! А малітва — гэта і хвала Аллагу, і ачышчэньне ад грахоў. Кожны дзень у нас абавязковая пяціразовая малітва: пяціхвілінная зранку, яшчэ да працы, потым апоўдні, пасьля яшчэ празь дзьве гадзіны, увечары і ноччу па дзесяць хвілін. Маліцца мне ўдаецца заўсёды. Неяк знаходзіўся ў офісе ў знаёмага, падышоў час малітвы — я сказаў яму пра гэта. Ён: калі ласка, няма праблемаў. Паслаў газэту на падогу, бо трэба, каб было чыстае месца, і памаліўся. Нельга яшчэ маліцца там, дзе дужа багата народу і тлумна. Напрыклад, на дарозе, на рынку.



Сяргей Дзядко

**"НН": Здаецца, у ісламе забаронены ня толькі алькаголь, але й сьвініна?**

**С.Д.:** У хрысьціянстве й юдэйстве таксама забаронена есьці сьвіней. Сьвіньні жаруць абы-што — усялякія адкіды, у тым ліку фэкаліі. Іншае мяса есьці можна, праўда, калі яно здабыта адмысловым чынам і з мусульманскай малітвай. Звычайна на нашых птушкафабрыках курэй забіваюць токам, кроў запякаецца ў мясе. Утвараюцца таксыны, шкодныя для здароўя чалавека. Правільней забіваць курыцу так: перараззаць горла, каб кроў выцякала. На Камароўцы зь месяц таму зьявілася месца, дзе гандлююць мясам мусульмане. У іх я яго і купляю. Наагул ёсьць шмат людзей, хто проста лічыцца мусульманінам ад нараджэньня, але Кур'ану не трымаецца, гэтыя ж шчырыя мусульмане, я іх ведаю асабіста. Ужываць мяса жывёлы, забітай ня так, як сьлед, дазваляецца толькі ў выключных выпадках, калі няма чаго есьці.

Што да іншых табу, то прававернаму мусульманіну няма чаго рабіць на дыскатэках, дзе жанчыны апранутыя ў нястрогае адзеньне. Гэта грэх для вока. Ужо ня кажучы пра дотыкі ў танцах. У беларускім грамадзтве стала нормай, што першае-другое спатканьне сканчаецца ў мужчыны з жанчынай, як той казаў, лягічна. Паводле ісламскіх законаў, калі жанаты ўчыніць здраду ды будуць чатыры сьведкі гэтага, то гэта сьмяротная кара, калі нежанаты — сто ўдараў палкай. Шмат падману і ў беларускім бізнэсе. У сапраўдных мусульман такога не здараецца. Дарэчы, у ісламе лічыцца, што чалавек нараджаецца чыстым мусульманінам, а псуе яго якраз нэгатыўнае навакольле.



**"НН": А самі вы ці жанатыя і з кім?**

**С.Д.:** Зь беларускай. Яна ўзяла іслам за 4 месяцы да вясельля паралельна са мной.

**"НН": Ці сутыкаліся вы калі з нэгатыўнай рэакцыяй на тое, што вы беларус і мусульманін?**

**С.Д.:** Сваякі, сябры і знаёмыя паставіліся да гэтага нармалёва, ніякіх канфліктаў не было. Праўда, калісь выходзіў на мяне супрацоўнік КДБ. Ведаеце ж, апошнім часам іслам раўняюць аж з бандытызмам. Хоць гэта абсалютна гуманная рэлігія. Той з органаў пачаў задаваць розныя пытаньні, давялося тлумачыць сутнасьць ісламу. Стэрэатыпы якраз ад таго, што многія ня ведаюць, што такое іслам. Ніводзін прапаведнік ніколі ня будзе заклікаць да гвалту. Тэрарызм да ісламу ніякага дачыненьня ня мае. Нават у самім выразе "ісламскі экстрэмізм", што часта гучыць у апошні час з тэлевізару, ёсьць вялізная недарэчнасьць. А да тэрарызму я стаўлюся з абсалютным асуджэньнем, тым больш што калісьці служыў у спэцаддзеле па барацьбе з тэрарызмам.

**Гутарыў Ігнат Чакацкі**

**Паводле перапісу 1999 г., у Беларусі стала жыве 28 тысяч мусульманаў. Разам з тымі, хто жыве ў Беларусі нястала, іх у 2—3 разы болей. Гэта беларусы-мусульмане (татары), азэрбайджанцы, таджыкі, аўганцы, туркі і чачэнцы.**

архіў

# "Што гэта за Ўласаў", або Яшчэ раз пра "Купалаў кажушок"

**Гісторыя пра "кажух ад Купалы", пераказаная ў "НН" ад 19 лістапада 2001 г., падалася большасьці чытачоў цалкам легендарнай. Аднак дакумэнты, што доўгі час захоўваліся ў сакрэтным архіве асобага сэктару ЦК КПБ, а зараз знаходзяцца ў Нацыянальным архіве Беларусі, сьведчаць, што чуткі, нібыта Купала й Колас дапамагалі "ворагу народу" Аляксандру Ўласаву, нарадзіліся не на пустым месцы. Былыя супрацоўнікі "Нашай Нівы", а на той час — "жывыя клясыкі" беларускай савецкай літаратуры (да Купалы з Коласам далучыўся Зьмітрок Бядуля), сапраўды зрабілі шляхетную спробу ўратаваць свайго колішняга рэдактара. Спроба тая была тым больш ганаровай, што аўтары пададзенага ніжэй ліста разумелі, чым рызыкавалі. Разумеў гэта і ягоны адрасат.**

Што праўда, перад тым як заступіцца за Ўласава, Янка Купала ў чарговы раз прадэманстраваў сваю ляяльнасьць да ўлады — перадаў у ЦК КП(б)Б ліст, накіраваны яму Аляксандрай Уласавай адразу пасьля арышту ейнага мужа. Пра менавіта такое разьвіцьцё падзеяў сьведчыць наступны дакумэнт:

№ 1357 11 сьнежня [193]9

Наркаму ўнутраных справаў БССР — тав.Цанаву

Накіроўваецца ліст Уласавай Аляксандры, адрасаваны на імя Янкі Купалы ў справе затрыманьня ейнага мужа — Уласава — у г.Маладэчне, з рэзалюцыяй сакратара ЦК КП(б)Б т.Панамарэнкі "тав. Цанава — гэты ліст атрымаў Купала. Прашу даведку, што гэта за Ўласаў".

Ліст падлягае вяртаньню ў Асобы сэктар ЦК КП(б)Б.

Заг. Асобага сэктару ЦК КП(б)Б (Камінскі)

**На жаль, ліста Ўласавай у** справе няма, аднак пэўныя высновы можна зрабіць і безь яго. Па-першае, ейны зварот да Купалы выклікаў разгляд справы Аляксандра Ўласава ў самых высокіх эшалёнах БССРаўскага кіраўніцтва. Па-другое, савецкі намесьнік у Беларусі Панцеляймон Панамарэнка, апеты ў свой час Барысам Сачанкам як найлепшы сябар "нацыянальнай творчай інтэлігенцыі" (гл.: Сачанка Б., Сьняцца сны аб Беларусі, Менск, 1990, с.146—148), нават ня ведаў, "што гэта за Ўласаў" і якое месца ён займае ў гісторыі беларускай культуры. Па-трэцяе, цяпер можна зусім пэўна сьцьвярджаць, што расправа над Уласавым адбылася пад пэрсанальным кантролем першых асобаў Савецкай Беларусі і ейнага НКВД. Сёньня ёсьць магчымасьць назваць прозьвішча чалавека, асабіста адказнага за зьнішчэньне легендарнай постаці беларускага нацыянальнага руху першай паловы XX ст. Мяркуйце самі:

№ 1390

22 сьнежня 1939

Нам. наркама ўнутраных справаў БССР — тав. Рашэтнікаву.

Накіроўваецца ліст Уласавай Аляксандры на імя Янкі Купалы й Ваш адказ ад 14/XII — 39 г. за № 8992 аб праверцы фактаў, выкладзеных у лісьце, з рэзалюцыяй сакратара ЦК КП(б)Б т.Панамарэнкі.

Пра выніку па справе Ўласава А.Н. паведамце т.Панамарэнку зь вяртаньнем перапіскі.

Заг. Асобага сэктару ЦК КП(б)Б (Камінскі)

[На адвароце]: Рэзалюцыя: т.Рэшэтнікаў — прашу разабрацца ў справе асабіста. (Панамарэнка).

(Машынапіс, водпуск, НАРБ, ф.4, воп.21, спр.1691, арк.340.

*Пераклад з расейскай.)*



Аляксандар Уласаў, першы рэдактар "НН"

А праз чатыры месяцы Панамарэнка атрымаў допіс, пра які я згадваў у пачатку гэтай зацемкі. На простым лісьце паперы, ад рукі (спэцыялісты пры жаданьні здолеюць вызначыць, чыім менавіта аўтографам ёсьць тое пасланьне), у мове, зразумелай для ўладароў "першай у гісторыі дзяржавы беларускіх работнікаў і сялянаў", то бок па-расейску, тры самыя вядомыя і ўплывовыя на той час беларускія пісьменьнікі выступілі ў абарону чалавека, які калісьці даў ім "шлях у жыцьцё". Няёмка мне было браць на сябе адказнасьць за пераклад на беларускую мову сумеснага твору ажно трох клясыкаў беларускае літаратуры, таму прапаную тэкст у арыгінале:

Секретарю Центрального Комитета Коммунистической Партии большевиков Белоруссии тов. П.К.Пономаренко

В сентябре месяце 1939 г. органами НКВД был арестован в г.Молодечно Александр Никитич Власов. С именем Власова неразрывно связана организация первых белорусских газет — "Наша Доля" и "Наша Ніва". В "Нашей Доле" он был ближайшим и одним из руководящих сотрудников. После того, как "Наша Доля" была закрыта (в 1906 г.), а ее редактор был осужден к заключению в крепость, стала выходить другая белорусская газета "Наша Ніва", редактором которой был Власов. Мы также принимали активное участие в названных газетах как их сотрудники, помещая свои статьи и стихи, протестуя в них против самодержавного произвола, против социального и национального угнетения белорусского народа. Мы хорошо знаем Власова как человека, преданного трудовому народу, как культурного работника и собирателя разрозненной белорусской интеллигенции с тем, чтобы поставить ее на службу народа. Против русской культуры Власов никогда не относился отрицательно и в своей деятельности не ставил вопроса об отрыве белорусского народа от народа русского. В настоящее время Власов уже старик, и было бы несправедливо для него, если бы он на склоне своих лет не принял участия в строительстве новой социалистической культуры народа, за который он боролся и много отдал лет своей жизни. Поэтому мы просим Вас, тов.Пономаренко, пересмотреть вопрос о Власове и отнестись снисходительно к его ошибкам, если они у него были, и дать ему возможность реабилитировать себя на советской работе.

Якуб Колас

Янка Купала

Змитрок Бядуля

26 IV 1939 г. [відавочная памылка, трэба - 1940 г.]

*Рукапіс, арыгінал, аўтографы аўтараў, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусі, ф.4, воп.21, спр.1810, арк.75.*

Вынікам цытаванага звароту мог быць хіба толькі адносна мяккі вырак колішняму польскаму сэнатару: 5 гадоў лягеру — найменшы тэрмін з тых, якія атрымлівалі "беларускія буржуазныя нацыяналісты". Але паважны век, перанесеныя ў турме пакуты й страшная сібірская лягерная зіма не далі Ўласаву перажыць і першы год за калючым дротам...

Што ж да "Купалавага кажушка", то цяпер мы, прынамсі, ведаем: калі б нават гэтая гісторыя й была цалкам легендарнай, нейкая кропля праўды ў ёй ёсьць. І ў кроплі гэтай, як гэта заўжды бывае, адлюстраваўся акіян сталых сюжэтаў нашай падсавецкай гісторыі: "каты і ахвяры", "тыя, хто саджаў, і тыя, каго саджалі", "беларусы і прыхадні", "з кім вы, майстры культуры?" *etc., etc., etc.*

А на клясыкаў нашых падсавецкіх усё ж такі зараз мусім глядзець з трохі большай павагай.

**Ігар Лялькоў**

# Беларусы на Амазонцы

Амазонская опэра не была трызьненьнем. Яна паўстала ў эпоху "гумовага буму", які ахапіў Бразылію пры канцы XIX ст. Яшчэ Хрыстафор Калюмб бачыў, як індзейцы на Гаіці гуляюцца ў мячы, зробленыя з загуслага соку нейкага дрэва. Нейкі іншы эўрапеец распавядаў, што індзейцы падточвалі дрэвы, зьбіралі зь іх нейкае дзіўнае "малако" ды мачылі ў ім сваю вопратку й абутак, ад чаго тыя рабіліся больш трывалымі й не прапускалі вады. У XVIII ст. таямнічае індзейскае рэчыва было названае каўчукам. Атрымаць яго можна з бразыльскай гевэі (*Hevea brasiliensis*) — дрэва сямейства малачаевых, якое расьце ў Бразыліі. Адна дарослая гевэя можа даць да 7 кг гэтага прадукту.

У 1820-х шатляндзкі хімік Чарльз Макінтош атрымаў з каменнавугальнай смалы вадкасьць, у якой можна было распушчаць каўчук. Рошчына укладалася паміж дзьвюма варствамі тэкстылю, і атрымлівалася воданепранікальная тканіна. Непрамакальныя плашчы-макінтошы хутка ўвайшлі ў моду. Цэны на каўчук вырасьлі. Яшчэ больш яны ўзьняліся, калі з гэтага рэчыва пачалі рабіць аўтамабільныя шыны.

Манаполію на каўчук у той час трымалі бразыльскія гумовыя бароны, якія збольшага жылі ў Манаўсе — невялічкім гарадку, што месьціцца ў глыбіні амазонскай сэльвы, за 1600 км ад атлянтычнага ўзьбярэжжа, якраз там, дзе Рыё-Нэгра зьліваецца з Амазонкай. Менавіта Манаўс быў першым у Бразыліі горадам, у якім зьявілася электрычнасьць. Па ягоных ярка асьветленых вуліцах бегалі трамваі. Тут была сучасная каналізацыйная сыстэма, а таксама гавань зь вялізным плывучым докам, у якую, падымаючыся ўверх па Амазонцы, заходзілі акіянскія параходы.

Опэрны тэатар у Манаўсе пачалі будаваць у 1882 г. Тамтэйшыя багатыры ахвяравалі на яго 5 мільёнаў даляраў — астранамічная па тых часах сума. Уплывовыя і багатыя гараджане не спыняліся ні перад чым дзеля дасягненьня сваёй амбітнай мэты — пабудаваць найпрыгажэйшы ў сьвеце опэрны тэатар. Будаўніцтва доўжылася амаль 15 гадоў. Усе матэрыялы імпартаваліся з Эўропы — нават цэмэнт. Мармуровыя калёны і жырандолі былі прывезеныя з Італіі, люстры — з Францыі й Бэльгіі, чыгунные лiцьцё — з Англіі, камяні для сцэнаў — з Партугаліі. Дрэва для паркету было, праўда, бразыльскае, але апрацоўвалася яно ў Італіі. Грандыёзны купал колераў бразыльскага нацыянальнага сьцягу складаўся з 36 тысяч паліваных керамічных плітак, прывезеных з Вэнэцыі. У падмурак укладаліся вялізныя камяні, прамочаныя ў каўчуку, каб у залі не чуваць было вулічнага тлуму. Вакол тэатру насадзілі ладны парк, упрыгожаны мармуровымі статуямі, прывезенымі з Англіі.

Афіцыйнае адкрыцьцё Амазонскай опэры адбылося 31 сьнежня 1896 г. Гараджане захоплена сузіралі раскошныя інтэр'еры. Заля ў форме арфы з 22 калёнамі, кожная зь якіх была ўпрыгожаная стылізаванай маскай якога-небудзь артыста, пісьменьніка альбо кампазытара — Шэксьпіра, Гётэ, Моцарта, Бэтховэна, Вагнэра, Расыні... Столь Опэры была спраектаваная і размаляваная такім чынам, што ў гледачоў стваралася ўражаньне, быццам яны знаходзяцца пад Эйфэлевай вежай. Асьвятляла залю агромністая крыштальная жырандоля. Заслона ўяўляла сабой грандыёзнае жывапіснае палатно пад назваю "Спатканьне водаў", створанае бразыльскім мастаком Крысьпімам да Амара. Сцэна паводле сваіх памераў надавалася нават на пастаноўку вагнэраўскага "Пярсьцёнка Нібэлюнгаў".

Адкрылася Опэра галя-канцэртам з удзелам эўрапейскіх зорак. Праз тыдзень, 7 студзеня 1887 г., там адбылася прэм'ера опэры Панк'елі "Джаконда". Ейная атмасфэра дакладна адбілася ў знакамітым рамане Гастона Лёру "Фантом опэры" (1910), які стаўся сюжэтнай асновай для шматлікіх спэктакляў і экранізацыяў (у тым ліку для славутага мюзыклу Ўэбэра). На працягу двух дзесяцігодзьдзяў у Амазонскай опэры выступалі найлепшыя артысты. Тут сьпяваў Энрыка Каруза, танцавала Ганна Паўлава, дэклямавала Сара Бэрнар. Штогод трупа міланскага тэатру "Ля Скаля" выпраўлялася за акіян, каб адыграць некалькі спэктакляў у Манаўсе.

Казка скончылася ў 1910 г., калі зярняты гевэі, выкрадзеныя адным прадпрымальным ангельцам, далі выдатны ўраджай на зямлі Маляйзіі. Там гевэю вырошчвалі на плянтацыях, акуратна абрываючы лісьце, каб уся ейная сіла ішла ў сок. Бразыльцы, якія здабывалі каўчук зь дзікіх зарасьнікаў гевэі, ня здолелі канкураваць з азіяцкімі вытворцамі.

Манаўс хутка зьбяднеў. Гумовыя бароны пазьяжджалі ў Эўропу. Опэрны тэатар разбураўся пад уплывам гарачыні й вільгаці. Сцэну сталі выкарыстоўваць як футбольнае поле, глядзельную залю — як бэнзасховішча. На тое, каб толкам адрамантаваць памяшканьне, не хапала грошай. Што праўда, пасьля адной з рэстаўрацыяў, у 70-я гады, у Манаўсе нават сьпяваў Пласыда Дамінга. Яму заплацілі мільён даляраў ганарару, а ў горадзе ледзь не пачаліся народныя бунты з прычыны неверагодна высокіх цэнаў на квіткі.



Вадзім Іваноў з жонкай Ляўрай і дачкой Марыяй Паўлай.

Сапраўднае адраджэньне Опэры пачалося тады, калі губэрнатар Амазоніі Амазаніна Мэндэс вырашыў дзеля прыцягненьня турыстаў стварыць у Манаўсе прафэсійны сымфанічны аркестар, хор, балет ды ладзіць там штогод опэрны фэстываль найвышэйшае клясы. Бо ні нафтаапрацоўчы завод, ні зборачныя цэхі японскай электронікі, ні бровар сталых прыбыткаў месту не забясьпечвалі. Вось і вырашылі гарадзкія ўлады зарабляць на турызьме. Губэрнатар выдаткоўвае на аднаўленьне Опэры больш за 2 млн. даляраў штогод — сума вялізная для гораду з паўтарамільённым насельніцтвам, палова якога — непісьменныя, а сярэдні заробак рабочага ледзьве перавышае 100 даляраў у месяц. У 1997-м адбыўся першы опэрны фэстываль.

Тады ж у Манаўсе зьявіліся беларусы. Амаль уся трупа Беларускай опэры разам з аркестрам і хорам узяла ўдзел у канцэртных выкананьнях опэраў "Травіята" і "Кармэн".

Праз колькі месяцаў у Менску зьявіліся бразыльскія эмісары на чале з Хуліё Мэдальяй — папулярным у Лацінскай Амэрыцы дырыжорам і кампазытарам, бацькам "трапікальнага джазу". Яны прыехалі, каб запрасіць беларускіх музыкаў на працу ў манаўскую Опэру. Згадзіліся 16 чалавек. Сярод тых, хто паехаў у 1997-м у Манаўс, былі скрыпачы Рэгіна Саркісава, Анжэла Жарэга, Ігар Жук, Валянціна Гасьціловіч, альтыст Аляксандар Хахлоў, віяланчэліст Антон Мінянкоў, габаістка Вікторыя Татур, клярнэтысты Аляксей Вакуленка і Дзяніс Іваноў, фаготысты Аляксандар Мурзіч і Сяргей Фаміноў, трубач Яўген Герасімаў, літаўрыст Уладзімер Судноўскі.

Цяжка ім было звыкнуць да новых умоваў. Сьпякота 35—40 градусаў увесь год, вільготнасьць больш за 90%, смурод і бруд на вуліцах. Экзатычная ежа — беларусы зь цяжкасьцю звыкалі да сэндвічаў са смажанымі пальмавымі пладамі й іншых кулінарных дзівосаў. Яшчэ тамтэйшы клімат бязьлітасна нішчыць музычныя інструмэнты. Дый публіка ня дужа вытанчаная — амазонскія жыхары без залішняй сарамлівасьці займаюцца каханьнем проста ў двароях і ў сквэрах. У першыя гады беларускія музыкі мусілі граць на вуліцах у атачэньні адмыслова нанятых прастытутак і трансвэстытаў, каб прыцягнуць у тэатр публіку. А ўдзень яны рэпэтавалі ў тэатры — наведваньне іхных рэпэтыцыяў уваходзіла ў стандартную праграму экскурсіяў.

Цяпер публіка ахвотна купляе танныя квіткі ў опэру, турысты з энтузіязмам ходзяць на канцэрты, прыяжджаюць на фэстываль. Хуліё Мэдалья пасварыўся з бацькамі гораду і зьехаў з Манаўсу. З таго часу рэпэртуар аркестру зрабіўся больш цікавым і разнастайным. Апрача венскіх вальсаў і аргентынскіх танга, у ім зьявіліся сур'ёзныя і складаныя творы Стравінскага, Віла-Лёбаса, Уладзімірава. Гарадзкія ўлады Манаўсу адчынілі новую музычную школу, дзе беларускія музыкі вучаць бразыльскіх дзяцей.

Многія аркестранты прыехалі ў Манаўс з мужамі або жонкамі, якім няпроста знайсьці там працу. Так, з габаісткай Вікторыяй Татур прыехаў ейны муж, скульптар Юры Пятроў. Ці патрэбны ў Амазоніі беларускі скульптар?



Яўген і Тацяна Герасімавы з дачкой Ганнай, грамадзянкай Бразыліі.

Клярнэтыст Вадзім Іваноў першы з нашых музыкаў ажаніўся з амазонскай дзяўчынай. У Вадзіма й Ляўры нарадзілася сьветлавалосая і сьветлавокая дачка Марыя Паўла. Ёй ужо амаль два гады. Вадзім пачуваўся б цалкам шчасьлівым, калі б не туга па радзіме, дзе засталася маці, сястра, сябры... У трубача Яўгена Герасімава і ягонай жонкі флейтысткі Тацяны таксама нарадзілася ў Манаўсе дачка.

Беларускія музыкі ў Амазоніі задаволеныя сваім жыцьцём. "У Менску я зарабляла 35 даляраў у месяц. У мяне не было кватэры. Я мусіла жыць у сяброў", — кажа Анжэла Жарэга, якая некалькі год працавала ў Манаўсе канцэртмайстрам першых скрыпак. Сярэдні заробак у Амазонскім філярманічным аркестры — 1600 даляраў у месяц. Усе музыкі, многія зь якіх у Менску туляліся па інтэрнатах, маюць уласныя кватэры альбо катэджы. Скрыпач Ігар Жук ужо набыў навюткі "Фальксваген-Гольф" са стэрэасыстэмай і кандыцыянэрам.

Рэпутацыя ў беларускіх музыкаў надзвычай высокая. За апошні год пра іх пісаў аўстралійскі тыднёвік *The Sunday Telegraph*, а таксама амэрыканскія газэты *Newsweek International* і *The Washington Post*. Расьце і аўтарытэт Амазонскага філярманічнага аркестру. Неўзабаве можна чакаць ягоных гастроляў у ЗША. Беларускіх музыкаў у Манаўсе ўсё прыбывае. Нядаўна зь Менску зьехаў таленавіты клярнэтыст Дзяніс Парэчын. Яшчэ шмат хто сядзіць на валізках... Прычым аркестар Беларускай опэры, нягледзячы на такія значныя страты, гучыць па-ранейшаму добра. Гэта значыць, што ў менчукоў ёсьць нядрэнныя музычныя рэзэрвы!

Нядаўна я атрымала ліст ад дырыжора Хуліё Мэдальі. Маэстра спадзяецца, што беларускія музыкі, якіх ён перацягнуў у Бразылію, застануцца там назаўжды. Сёлета ён атрымаў прапанову стварыць міжнародны музычны цэнтар у Курытыба, на поўдні Бразыліі, дзе клімат лагаднейшы за амазонскі. "Гэта самы цывілізаваны горад ва ўсёй краіне, — піша маэстра Мэдалья. — Тутака я буду ствараць новы аркестар. У мяне ёсьць мара прыехаць у Менск і забраць музыкаў, якія яшчэ там застаюцца". Я вельмі баюся, што гэта яму ўдасца.

**Юлія Андрэева**



Удзельнікі Амазонскага філярманічнага аркестру, амаль палова зь іх — беларусы. Здымак зроблены ў фае Амазонскага тэатру.

Мультсэрыял.
8.20 Тата, мама, я - спартовая сям'я.
9.05 Сам сабе рэжысэр.
10.30 "Санта-Барбара". Сэрыял.
16.30 "Ну, пачакай!" Мультфільм.
16.45 Камэдыя "Абсалютна сур'ёзна".
18.00 Прыгодніцкі фільм "Эмісар цара".
19.35 Мясцовы час. Весткі - Масква.
19.55 Фантастычны фільм "Дзюна".
22.15 Мясцовы час. Весткі - Масква.
22.30 Вострасюжэтны фільм "Чорны арол".
23.55 Прагноз надвор'я.

## КУЛЬТУРА

9.40 Разуменьне.
10.45 Айчына і лесы.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Ох, ужо гэтыя дзеткі". Мультфільм.
12.15 Чым жыве Расея.
12.30 Д.Хармс. "Котка і іншыя".
13.00 "Вандроўка пана Кляксы". Маст. фільм. 1-я сэрыя.
14.20 "Ну, пачакай!" Мультфільм.
14.45 Архітэктурная галерэя.
15.10 "Шукальнікі". Сэрыял.
16.05 "Вандроўкі музыкі".
16.35 Разуменьне. "Магнэтызм".
17.50 Пятае вымярэньне.
18.15 "Гранд". Сэрыял.
19.15 "Іван Безьзямельны, ці Расея расейцаў". 3-я сэрыя.
19.45 Дабранач, дзеці!
20.00 XX стагодзьдзе. Выбранае.
20.40 Кароткамэтражныя мастацкія фільмы.
21.35 Культурная рэвалюцыя.
22.30 "Джазафрэнія".

## НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёньня.
7.15, 12.45 У запас.
7.20 Нашы любімыя жывёлы.
7.25 Карданны вал.
7.35 Пяць хвілін з Наважонавым.
7.40 Мультфільм "Кацяня, якое звалі Гаў".
07.55 Сэрыял "Хуткая дапамога".
9.25 Свая гульня.
10.05 "Працяг будзе..."
11.20 Сэрыял "Паліцыянты".
13.20 Ток-шоў "Прынцып "Даміно".
14.35, 17.30 Крымінал.
15.25 Камэдыя "Сустрэнемся на Таіці".
18.40 Дэтэктыў "Ніра Вульф і Арчы Гудвін. Пакуль я не памер". Фільм 2-гі.
21.50 "Зусім сакрэтна". Інфармацыя для роздуму.
22.45 Камэдыя "Сустрэнемся на Таіці".

## EUROSPORT

9.30, 13.00, 23.30, 1.45 Ралі.
10.00 Парусны спорт.
10.30, 13.30, 18.30 Біятлён.
11.30 Паўночная камбінацыя.
12.30 Лыжны фрыстайл.
14.30, 19.30, 21.30, 0.15 Футбол.
16.00 Тэніс.
0.00, 2.15 Навіны.

# ПЯТНІЦА, 11 СТУДЗЕНЯ

## БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 0.15 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.10 "Брыгады "Тыгра". Сэрыял (Міжнародны французскі канал).
10.05 Сад мары. Перадача для дачнікаў.
10.30 "Маленькія Айнштайны". Сэрыял для дзяцей (Нямеччына).
11.00 "Сямейныя повязі". Сэрыял (Бразылія).
12.15 Добры дзень, Беларусь!
13.00 "Прынцэса цырку". Маст. фільм (СССР). 2-я сэрыя.
14.15 Дак.сэрыял "Скарбы сусьветнай культуры" (Нямеччына).
15.15 "Горац". Мультсэрыял (Міжнародны французскі канал).
15.40 "Маленькія Айнштайны". Сэрыял для дзяцей (Нямеччына).
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5х5". Інфармацыйна-забаўляльная праграма для старшаклясьнікаў
17.00 "Брыгады "Тыгра". Сэрыял (Міжнародны французскі канал).
18.20 Зона Ікс.
18.30 М.Церахава і М.Баярскі ў клясычнай камэдыі "Сабака на сене" (СССР). 1-я і 2-я сэрыі.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.50 "Сямейныя повязі". Сэрыял (Бразылія).
22.40 Спорт-кур'ер.
22.50 Дэтэктыўны сэрыял "Атрад па барацьбе з мафіяй" (Гішпанія).
0.30 Беларуская дваццатка.

## СТВ

6.00 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры". Сэрыял.
6.30 "Цік - герой". Мультсэрыял.
7.00 "Фантастычная чацьверка". Мультсэрыял.
7.30 "Прынцэса Сысы". Мультсэрыял.
8.00 "Тэма дня".
8.10 "Віртуальны сьвет".
8.20 "Прэм'ер-парад "Сталічны". Гумарыстычная праграма.
8.25 "Сьнеданьне зь Лікай".
8.30 Прыгодніцкая камэдыя "Дэжа вю".
11.00 "Аўтапанарама".
11.15 "М1". Музычная праграма.
11.30 "Дарма і Грэг". Сэрыял.
12.00 "24 гадзіны".
12.15 "Чорны пакой". Сэрыял.
12.45 "Ня з гэтага сьвету". Дак. фільм.
13.50 "Каменская": "Гульня на чужым полі". Сэрыял.
15.00 "24 гадзіны".
15.30 "Фантастычная чацьверка". Мультсэрыял.
16.00 "Цік - герой". Мультсэрыял.
16.30 "Магутныя рэйнджэры". Сэрыял.
16.55 "Чарцяня". Тэленавэля.
18.00 "24 гадзіны".
18.15 Цэнтар забаваў "Мэдысан авэню".
18.45 "Тэма дня".
18.55 "Прэм'ер-парад "Сталічны". Гумарыстычная праграма.
19.00 "Сымпсаны". Мультсэрыял.
19.30 Трылер "Крызыс".
21.30 "Каменская": "Гульня на чужым полі". Сэрыял.
22.45 "Аўтапанарама".
23.00 "24 гадзіны".
23.15 "Віртуальны сьвет".
23.35 Драма "Пурпуровая дзіва".
1.25 "М1". Музычная праграма.

## ОРТ

8.00, 11.00, 17.00 Навіны.
8.15 "Зямля каханьня". Сэрыял.
9.15 Куміры. Выпрабаваньне славай.
9.40 "Ералаш".
9.45 "Слабое зьвяно".
10.35 "Падарожныя нататкі".
10.50 Бібліяманія.
15.10 Камэдыя "Чароўная сіла мастацтва".
16.05 Вялікае мыцьцё.
17.25 Дак. дэтэктыў "Гандляры шчасьцем". Справа 2001 году.
18.00 "Зямля каханьня". Сэрыял.
19.00 Поле цудаў.
20.00 Час.
20.35 Дэтэктыў "Барханаў і ягоны целаахоўнік".
22.45 Начны "Час".
23.05 Камэдыя "Асьцярожна, закладнік!".

## РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Весткі.
8.15 "Пра лісяня. Месяцавая дарожка". Мультсэрыял.
8.20 Тата, мама, я - спартовая сям'я.
9.10 Новая "Старая кватэра".
10.30 "Санта-Барбара". Сэрыял.
16.30 Плянэта КВК.
17.00 Прэс-клюб.
18.00 Прыгодніцкі фільм "Эмісар цара".
19.35 Мясцовы час. Весткі - Масква.
19.55 Вострасюжэтны фільм "Спаўн".
21.50 Фільм "Кветкі ад пераможцаў".
23.45 Гарачая дзясятка.
0.40 Прагноз надвор'я.

## КУЛЬТУРА

9.15 Партытуры не гараць.
9.40 Разуменьне. "Электрычнасьць".
10.45 "Цытаты з жыцьця".
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Ох, ужо гэтыя дзеткі". Мультфільм.
12.15 Чым жыве Расея.
12.30 Музычныя дамы.
13.00 "Падарожжа пана Кляксы". Маст.фільм. 2-я сэрыя.
14.15 "Ну, пачакай!" Мультфільм.
14.45 Улада факту.
15.10 "Казка пра цара Салтана". Мультфільм.
16.05 Сэнсацыя. Сэнсацыя? Сэнсацыя...
16.35 Разуменьне. "Электрычнасьць".
17.50 "Хто там..."
18.15 "Гранд". Сэрыял.
19.15 "Іван Безьзямельны, ці Расея расейцаў". 4-я сэрыя.
19.45 Дабранач, дзеці!
20.00 "Царская ложа".
20.45 "Агнэс Браўн". Маст.фільм.
22.10 М.Равэль. Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.
22.30 1001 аповед пра кіно.

## НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёньня.
7.15, 12.45 У запас.
7.20 Нашы ўлюбёныя жывёлы.
7.25 Карданны вал.
7.35 Пяць хвілін з Наважонавым.
7.40 Мультфільм "Кацяня, якое звалі Гаў".
7.55 Ох, ужо гэтыя дзеці!
8.20 Падарожжы натураліста.
9.25 Свая гульня.
10.05 "Зусім сакрэтна". Інфармацыя для роздуму.
11.20 Сэрыял "Паліцыянты".
13.20 Ток-шоў "Прынцып "Даміно".
14.35, 17.35 Крымінал.
15.25 Камэдыя "Жандар на адпачынку".
18.35 Баявік "Над законам".
20.20 Крымінальная Расея. "Хаўрусьнікі".
21.40 Дэтэктыў "Зьмяіная крыніца".
23.20 Пэпсы-чарт.
0.05 Кома.

## EUROSPORT

9.30, 13.00, 23.30, 1.45 Ралі.
10.00 Лыжны фрыстайл.
10.30, 19.30, 21.30 Футбол.
12.00, 15.00, 18.30 Біятлён.
13.30 Паўночная камбінацыя.
16.00 Тэніс.
0.00, 2.15 Навіны.
0.15 Горныя лыжы.
1.15 Экстрэмальныя віды спорту.

# СУББОТА, 12 СТУДЗЕНЯ

## БТ

7.00, 9.00, 15.00, 19.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Кінэ" (Міжнародны французскі канал).
8.00 "Вялікія жанчыны стагодзьдзя". Фільм "Эвіта Пэрон" (ЗША - Ангельшчына).
8.30 Існасьць. Духоўная праграма.
9.10 В.Кікабідзэ і А.Пятрэнка ў камэдыі Г.Данэліі "Фартуна" (Расея).
10.35 Сад мары. Перадача для дачнікаў.
11.00 Каралеўскае паляваньне.
11.30 Фільм-казка "Чараўнік Смарагдавага гораду" (Расея).
12.35 Здароўе. Тэлечасопіс.
13.00 Сэрыял "Растоў-тата" (Расея).
13.55 "Шэдэўры сыходнага стагодзьдзя". Канцэрт М.Баскава. 1-я частка.
15.15 "Шэдэўры сыходнага стагодзьдзя ". Канцэрт М.Баскава. 2-я частка.
16.50 Дэтэктыўны сэрыял "Атрад па барацьбе з мафіяй" (Гішпанія).
18.15 Пяць цудаў.
18.35 З дакладных крыніц.
19.25 КВК. Кубак Садружнасьці. 1-я частка.
21.00 Панарама.
21.55 Спорт-кур'ер.
22.05 Р.Атэнбара і Дж.Півэн у маст.фільме "Формуля посьпеху" (ЗША).
23.35 Лёгкая атлетыка. Міжнародныя спаборніцтвы памяці З.Партновай.
0.05 Хакей. Чэмпіянат УЭХЛ. "Гомель" - "Металюргс" (Ліепая). 2-і й 3-і пэрыяды.
1.25 Сэрыял "Каралева мячоў" (Канада - Гішпанія - Вялікая Брытанія).

## СТВ

6.15 "Ня з гэтага сьвету". Дак.фільм.
7.15 "У гасьцях у Тофіка".
7.30 "Інспэктар Гаджэт". Мультсэрыял.
8.00 "Дыплядокі". Мультсэрыял.
8.30 "Мурашкі". Сэрыял.
9.00 "Футурама". Мультсэрыял.
10.00 "Бафі". Сэрыял.
**11.00 "Сьнеданьне зь Лікай".**
11.25 "Экзотыка".
11.40 "Рамонт".
11.50 "Аўтапанарама".
12.15 "Сьвет спорту вачыма "Жылет".
12.45 Трагікамэдыя "Стары Новы год", 1-я сэрыя.
14.45 "Выпадковы сьведка".
15.15 "Вовачка". Сэрыял.
15.45 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
16.15 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
16.55 "Дальнабойшчыкі". Сэрыял.
18.00 "Гадзіна пік".
19.00 "Прем'ер-парад "Сталічны". Гумарыстычная праграма.
19.30 Прыгодніцкі фільм "Шукальнікі прыгод".
21.55 Трылер "Двайное жыцьцё".
23.55 Начны музычны канал.
1.10 Цэнтар забаў "Мэдысан авэню".
1.40 "М1". Музычная праграма.

## ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
7.10 "Сьнегавік-паштавік".
7.30 Слова пастыра.
7.45 Покліч джунгляў.
8.10 Грай, гармонік любы!
8.50 Бібліяманія.
9.10 Сьмехапанарама.
9.45 Смак.
10.05 40 год жартуючы. КВК.
11.00 "Ералаш".
11.05 У сьвеце жывёл.
11.45 Здароўе.
12.25 "Срэбны шар". Ганна Ахматава.
13.05 Тайны забытых перамог. "Трагедыя "расейскага цуду".
13.35 "Чорны плашч".
14.10 Вострасюжэтны фільм "Сувэнір для пракурора".
15.45 Канцэрт Ларысы Долінай.
17.15 "Хто хоча стаць мільянэрам?"
18.55 Апошні герой. "Рамантыкі і прагматыкі".
20.00 Час.
20.30 Трылер "Гульня".
22.50 Фантастычны фільм "Эдвард - рукі-нажніцы".

## РТР

7.00 Тата, мама, я - спартовая сям'я.
7.45 "Тэлепузікі".
8.10 Залаты ключ.
8.30 Здароўе і жыцьцё.
9.00 Пошта РТР.
9.35 Добрай раніцы, краіна.
10.10 "Сто да аднаго". Тэлегульня.
11.00 Ток-шоў Тацяны Ведзянеевай "Побач з табой".
11.55 Сэрыял "Таемны агент".
13.00, 19.00 Весткі.
13.20 Фільм "Кар'ера Дзімы Горына".
15.00 Баскетбол. Чэмпіянат Расеі. Супэрліга. ЦСКА - "Лякаматыў" (Мін. Воды).
17.00 Мая сям'я.
17.55 Аншляг.
19.25 Люстра.
20.00 Камэдыя "На Дзерыбасаўскай выдатнае надвор'е, або На Брайтан-Біч ізноў ідуць дажджы".
21.55 Камэдыя "Альхімікі".
23.50 Прагноз надвор'я.

## КУЛЬТУРА

9.10 Мультфільмы.
9.50 Куты манэжу.
10.15 Бабуліны рэцэпты.
10.30 Залаты п'едэстал.
11.00 Графаман.
11.25 У нязьведанае.
11.50 "Звычайны чалавек". Маст.фільм.
13.30, 21.00 Навіны культуры.
13.45 "Час музыкі".
14.10 "Ноч перад Калядамі". Мультфільм.
14.35 "Гудыні". Дак.фільм.
15.30 "Клапатун, або... Справа майстра баіцца". Тэлеспэктакль.
16.30 "Вакзал мары".
17.05 "Майскія кветкі". Сэрыял.
18.00 Сфэры.
18.40 Зоркі ў Крамлі.
19.30 "Суніцы пад сьнегам". Мультфільм.
19.40 Кінаканцэрт.
20.00 Новая тэатральная гасьцеўня.
21.20 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё.
21.25 "Нэлі і пан Арно". Маст.фільм.

## НТВ

5.20 Анонс дня.
5.20 Камэдыя "Жандар на адпачынку".
7.00, 9.00, 11.00, 15.00, 21.00 Сёньня.
7.10 "Вуліца Сэзам".
7.35 Мультфільмы.
7.55 Вялікія бацькі.
8.25 Без рэцэпту.
9.15 Крымінал. "Шчырае прызнаньне".
9.50 "Жаночы погляд".
10.20 Кватэрнае пытаньне.
11.20 Камэдыя "Разумнікі".
12.55 "Працяг будзе..." зь Юліяй Мяншовай.
13.40 Падарожжы натураліста.
14.10 Свая гульня.
15.20 Фільм "Лядовая карыда Валер'я Харламава".
16.40 Шоў Алены Сьцепаненкі.
17.30 Камэдыя "Дзе знаходзіцца нафэлет?"
19.00 Фільм "Фактар холаду".
21.35 Фільм "Замена. Апошні ўрок".
23.20 Сэрыял "Зоркавыя вароты".

## EUROSPORT

**9.30, 23.30, 2.15** Ралі.
10.00, 14.00, 16.15, 17.45, 20.15, 1.15 Лыжы.
10.45 Паўночная камбінацыя.
11.00, 13.00, 17.00 Бабслэй.
12.00, 19.15 Тэніс.
14.30 Біятлён.
15.15, 00.15 Горныя лыжы.
19.00, 0.00, 2.45 Навіны.
21.30 Футбол.

# НЯДЗЕЛЯ, 13 СТУДЗЕНЯ

## БТ

7.00, 9.00, 15.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Кінэ" (Міжнародны французскі канал).
7.55 "Аграмір". Інфармацыйна-аналітычная праграма.
8.25 "Арсэнал". Праграма пра войска.
9.10 Мультыклюб.
9.35 Фільм-казка "Залатыя локаны і тры мядзьведзі" (ЗША).
11.10 "Усе нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
11.50 Тэлевітамін.
12.20 Сэрыял "Каралева мячоў" (Канада - Гішпанія - Вялікая Брытанія).
13.10 Сьмехаасарці "Фэстывальныя жарты".
14.35 "Сьпявай, душа!" Каляды на Палесьсі.
15.15 Сьвет і мы.
15.35 Філязофская камэдыя М.Захарава "Той самы Мюнхгаўзэн" (СССР). 1-я і 2-я серыі.
17.55 Крымінальнае дасье.
18.20 "Сустрэчы ў Траецкім" з Аляксандрам Дамарацкім.
18.45 "Час мясцовы". Рэпартажы з правінцыі.
19.15 Плянэта "АРТ".
19.45 Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я.
20.00 Панарама.
20.35 Спорт-кур'ер.
20.50 Наша любімае кіно. Л.Касаткіна і А.Папоў у камэдыі "Суцішэньне ўпартай" (СССР).
22.10 Эмануэль Бэар у праграме "Новая калекцыя".
22.40 Д.Хана і Э.Штольц у камэдыйнай гісторыі "Вясёлае жыцьцё" (Канада).
0.00 Мэлёдыі і рытмы замежнай эстрады.

## СТВ

6.00 "Ня з гэтага сьвету". Дак.фільм.
7.00 "1/52". Спартовы агляд.
7.15 "У гасьцях у Тофіка".
7.30 "Інспэктар Гаджэт". Мультсэрыял.
8.00 "Дыплядокі". Мультсэрыял.
8.30 "Мурашкі". Сэрыял.
9.00 "Гадзіна пік".
10.00 "Бафі". Сэрыял.
11.00 "Сакрэтныя матэрыялы". Сэрыял.
12.00 "Дарагія мае землякі!". Канцэрт Юр'я Антонава.
12.45 Трагікамэдыя "Стары Новы год", 2-я сэрыя.
14.45 "Выпадковы сьведка".
15.15 "Агенцтва". Сэрыял.
15.45 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
16.15 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
16.55 "Дальнабойшчыкі". Сэрыял.
18.00 Інфармацыйная праграма "168 гадзін Менску".
19.00 "Дзень добры, доктар".
19.10 "Аўтапанарама".
19.35 "Радыё-пункт". Музычна-забаўляльная праграма.
19.55 "Гіт-момант - вечаровая рапсодыя".
20.25 Трылер "Жонка астранаўта".
22.50 Навагодняе шоў-атракцыён.
0.20 "*Galadance*-шоў".
1.40 "М1". Музычная праграма.

## ОРТ

7.00, 14.00, 17.00 Навіны.
7.10 Служу Расеі!
7.40 "Дзіцяняты джунгляў".
8.05 Ранішняя зорка.
8.50 Бібліяманія.
9.10 "Падарожныя нататкі".
9.30 Пакуль усе дома.
10.05 Дак.дэтэктыў "Гандляры шчасьцем". Справа 2001 году.
10.40 Клюб падарожнікаў.
11.20 Дэтэктыў "Тайны бацькі Даўлінга".
12.10 "Ералаш".
12.20 "Самі з вусамі".
12.50 Разумніцы і разумнікі.
13.15 Скарбы Крамля.
13.35 "Чорны плашч".
14.10 Навагодні агеньчык "Вялікага мыцьця".
17.15 Камэдыя "Кітайскі сэрвіз".
19.05 "Парк Юрскага пэрыяду".
21.20 Навагодняя ноч 2002 году на ОРТ.

## РТР

6.40 Тата, мама, я - спартовая сям'я.
7.25 "Тэлепузікі".
7.50 Расейскае лато.
8.40 "ТБ Бінга шоў".
9.20 Добрай раніцы, краіна.
9.55 Сам сабе режысэр.
10.50 "Гарадок".
11.25 Камэдыя "Нянькі".
13.00, 19.00 Весткі.
13.20 Дыялёгі пра жывёл
14.20 Вакол сьвету.
15.20 "Прыгоды Огі". Мультсэрыял.
16.10 "Камісар Рэкс". Сэрыял.
17.10 ТБ Бінга навіны.
17.20 Камэдыя "Шуб-баба Люба!".
19.25 Аншляг. "Стары Новы год".
22.15 Камэдыя "Амэрыканскі пірог".
0.00 Спорт за тыдзень.
0.55 Прагноз надвор'я.

## КУЛЬТУРА

9.10 "Востраў скарбаў". Мультфільм.
10.15 Нядоўгія гісторыі.
10.30 Ток-шоў "Наўздагад".
11.00 Тым часам.
11.25 У нязьведанае.
11.50 "Гранатавы бранзалет". Маст. фільм.
13.30, 21.00 Навіны культуры.
13.45 Магія кіно.
14.10 За сямю замкамі.
14.45 "Зімовая казка".
15.00 "Стары Новы год". Фільм-спэктакль.
17.20 "Майскія кветкі". Сэрыял.
18.15 Блеф-клюб.
19.35 "Сьнегавік-паштавік". Мультфільм.
20.00 Валеры Гергіеў запрашае ў Марыінскі.
21.20 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё.
21.25 Пры сьвечках.
22.05 "Апладысмэнты, апладысмэнты..." Маст.фільм.

## НТВ

5.35 Анонс дня.
5.40 Камэдыя "Дзе знаходзіцца нафэлет?".
7.00, 9.00, 11.00, 15.00, 18.00 Сёньня.
7.10 "Вуліца Сэзам".
7.35 Пэпсы-чарт.
8.25 "Ох, ужо гэтыя дзеці!"
9.15 Смачныя гісторыі.
9.35 Шоў Алены Сьцепаненкі.
10.25 Крымінальная Расея. "Хаўрусьнікі".
11.20 Камэдыя "Афоня".
12.55 "Дзень добры, Дзядуля Мароз!"
13.45 Служба выратаваньня.
14.10 Свая гульня.
15.20 Прафэсія - рэпарцёр.
15.45 Дог-шоў "Я і мой сабака".
16.55 "Жаночы погляд".
17.25 Вочная стаўка.
18.35 Камэдыя "Маска".
20.30 Баявік "Лавіна".
22.35 Камэдыя "Сэкс-монстар".

## EUROSPORT

9.30, 23.30, 1.45 Ралі.
10.00, 0.45 Сані.
11.00, 13.00 Бабслэй.
12.00, 15.30 Біятлён.
14.00, 21.00 Горныя лыжы.
15.00, 17.30 Паўночная камбінацыя.
16.15, 19.30 Лыжы.
21.30 Футбол.
0.00, 2.15 Навіны.
0.15 Усе спартовыя спаборніцтвы.

# Разам з Сусаніным

## *Школьныя падручнікі музыкі*

Зазірнуўшы ў школьныя падручнікі музыкі, можна даведацца, што і як будуць сьпяваць беларусы праз 20 гадоў, ці будуць яны ганарыцца сваёй музычнай спадчынай, ці будуць хадзіць у Опэру ды ў Філярмонію.

За апошнія дзесяць год падручнікі музыкі істотна абнавіліся. Звонку яны выглядаюць прывабна: яскравыя глянцавыя вокладкі, шмат малюнкаў, сьціслая і ясная сыстэма ўмоўных пазначэньняў... Дый мэтодыка выкладаньня сучасная. Уражвае разнастайнасьць вучэбных заданьняў: вучні слухаюць тлумачэньні настаўніка і фрагмэнты музычных твораў, сьпяваюць па нотах і на слых, граюць на дзіцячых музычных інструмэнтах, выстукваюць рытмы, шукаюць словы для выяўленьня музычных эмоцыяў, крэсьляць схемы, аналізуюць ды параўноўваюць і нават нешта кампануюць. Кожнае дзіця атрымоўвае магчымасьць адшукаць свой шлях да музыкі.

Аднак паводле зьместу падручнікі музыкі апошнія дзесяць год заставаліся ў далёкай мінуўшчыне. Найперш зьдзіўляе несамавітая блытаніна моваў. Нават у падручніках для беларускіх школаў па-беларуску падаваўся толькі тлумачальны тэкст, беларускія народныя песьні ды нешматлікія творы беларускіх кампазытараў. Песенькі, прыпеўкі, рытмічныя практыкаваньні, фрагмэнты з расейскай і эўрапейскай музычнай клясыкі, нават прыклады — скрозь па-расейску. Так, каб патлумачыць, што такое інтанацыя, беларускамоўным дзеткам прапануюць прачытаць па-расейску байку Крылова.

Большасьць вучэбных матэрыялаў у беларускіх падручніках 90-х была ўзятая з савецкіх школьных падручнікаў, калі музыка разглядалася выключна як адзін са "сродкаў камуністычнага выхаваньня", песьні іншых народаў служылі адбіткам ідэі "пралетарскага інтэрнацыяналізму", а сусьветная музычная клясыка мусіла ілюстраваць "барацьбу народаў супраць прыгнятальнікаў". Гісторыя музыкі — паступовае разьвіцьцё музычных стыляў ад сярэднявечнага грыгарыянаскага харалу да сучасных авангардысцкіх опусаў і поп-музыкі — не вывучалася ўвогуле.

З тае пары і захавалася ў беларускім падручніку часоў незалежнасьці па музыцы для 3-й клясы (1992) ***Песня о пограничнике:***

Лес дремучий снегами покрыт,
На посту пограничник стоит.
Ночь темна, и кругом тишина,
Спит Советская наша страна.

Дый каб жа яна адна! Тут і *Орленок*, і *Марш юных космонавтов*, і *Туристская походная*, і *Дружат дети всей земли*... Ну і, зразумела, *Дружба* (словы Юр'я Рыбчынскага, музыка Ігара Лучанка):

Пусть в сердцах слова простые песнями звучат:
Братство, Мир, Москва, Россия, Друг, Товарищ, Брат!

Тыя ж трэцяклясьнікі сьпявалі пра Берасьцейскую крэпасьць (музыка Ўладзімера Алоўнікава, вершы Алеся Лазьнявога):

..И кровью своею, и жизнью
Солдаты клянутся стоять,
Лишь только жила бы Отчизна –
Советская родина-мать.

Побач з такімі складанымі для разуменьня песьнямі ў падручніку багата легкаважна-забаўляльных песенек, пераважна пра жывёлаў. Напрыклад:

Солнечный лучик в речку нырнул
И червячком золотистым сверкнул!
Быстрый, веселый карасик подплыл,
Солнечный лучик с водой проглотил.

Затое песень, якія можна было б узяць з сабой у падарожжа па жыцьці, засьпяваць для бацькоў ці ў кампаніі аднагодкаў, — амаль няма. Хіба толькі "Люблю наш край, старонку гэту..." на верш Канстанцыі Буйло ў падручніку для 4-й клясы (1997).

Шмат у падручніках 90-х зьмяшчалася народных беларускіх песень — пераважна абрадавых. Асабліва ў дапаможніку для 4-й клясы. Тут і "Жавараначчкі, прыляціце!", і "О, не кукуй, зязюленька...", і "Перапёлачка", і "Купалінка", і "Ой, пралятапі два галубочкі..." Дзякуючы новым падручнікам дзеці будуць ведаць, што "Саўка ды Грышка" — гэта калядная песьня, у якой пяецца пра маленькага Хрыста. Многія песьні гучаць на ўроках ня толькі ў сваім натуральным выглядзе, але і ў апрацоўках. Прыкладам, дзеці развучваюць песьню "Ой, рана на Йвана...", а потым слухаюць, як гучыць гэтая мэлёдыя ў "Партызанскай сымфоніі" Яўгена Глебава і "песьняроўскай" апрацоўцы.

Распавядаюць дзецям і пра беларускія музычныя інструмэнты: дуду, скрыпку, дудку, цымбалы, жалейку. Дзеля ілюстрацыі прапануюць паслухаць сюіту-жарт "Вясковыя музыкі" Віктара Помазава.

У падручніках распавядаецца і пра беларускія народныя танцы — "Лявоніху", "Юрачку", "Мікіту", "Янку". Прычым не без фальшывай цнатлівасьці: "Ой ты, Юрачка, што ня вучышся?.." Хаця насамрэч Юрачка не жаніўся.

Такіх "дзівосаў" таксама было шмат. Аўтары падручнікаў імкнуліся давесьці, што беларускія народныя песьні мала чым розьняцца ад расейскіх: "У далёкім мінулым расейскі, украінскі і беларускі народы складалі адзінае племя ўсходніх славянаў, таму яны маюць вельмі многа супольнага ў гісторыі, мове, культуры і музыцы".



Прыкметамі гэтай супольнасьці аўтары (у дадзеным выпадку — Тамара Гуліна) лічаць "непаўторныя своеасаблівасьці інтанацый, песеннасьць, расьпеўнасьць, пераменны лад, падгалоскі, характэрныя тэмбры нацыянальных інструмэнтаў". Хоць у беларускай музыцы няма ні расьпеўнасьці, ні пераменнага ладу, ні падгалоскаў.

Адна з задачаў школьнай вучэбнай праграмы — навучыць дзяцей слухаць клясычную музыку. На ўроках гучыць шмат добрай музыкі — творы Моцарта, Бэтховэна, Шапэна, Грыга, Рахманінава... Гучыць і беларуская клясыка — Генрых Вагнэр, Зьміцер Смольскі, Анатоль Багатыроў... Але відавочна не стае сыстэмнасьці. Зусім няма зьвестак пра сучасную папулярную музыку, акрамя згадак пра "Песьняроў".

Блытаніна і ў адборы сымфанічных, камэрных, опэрных і балетных фрагмэнтаў. Некаторыя зь іх трапілі ў падручнік дзеля "дзіцячага" альбо "казачнага" сюжэту, хоць музыка гэтых твораў здольная занудзіць дзяцей да сьмерці. Як і камэнтары музыказнаўцаў: "Бэтховэну былі блізкія ідэі народу, які змагаецца. У яго музыцы, асабліва ў Пятай сымфоніі, адчуваеш магутную сілу, гераічны характар. Яна кліча да барацьбы за шчасьце людзей..." Між тым Пятая сымфонія Бэтховэна ніколі не лічылася гераічнай. "Гераічная сымфонія" — Трэцяя, так назваў яе сам аўтар. Пятая — хутчэй філязофская, і пытальнікаў у ёй нашмат болей, чым клічнікаў. На фоне ўсіх гэтых недарэчнасьцяў лягічна выглядае падсумаваньне: "Бэтховэн належыць усяму свету. У тым ліку і нам, расейцам".

Варты ўвагі й наступны фрагмэнт: "У опэры "Іван Сусанін" рассказваецца аб тым, як расейскі селянін завёў ворагаў у дрымучы лес, адкуль яны ўжо не змаглі выбрацца". "Ворагамі" былі ваяры Вялікага Княства Літоўскага, продкі сёньняшніх беларускіх вучняў. Але дзяцей вымушаюць стаяць на баку Сусаніна.

**Юлія Андрэева**

дні расейскай культуры

# Аншляг, яшчэ аншляг

**Ці патрэбныя нам дні расейскай культуры? Калі сёньня ў Палацы Рэспублікі ідзе шоў Баскава, заўтра ў лядовым палацы выступае *Машина времени*, пазаўтра — яшчэ якое-небудзь *Ногу свело*. Калі кнігарні й раскладанкі заваленыя расейскамоўнай прадукцыяй самага рознага гатунку, у кінатэатрах 99% фільмаў ідзе па-расейску, большасьць газэтаў выдаецца на *"общепонятном языке"*?**

Праўда, штодня мы маем узоры масавае культуры з усходу, а апошнімі днямі пабачылі ў менскіх залях канцэрты *элітнага* мастацтва. Маскоўскі Вялікі сымфанічны аркестар імя Чайкоўскага пад кіраўніцтвам Уладзімера Федасеева, скрыпач Максім Фядотаў, Камэрны хор Уладзімера Мініна, Малы тэатар — на іх выкшталцоная публіка ідзе натоўпам і ў Лёндане, і ў Міляне, і ў Нью-Ёрку. Прываблівае ў федасееўскім аркестры ды мінінскім хоры тое, што ўдзельнікі ансамблю гучаць, як салісты, адначасна сьлепа падпарадкоўваючыся волі дырыжора. Гэтага не стае лепшым беларускім аркестрам. У першым аддзяленьні канцэрту камэрны хор выканаў урыўкі з "Маленькай урачыстай імшы" Расіні. Праўда, не адчувалася, што гучыць музычная аздоба набажэнства, каталіцкая імша, да таго ж кананічны лацінскі тэкст вымаўляўся чамусь па правілах італійскае мовы. Але ўжо ў другім аддзяленьні, у расейскай праграме, хор прынёс найвялікшую асалоду.



Уладзімер Федасееў

Толькі ў незалежнай Беларусі магчымыя дні культуры Расейскай Фэдэрацыі. Гэтая акцыя — сьведчаньне наяўнасьці й сталеньня беларускай дзяржаўнасьці. Галоўнае, каб гэткія культурніцкія абмены не разьвіваліся толькі ў адным кірунку. Іншая рэч, што хацелася б некалі пачуць у Менску і *Berliner Philharmoniker*, і Іва Пагарэліча, і Анну Сафі Мутэр, але ж апрача пяцігадовае даўніны канцэртаў Мантсэрат Кабальле цяжка прыгадаць у нас сусьветна вядомых гастралёраў не савецкага паходжаньня. Ды яшчэ прыкра, што дзьве менскія прыстойныя вялікія залі (Філярмонія ды Опэра) неўзабаве могуць зачыніцца на капітальны рамонт. А пра канцэрт, прыкладам, Брэндэля дзе-небудзь у Віцебску ці Нясьвіжы пакуль ня варта й марыць.

**Віталь Стахіевіч**

Міністэрства адукацыі рэкамэндуе падручнік М.Біча. Адшукаць нешта заганнае і недарэчнае ў ім вельмі цяжка, настолькі ўсё ўзважана і навукова.

А вось у альтэрнатыўным падручніку В.Мілаванава можна знайсьці ня толькі нелюбоў да беларусаў, але й клясавы падыход.

Дапаможнік для 9 клясы, напісаны У.Сідарцовым, В.Фаміным і С.Пановым, нагадвае падручнік узору 1992 г., толькі аздоблены каляровымі ілюстрацыямі, цікавымі дакумэнтамі, схемамі і г.д. Акцэнты засталіся тыя самыя — беларускія, з прыязным расповедам пра БНР, падрабязным артыкулам пра масавыя рэпрэсіі, моцнай крытыкай заганаў савецкай сыстэмы.

Аднак вучэбны дапаможнік для 11 клясы (канец XVIII — канец XX ст.) пад рэдакцыяй Я.Новіка прымушае чытача вярнуцца гадкоў гэтак на дваццаць у сьветлае мінулае. Ужо ва ўступным слове пішацца, што ў XVIII ст. Расея нам была бліжэйшай, чым Польшча, таму народ прыхільна сустрэў аб'яданьне зь ёй у 1795 г. Пры пераліку "ўзьяднанага" насельніцтва на другое месца па колькасьці аўтары паставілі расейцаў. Магчыма, маюцца на ўвазе салдаты расейскіх войскаў, што на той момант ужо стаялі ў Беларусі. Натуральна, чакаць асобнага параграфа пра БНР ад такога падручніка не выпадае. Яна згадваецца адным пункцікам у параграфе пра нямецкую акупацыю 1918 г.

Разьдзел пра калектывізацыю, відаць, узяты з падручніка пачатку 80-х. Дзяцей, у прыватнасьці, вучаць, што кулакі арганізоўваліся ў бандыцкія групы й шкодзілі калгасам, а "беззаконьне і фізычнае зьнішчэньне часткі заможных сялянаў не зьяўлялася афіцыйнай дзяржаўнай партыйнай палітыкай". Карацей, перагібы на месцах.

Рэпрэсіі, выяўляецца, былі барацьбой супраць прыхільнікаў рэстаўрацыі капіталізму, якія адкрыта шкодзілі рэжыму. Што праўда, аўтары падручніка пагаджаюцца — былі і неабгрунтавана рэпрэсаваныя. Нічога не напісана пра нацдэмаў, Курапаты, Саюз Вызваленьня Беларусі, сотні рэпрэсаваных пісьменьнікаў, сацрэалізм. Затое шмат увагі аўтары надаюць "фашысцкім памагатым" у Беларусі: "Галоўнай іх мэтай было стварэньне з дапамогай захопнікаў "самастойнай Беларусі" пад эгідай фашысцкай Германіі. У якасьці сымболікі беларускія памагатыя выкарыстоўвалі герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сьцяг, віталі адзін другога клічам "Жыве Беларусь!" з выкідваньнем па-фашысцку рукі наперад". Насамрэч, горшае злачынства прыдумаць цяжка. Варта было б яшчэ напісаць, што гэтыя вылюдкі – во паскуды – яшчэ й размаўлялі міжсобку па-беларуску, а не на самай прагрэсіўнай мове плянэты.

Падзеі 1991 г. і дэмакратычныя зьмены характарызуюцца адмоўна: пагадненьне ў Віскулях — супраць волі народу, першая палова 90-х — эканамічны і палітычны хаос. Сапраўднае шчасьце спаткала беларусаў у 1994 г., калі народ абраў прэзыдэнтам Лукашэнку. Праўда, у 1996 г. цёмныя сілы каламуцілі беларускія воды, але наш народ разабраўся ў сытуацыі і адмовіў палітычным банкрутам у крэдыце даверу, а на рэфэрэндуме яшчэ раз пацьвердзіў свае летуценьні і мары...

Вось з такімі ведамі выпускнікі школаў мусяць ісьці ў самастойнае жыцьцё. Сёньня адно, заўтра другое. Маладая дзяржава часта мяняе сваю палітыку.

**Эдвард Людовіч**

### ВЯСЁЛЫЯ КАРЦІНКІ З ПАДРУЧНІКА ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАСЬЦІ







**Вось такія "коміксы" прапануюцца ўвазе 10—11-гадовых дзяцей.**

**"Каменны век у Беларусі". "Паляваньне старажытных людзей на мядзьведзя". "Нашы продкі, канечне ж, лавілі ракаў, і ў вялікай колькасьці".**

**Подпісы да малюнкаў мастакоў В.Макаранкі і Р.Фралова часам не саступаюць у дасьціпнасьці самім малюнкам.**

Павал Севярынец

# Новая гісторыя

Заканчэньне. Пачатак у "НН" № 50, 52–53.

## III.

## НОВАЕ НЕБА.

І ўбачыў я новую зямлю
й новае неба.
*Адкрыцьцё, 21:1*

Самае важнае вымярэньне новае гісторыі Беларусі — духовае Абуджэньне. Бо сапраўдныя падзеі творацца ў душах і нябёсах — на зямлі яны толькі разгортваюцца і прыводзяць да заканамерных вынікаў. Новае неба, неаглядная чысьціня і бясконцая веліч над Беларусяй — гэта ўжо ня сфэра прагнозу надвор'я, а адкрытыя вышыні духу. Якім чынам ажыцьцяўляюцца аксамітныя рэвалюцыі — і ў чалавеку, і ў масавай сьвядомасьці ўсяе нацыі? Што мусіць перажыць грамадзтва, калі яго чакае Новая гісторыя? Што адчуеш ты сам? Адказы ясныя й глыбокія, як самі нябёсы.

### АБУДЖЭНЬНЕ

Духовае *Абуджэньне* — гэта некалькі моцных, як разрад бліскавіцы, момантаў ісьціны.

Першы — адкрыцьцё таго, што ўсё навокал: і зямля зь ейным прыцягненьнем, і сонечнае сьвятло скрозь лісьце, і зорныя галяктыкі, і подых пачуцьцяў — увесь гэты вялізны, цудоўны й неверагодны Сусьвет *створаны Богам*. Творцу падуладна абсалютна ўсё, для Яго няма нічога немагчымага.

Другі момант, ня менш істотны, — Госпад Бог *любіць* сваё тварэньне, любіць і кожную асобу, і цэлыя народы, любіць такімі, якія мы ёсьць. *Бог цябе любіць*, чуеш? Няхай твае сэрца адчуе покліч Ягонай любові!

І, нарэшце, трэці. Бог любіць нас так моцна, што ня можа пакінуць такімі, якія мы ёсьць. Дзьве тысячы год таму праз укрыжаваньне і ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, Сына Божага ў чалавечым абліччы, кожнаму з нас была дадзеная магчымасьць ачысьціцца ад граху і зла ды жыць у Царстве Нябесным. Той, хто спасьцігае Хрыста й прымае Яго як Збаўцу, зьдзяйсьняе найвялікшую з усіх пераменаў у гэтым сьвеце. Новае жыцьцё розьніцца ад ранейшага, як бадзёры розум і цьвярозая памяць ад беспрабуднага сну.

Чалавек абуджаны пачынае ўдасканальвацца. Думкі, словы і справы набываюць сэнс, мудрасьць і гармонію. Вера зьдзяйсьняе ў душы пераварот — магу засьведчыць на шматлікіх прыкладах сяброў і сваім уласным. Вера зьнішчае комплексы й стэрэатыпы. Зь верай зьнікаюць раздражнёнасьць, нэрвовыя стрэсы й невыносныя страхі. Зь верай зьяўляецца новая, поўная волі й любові спакойная сіла. Зь верай атрымліваеш сканцэнтраваны досьвед будучага жыцьця! Пачынаеш глядзець на гэтае жыцьцё нібыта *зь нябеснае вышыні*.

Грамадзтва, у якім ёсьць вера, кіруецца не фізыялягічнымі рэфлексамі ці псыхалягічнымі маніпуляцыямі, а жывой, паўсюднай адданасьцю найвышэйшаму дабру, справядлівасьці, салідарнасьці. Такое грамадзтва здольнае і да сацыяльнага спачуваньня, і да падпарадкаваньня закону. У грамадзтве, якое глыбока засвоіла стагодзьдзямі адшліфаваныя каштоўнасьці хрысьціянскае этыкі й маралі, найлепш разьвіваецца рэальная дэмакратыя, пасьпяховая эканоміка, эфэктыўная дзяржава. Для чалавека, які прымае жывога Хрыста, апэруе духовымі катэгорыямі ды ідэаламі, поўніцца нябеснай дасканаласьцю, абстрактныя *"дэмакратыя"*, *"права"*, *"адказнасьць"*, *"сумленнасьць"*, *"міласэрнасьць"*, усе асноватворныя імпэратывы, на якіх трымаюцца цывілізацыя і культура, арганічныя й натуральныя.

У нацыі, якая перажывае крах дзяржаўнасьці, востры крызыс эліты і абвальны заняпад маралі, застаюцца толькі два варыянты — "быць" альбо "ня быць". Менавіта ў такіх экстрэмальных сытуацыях праяўляецца характар нацыі і ў яе мэнтальнасьці зьдзяйсьняюцца сапраўдныя перамены. І калі мы выбіраем "быць" — для нас настае час *пакаяньня*, эпоха *посту й малітвы*. Усеагульнае спавяданьне дазволіць нам асэнсаваць, скалануцца, прачуць увесь жах такога жыцьця і ўвесь боль адзінай надзеі. Супольная малітва — гэта душа нацыі. Так было ў Польшчы часоў "Салідарнасьці", так было ў прыбалтыйскіх краінах падчас разбурэньня СССР. Менавіта з адначасовага малітоўнага хору ў цэрквах і касьцёлах нараджаюцца трохсоттысячныя сьпевы на маніфэстацыях. Воля Божая і людзкія імкненьні зьліваюцца, гучаць на ўвесь голас суладнай магутнай сымфоніяй — і прачынаецца ўвесь народ, абуджаецца любоў і зьяўляецца вера. Дзе яшчэ, як не ў малітвах, яднаецца й гуртуецца нацыя!

### НОВЫЯ ВЫШЫНІ

Пад *новым небам* у Беларусі выяўляюцца абсалютна нечаканыя рэчы. Беларуская гісторыя набывае глыбокі хрысьціянскі падтэкст, у якім угадваюцца ясныя асацыяцыі зь Біблiяй і празрыстыя эвангельскія вобразы. Узьнікаюць свой Стары і Новы Запаветы. Нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг паўстае як сьцяг Хрыста, а духовы гімн "Магутны Божа" — як сьпеўная малітва. Нацыянальныя асаблівасьці здаюцца проста прарочымі наканаваньнямі.

Усё робіцца настолькі відавочным, настолькі рэальным, што перад унутраным зрокам расхінаецца *новая краіна*. У пранізьлівых дэталях і намёках ты пачынаеш пазнаваць Новую Беларусь — цудоўную, маральную, эўрапейскую. Тую самую, якую мы так хочам убачыць.

*Поўнасьцю сьвет відаць толькі зь нябёсаў*. Усю Беларусь, усю бездань багацьця й хараство адметнасьцяў, да сьцяблінкі, да кропелькі роднасьці, да апошняй жывой душы, да астатняга атаму сэнсу, можна спасьцігнуць толькі праз Госпада Бога. Мне згадваюцца бел-чырвона-белыя налепкі, якія распаўсюджвала адна зь менскіх эвангельскіх грамадаў, з дэвізам, што максымальна ёміста выказвае нацыянальнае духовае азарэньне: *Беларусь для Хрыста*.

Абмежаванаму чалавечаму розуму ўвесь час уласьціва зводзіць хрысьціянскае абуджэньне да перавагі якой-небудзь канфэсіі. Небясьпечная памылка. Гістарычна склалася, што Беларусь зьяўляецца сусьветнымі сутокамі найбуйнейшых хрысьціянскіх плыняў, унікальнай арэнай сустрэчы каталіцтва, праваслаўя й пратэстанцтва, месцам нараджэньня ўніяцтва. *І дзякуй Богу!* Жывое хрысьціянскае жыцьцё — гэта перадусім *выбар*, і проста здорава, калі ты можаш выбраць адпаведную духовым запытам сыстэму традыцыяў, мэтодыку вывучэньня і рытуал. Агульнавядома, што ў Заходняй Беларусі, дзе канфэсіі сустракаюцца, а розныя храмы літаральна глядзяць адзін аднаму ў вокны, віруе духовая актыўнасьць і сацыёлягі ды статыстыкі фіксуюць анамальна высокія паказьнікі ў культуры, шкале каштоўнасьцяў і гаспадарцы.


IREX-PROMEDIA

### НОВАЕ ПАКАЛЕНЬНЕ

Сёньняшняя сытуацыя разгортваецца заканамерна: новыя нябёсы для Беларусі адкрывае новае пакаленьне. Маладыя людзі 18—30 гадоў ня проста ставяць сьвечкі ў царкве ці чытаюць Біблію — яны абсалютна свабодна гавораць пра Бога, абвяшчаюць хрысьціянскія прынцыпы нацыянальнай ідэі, на поўны голас кажуць пра пакаяньне нацыі і Сьцяг Хрыста. Грамадзтва зьмяняецца пад іх уплывам. Новая генэрацыя ўжо апаноўвае палітыку і прэсу, нефармальныя тусоўкі й цэрквы, унівэрсытэты й школьныя летнікі. На Захадзе гэта ў парадку рэчаў.

Насамрэч, калі ня юная двухмільённая хваля — тады хто?.. Яе эпіцэнтр у буйных гарадох, у асяродзьдзях адукаваных студэнтаў, творчае інтэлігенцыі, нацыянальна настроеных нефармалаў. Але й у асяродку сярэднестатыстычнае моладзі, не спустошанай марксісцкім альбо лібэральным матэрыялізмам, бачныя некаторыя хрысьціянскія акцэнты — у дачыненьнях, жыццёвых устаноўках, этыцы. Нягледзячы на постсавецкую сумятню субкультураў, базавыя каштоўнасьці й жыцьцёвыя арыенціры беларускае моладзі XXI ст. набываюць усё больш выразныя й пазнавальныя эўрапейскія абрысы. Моладзь, а праз яе ў пэрспэктыве і ўсё грамадзтва, рыхтуецца да кардынальных сьветаглядных пераменаў. Залпу, зь якім пачнецца імклівае разьвіцьцё Новае Беларусі, варта чакаць ад палітызаваных, структураваных, дынамічных, *нацыянальных паводле характару й хрысьціянскіх паводле духу супольнасьцяў*. Такое разьвіцьцё падзей дазваляе пераменам спрацаваць у маштабах усяе краіны і мець менавіта нацыянальнае гучаньне. Элемэнтарная формуля нацыянальнае ідэі ўжо рэалізуецца як *"Беларуская форма — хрысьціянскі зьмест"*. *Найлепшая, самая сучасная беларушчына — беларуская палітыка й эканоміка, мова й культура, беларускія тэмы й вобразы, беларускае месца й час — для найвышэйшага, хрысьціянскага, Божага сэнсу, які яе напаўняе*.

У Беларусі маладая генэрацыя часам інтуіцыйна, а часам цалкам сьвядома ўжо арыентуецца ў слушным кірунку. Малады Фронт зь яго імкненьнем да хрысьціянскае палітыкі, Партыя Свабоды, краёўцы зь лёзунгам "Бог, нацыя, дзяржава!", скаўцкі рух, выхаваны на Бібліі, — гэта яўна пакаленьне новае гісторыі.

Такім чынам, моладзь адкрывае для сябе абсалютна новае жыцьцё. Гэта ня проста эўрарамонт, мода, перагляд ідэй ці новы кірунак руху. Моладзь адчувае, як нараджаюцца й высьпяваюць у ёй самой усёахопныя, радыкальныя, капітальныя пераўтварэньні. Генэтыка й палітыка, прырода й грамадзтва, беларуская прастора й эпахальны час — гэта ўжо робіцца неадольным болем, неспатольнай прагай і проста сэнсам жыцьця новага пакаленьня.

Новае пакаленьне пераадольвае страх. Бо ў новым тысячагодзьдзі нам так хочацца бачыць *новую зямлю і новае неба!... Бо старая зямля й старое неба ўжо мінулі. (Адкрыцьцё, 21:1)*.

Пачалася Новая гісторыя.

## пошта рэдакцыі

* * *

Ярка сьвечачка гарыць,
Кольцамі дымок уецца.
На стале куцьця стаіць
на пачэсным месцы.

Хутка родзіцца Хрыстос
У Сьвятой Марыі,
Зорку Бог на Неба ўзьнёс,
Запаліў шчасьліва.

Зорка над калыскай
Будзе зіхацець,
Зь Неба анёл будзе
На Дзіця глядзець.

А пакуль што вечар
На дварэ стаіць.
І на сподку белым
Сьвечачка гарыць...

Віншую Вас з Калядамі гэтым вершам сына Віталя (ён і мой!). Думаю, хлопцы, праб'емся, бо наступны год — Каня, ці нашай Пагоні...

Ну, бывайце здаровы!

Шануйце здароўе духоўнае, тады ўсё ў нас будзе.

**Ганна Сьцепулёнак, Койданава**

водгук

## Вечныя "рэформы", мовы, права на паліва



Кожны савецкі рэжым любіў пацешыць сябе школьнай рэформай. Я ўжо цягам прынамсі сарака год зьяўляюся ахвяраю гэтай пэрманэнтнай паўзучай зьявы — сьпярша як школьнік, потым як настаўнік.

Рэжым хоча расьцягнуць навучаньне на яшчэ адзін год з мэтай захаваньня свайго ідэалягічнага кантролю над моладзьдзю на ўвесь пэрыяд таго, што называецца пэрыядам фармаваньня асобы.

Пра тое, якім пойлам паіцьмуць маладое пакаленьне, пачытайце ў "Праграме патрыятычнага выхаваньня". Там жа ў кожным разьдзеле тырчыць слова "ваенны". А для маскаваньня гэтай ідэалягічнай акцыі прыдумалі клопат пра вучня, як яму цяжка вучыцца. Тут бы патрэсьці зьмест адукацыі і праграмы ды нечытэльныя падручнікі.

Настаўніцтву адведзеная роля ціўна пры ўжо згаданай "Праграме". У сваёй большыні яно — сацыяльна рахманы, лёгка кіроўны жаночы натоўп, зь якім няма асаблівых праблемаў. Укладаць у яго грошы было б недапушчальным марнатраўствам. Пакуль што старыя кадры задавальняюць ідэолягаў рэформы. Але кадры старэюць, хварэюць, канаюць. Моладзь на жабрачы заробак не клюе. Пакуль што ў школу неяк запіхваюць выпускнікоў каледжаў, але гэта сурагатная зьява. Узровень адукацыі непазьбежна зьнізіцца.

Нашая школа застаецца махлярскай — ацэньваем на "два", ставім "тры" — менавіта з-за надзычай нізкага сацыяльнага рангу настаўніка. З аднаго боку, гэта чорны вол адукацыі, з другога — сацыяльны мул. Таму ўсе заклікі да настаўнікаў стаць грамадзянамі і прадукаваць вучняў-грамадзянаў бессэнсоўныя: зь бяспраўных вучняў і бяспраўных студэнтаў вылупляецца бяспраўны адукатар.

Данія аддае 20% бюджэту на адукацыю, адрывае ад родных паліцыянтаў...

* * *

Сяджу я надоечы ля прыймача, вандрую па кароткіх хвалях, раптам чую нейкую галяндзкую станцыю. Расказваюць яны пра вайну з талібамі і тут жа ўлучаюць выступ Тоні Блэра. Галяндзкі дыктар не перакладаў яго з ангельскай на галяндзкую! Аўдыторыя — уся! — разумела па-ангельску! Паводле нейкай статыстыкі, толькі 5% беларусаў ведаюць замежныя мовы.

Катэгарычна сьцьвярджаць, што беларусам патрэбны толькі ангельская, нямецкая ды польская, як зрабіла "НН", — гэта экстрэмізм. Я глыбока пераканаНы, што нашыя вучні мусяць вывучаць дзьве эўрапейскія мовы, хто якую, але зусім адмовіцца ад вывучэньня францускай ды гішпанскай было б неразумна з культурнага і палітычнага гледзішча. Наадварот, трэба пашыраць набор моваў, можа, на правах факультатыву, але з высокім узроўнем навучаньня. Трэба, каб людзі збольшага ведалі італійскую мову, попыт на яе даволі значны, мо швэдзкую, славянскія, галяндзкую, турэцкую, трэ мець некалькі добрых вучэльняў з грунтоўным вывучэньнем старагрэцкай, лаціны, санскрыту, шэрагу ўсходніх — арабскай, пэрсідзкай. Бо ў рэальнасьці мы маем пажыцьцёвы спосаб вывучэньня замежных моваў — усюды ўсё жыцьцё іх вывучаюць і нічога ня ведаюць.

* * *

Ад вясковых настаўнікаў адабралі важнае права на паліва, на кватэру і на сьвятло; соткі нам даюць абы-якія, сей іх як хочаш, сена даюць у апошнюю чаргу і абы-якое. Да школы стаўленьне як да паразыта, хоць паразыт — калгас: бяз школкі калгас нават не пералетаваў бы, бо ўся працаздольная сіла зьнікла б. А чаго варты падзел настаўнікаў на разрады — менскім далі па 30 і болей тысяч проста так, каб да 100 даляраў дацягнуць, зь нейкага таямнічага фонду, вясковым жа ды правінцыйным шкрабам — дулю.

* * *

Асабіста маё, дый калегаў, стаўленьне да рэформы адмоўнае. Веды пасьпяхова можна засвойваць і за цяперашнія 11 год, толькі ня трэба штогод пхаць у прагараму па новым незразумелым прадмеце, трэба навучыцца сьпярша пісаць зразумелыя хаця б самім падручнікі, пісьменна перакладаць падручнікі з расейскай мовы, трэба падціснуць расейскую мову. Трэба *перш, чым правяраць гатоўнасьць школаў да навучальнага году, праверыць гатоўнасьць Міністэрства адукацыі, якое ўмудраецца запускаць навучальны год без праграмаў і без падручнікаў.*

Я заклікаю бацькоў сказаць "не" дванаццацігадоваму навучаньню.

**Мікола Бусел, настаўнік, в.Дуброва (Сьветлагоршчына)**

паштовая скрынка апазыцыі

## Пераможам статыстыкай і модай

Першае, што трэба зрабіць апазыцыі, гэта вылезьці зь Менску. Менск ужо і так супраць цяперашняй улады. Трэба выпаўзаць ва ўсе астатнія гарады і адваёўваць іх ва ўлады. Праўда, падыход да розных групаў насельніцтва павінен быць дыфэрэнцыяваны. З выбаршчыкамі сярэдніх гадоў трэба гаварыць прагматычна. Гэта людзі сямейныя і занятыя, іх раздражняюць мітынгі, дэманстрацыі, палымяныя прамовы і г.д. Тут будзе вельмі эфэктыўнай статыстыка. Трэба скласьці вельмі падрабязныя й дакладныя табліцы па рэальных прыбытках насельніцтва і магчымасьцях набыцьця самых розных тавараў пачынаючы з 1994 г. Параўнаць гэтыя паказьнікі з паказьнікамі ў суседніх дзяржавах. Паказаць розьніцу і зьмены прапорцыяў за гэтыя гады, каб кожны рабочы і служачы любога гораду Беларусі мог азнаёміцца з тым, як ён жыў раней і як ён жыве зараз, і падумаў, ці варта давяраць цяперашняй уладзе.

Да моладзі патрэбны іншы падыход. Для пачатку апазыцыя павінна стварыць шэраг рэгіянальных арганізацыяў, якія б ахапілі ўсю моладзь, пачынаючы ад цяперашніх 13-гадовых, якім праз 5 год споўніцца 18. Гэтыя арганізацыі павінны быць практычна нефармальныя. Сучасная моладзь ня любіць афіцыёзу, усялякіх там зьездаў, паседжаньняў і г.д. Моладзь любіць музыку, піва, кампутары, відзікі, "тачкі" і ўсякае такое. Вось гэта ўсё і трэба выкарыстоўваць у працы з моладзьдзю. Прычым камунікацыя зь ёй павінна быць *абавязкова* на беларускай мове. Апроч таго, усе гэтыя "сродкі" павінны мець ненавязьлівую нацыянальную форму, каб аскоміну не набіла. Галоўная мэта — давесьці маладым людзям, што ўсё самае новае й моднае — гэта беларускае, і наадварот.

**Вадзім Шышко, Менск**

## "Сэрца Эўропы *in rock*"

**Розныя выканаўцы. (р) 2001. *BMAgroup* 007**

"Эх, гэткай удалай ідэі яшчэ б адпаведнае напаўненьне!" — падумаў я, праслухаўшы альбом, які расчараваў менавіта зьместам, хоць на ўкладцы якіх толькі добрых словаў ні напісана пра ўдзельнікаў праекту.

Нешта ня тое з сэрцам. Зноў нейкія мэдыцынскія аналёгіі просяцца. Бо калі гурт "Алесюкі" называць "супэрзоркаю", дык варта пайсьці да лекара і праверыць слых. Група "*Rima*", двойчы прадстаўленая ў альбоме, — таксама не зусім эўрапэйскі ўзровень. Адно добра: песьні ў іх кароткія. Гурт "Гоман" гучыць як добрая студэнцкая самадзейнасьць без прэтэнзіяў на супэрзорнасьць. Песьня гурту "Кардон" успрымаецца як чысты патрыятычны кіч.

Добрыя ўражаньні пакідаюць інтэлігентны "Белы сон", Яцэк Тэлюс, "*Red Light*" са сваімі тонка ўвасобленымі "Пазытыўнымі вібрацыямі". *NRM* на польмове зьмянілася амаль да непазнавальнасьці. Файны нумар! Запомніліся й стылёвы такі "Пралетарыят", экстрэмальна-рэпавы Памідораў, сьціплыя й выразныя "*The Dzwiery*", прафэсійны "*Firoflay*". "*ZZygimont VAZA*" ўпэўнена пачуваецца ў "Новых сытуацыях", пераносячы іх у звыклую для сябе стылістыку, аднак прысмак жарту ўсё ж адчувальны.

Але вырашыць праблему зьместу укладальнікі альбому да канца ня здолелі. Падтрымліваць добрую ідэю варта, але заплюшчваць вочы ды вушы на выканальніцкія хібы — значыць кампрамэтаваць тую ідэю.

Яшчэ маецца ў альбоме чыстая загадка: замазаны чорнай фарбай на вокладцы № 7 **праграмы.** Што гэта — цэнзура ці які друкарскі ляп? Узяў я скальпэль, асьцярожна зьняў фарбу, ды ўсё адно апрача слова "Беларусь" нічога не прачытаў. А сьпявае гурт, між тым, па-польску і чыста.

**Сардэчны Слухач**

## "П'яныя госьці"

**"Узровень жыцьця". (р) 2001. "Каўчэг"**

Сьвежачок! Толькі што з-пад прэсу! Першы ў жыцьці аўтарскі альбом Алекса Памідорава! Адразу варта папярэдзіць: нельга верыць ніводнаму надрукаванаму на вокладцы слову і амаль ніводнаму з тых, што сьпяваюцца. Аўтар прадбачліва і інтэлігентна сам папярэджвае: багата тут міжнароднае ненарматыўнае лексікі, а аўтарскае права на яе не распаўсюджваецца. Карацей, суцэльная ідэалягічная правакацыя.




Гэта запіс канцэрту, што адбыўся 19 сакавіка 1998 г. у менскім клюбе "Рэзэрвацыя". Дапамагаў Памідораву гітарыст Балахонаў ды іншыя музыкі, аб'яднаныя вобразам і водарамі п'яных гасьцей. Атрымалася нешта кшталту "кватэрніка". Такія альбомы для Беларусі надзвычай рэдкія, тым больш што "Узровень жыцьця" мае прысмак гукавога дакумэнту гісторыі — адлюстроўвае "несьвядомы" этап жыцьця й творчасьці Памідорава: у альбоме толькі адна выразна беларускамоўная кампазыцыя — "Песьня на мове № 2", якая трымаецца на рэмінісцэнцыі тэмы крамаўскай песьні "Бяжы, хлопец" і таму даволі арыгінальна глядзіцца. Альбом дапоўнены чатырма бонусамі, запісанымі ўжо ў студыйных умовах, але стылёва блізкімі да асноўнага матэрыялу.

А ён даволі разнастайны — ад блюзаў ("Тая, што чакае") і рокавых опусаў ("Дзяўчынка") да балядаў. Найбольш тыповыя для альбому песьні — гэта "Ты памерла", "Любоў" і "Песьня дохлай Мэрылін".

Бонусы куды лепшыя па якасьці запісу і па інструмэнтале. "Наастатак" — такі сабе народны эпас, не без іроніі й натуралізму. А вось ангельскамоўная "*Me Bad*" зроблена вельмі ўдала, тонка нават, калі так можна сказаць, гледзячы на магутную постаць несубтыльнага Памідорава. Завяршае альбом песьня з арыгінальнай назваю "ХцэнзураЯ", зьмест якой прадыктаваны самой назваю. Не для дзяцей і не для прыхільнікаў Саладухі. Як і ўвесь альбом — для аматараў вечна жывога слова, хоць пазнейшая творчасьць Памідорава ўяўляецца мне куды больш плённай і каштоўнай.

**СцэнзураЧ**

## "*Hard life heavy music*"

**Розныя выканаўцы. (р) 2001, *BMAgroup* 008**

Я не вялікі аматар экстрэмальнае музыкі, хоць некаторых прадстаўленых на гэтым альбоме выканаўцаў некалі слухаў не без прыемнасьці. Гэтая зборка сьведчыць пра тое, што, па-першае, урокі сальфэджыё нашым рокерам ды мэталерам не зашкодзілі б. Па-другое, цяжкая беларуская музыка мае яўны гукавы акцэнт, запазычаны ў народнай традыцыі.

Найперш пра самае вялікае расчараваньне — "*Gods Tower*". Ці то песьню выбралі няўдалую, ці то нехта проста не ў гуморы быў, але "Ўхвала сонца" бязьлітасна кампрамэтуе гэты неабыякі гурт. Партыя гітары гучыць настолькі няўпэўнена, што ствараецца ўражаньне, быццам гітарыст толькі ўчора прыдбаў інструмэнт!

Вось хто файна валодае інструмэнтамі, дык гэта дуэтчыкі Сьпіцын-Чармэн: блiскучае, ці ня ўзорнае выкананьне і, дзякаваць Богу, без вакалу. Бо дарослыя, бо разумеюць: ня варта рабіць тое, што атрымліваецца не найлепшым чынам. Некаторыя ж іншыя — робяць. "*Apraxia*", напрыклад. Інструмэнтальнае суправаджэньне ў іхнай песьні цікавае, але ж вакал!.. Тая самая праблема з мужчынскім голасам у гуртоў "*Gateward*", "*Slavir*". Той, хто думае, што хард&хэві — такая музыка, дзе трэба раўсьці, а не сьпяваць, глыбока памыляецца. Так што называць усе прадстаўленыя на дыску гурты "супэрзоркамі", як пазначана на вокладцы, я б паасьцярогся.

Але ня ўсё тут змрочна ды безнадзейна. Добрая песьня ў "Зьнiча", музыкі гурту "*Alatyr*" паказваюць, што гітары ў руках трымаюць яўна ня першы дзень, "*Vicious Crusade*", мяркуючы па адной песьні, маюць добрае адчуваньне формы і ўмеюць напоўніць яе адпаведным зьместам.

Усяго альбом гучыць 80 хвілінаў. Спачатку думаў — ня вытрымаю, і "НН" давядзецца рыхтаваць нэкралёг па заўчасна страчаным для грамадзтва Слухачу. Не! Выжыў і месцамі нават атрымаў задавальненьне. Так што альбом успрымаю як ваду можа й не зусім жывую, але ня мёртвую — дакладна!

**X&X Слухач**

## "Сузор'е"

**"Нэлі Дзянісава + "Сузор'е". "Рок-тэрапія". Гурт "Сузор'е". (р) 2001. Аўтарскія дэмавыданьні**

Абодва кампакты выйшлі з нагоды часовай рэанімацыі "Сузор'я" — гурту, зь якога пачалася гісторыя беларускага року. Няхай не крыўдуюць "Песьняры", але выконвалі яны зболышага біг-біт, ужываючы элемэнты року толькі як адну са стылёвых фарбаў. "Сузор'е" ж было першым рок-калектывам, прызнаным афіцыйна і запрошаным на прафэсійную філярманічную сцэну.

У альбом "Нэлі Дзянісава + "Сузор'е" ўвайшлі песьні з кружэлкі "Верасьнёўская рака", выдадзенай "Мэлёдыяй", тры адаптаваныя інструмэнтальныя фрагмэнты з "Полацкага сшытку" ды кампазыцыі на тэксты зь "Песьні пра зубра" Міколы Гусоўскага.

Альбом ня страціў актуальнасьці гучаньня, хоць у аснове музыкі — ня дужа цяпер запатрабаваны гард-рок. Колькі песьняў з гэтай зборкі й сёньня зьяўляюцца безумоўнымі шлягерамі — "Пакуль ня згас агонь", "Ва ўсе часы", "Верасьнёўская рака", "Кароль і блазан". А вакал Нэлі Дзянісавай дагэтуль можа быць узорным для беларускіх рок-сьпявачак.

Другі альбом — гэта дапоўнены двума бонус-трэкамі запіс 1984 г., які шырока разышоўся па тагачасным СССР. "Рок-тэрапію" пісалі на два бытавыя магнітафоны "Тэмбр" у сутарэньнях тэатральна-мастацкага інстытуту — у студыі гурту "Студыя 7", дзе гралі тады Іван Маркаў ды Ігар Варашкевіч. У альбом увайшлі песьні, якія "Сузор'е" выконвала на прафэсійнай сцэне, ганебна закрытай для яго ў 1983 г. Можа, з-за гэтага тыя запісы не ўспрымаюцца сёньня як нейкі забаронены экзатычны плод. Адначасова беларускай групы — "ДДТ", "Акварыюм", "Машына часу" — прафэсійныя сцэны тады ня мелі і змушаныя былі шмат запісваць, каб трапіць да слухача. "Сузор'е" ж запісвалася мала. Таму вельмі многія яго ныя песьні сёньня страціліся. У нетрах дзяржаўнага радыё, напрыклад, зьнікла арыгінальная вэрсія "Зоркі Вэнэры", у амаль безнадзейным стане напаўаматарскі запіс вялікай арт-рокавай кампазыцыі "На шляху дзікіх гусей" (У.Буднік — М.Танк). Большая частка музыкі з "Полацкага сшытку", з-за якой музыкаў яшчэ ў 1983 годзе абвінавацілі ў "нацыяналізьме", наагул не была запісаная.

Вось чаму гэтыя рэстаўраваныя запісы групы цяпер успрымаюцца як рарытэт. Але не як анахранізм. Доказам гэтаму можа быць той факт, што імі вельмі зацікавілася фірма "Вэст-рэкардз", якая цяпер вядзе перамовы з музыкамі "Сузор'я" аднosна фабрычнага тыражаваньня гэтых двух альбомаў.

**Той яшчэ Слухач**

# Я – супраць вайны

## *Размова са Сьюзэн Вэгай*

**— Вы нарадзіліся ў Нью-Ёрку, расьлі ў атмасфэры нью-ёрскай багемы... Што Вам даў гэты горад?**

— Індывідуальнасьць, характар, нават пачуцьцё гумару, у чым пераконваешся, размаўляючы зь людзьмі зь іншых месцаў. Можа, таму я намагаюся не замыкацца ў атмасфэры роднага гораду. Мяркую, што на маёй новай кружэлцы *Songs about Red and Gray* чуваць подых акіяну, вецер вандраваньняў. Апрача Нью-Ёрку люблю Лёндан. Люблю нават самыя жахлівыя гарады, у якіх мне давялося пабываць. Усё залежыць ад таго, якія зь імі зьвязаныя перажываньні, згадкі.

**— Наколькі Вас зьмяніла тэрарыстычная атака?**

— Я жыву за дзесяць дамоў ад Сусьветнага гандлёвага цэнтру. За тыдзень перад трагедыяй майго брата ўзялі былі на працу ў будынак паміж вежамі. Калі я ўбачыла па тэлевізары тараны самалётаў, кінулася да тэлефону званіць яму. Гэта быў сапраўдны цуд: у той дзень ён захварэў. Але сваякі маіх сяброў загінулі. Мы спрабуем выйсьці з дэпрэсіі, але гэта надзвычай цяжка.

**— Амэрыканскія артысты, асабліва пасьля вайны ў Віетнаме, — заўзятыя пацыфісты. Дылан сьпяваў *Masters Of War* нават пасьля нападу Іраку на Кувэйт. Ці пачалі Вы і Вашыя калегі цяпер лічыць вайну прымальным спосабам вырашэньня канфліктаў?**

— Мае сябры мяркуюць, што вайна — гэта няўдалы адказ на агрэсію. Аднак большасьць амэрыканцаў маюць іншую думку. Іх атакавалі ў іх уласнай краіне, і яны хочуць абараняцца, нават за яе межамі. Раней ваенныя захады ўраду не маглі разьлічваць на такую падтрымку.

**— Амэрыканскія артысты падтрымліваюць прэзыдэнта Буша, якога раней крытыкавалі?**

— Многія з нас галасавалі за Гора. Але настаў час, калі мы мусім аб'ядноўвацца. Мала хто зь ньюёрскіх артыстаў заяўляе, што вайна ў Аўганістане іх ня тычыцца.

**— Вашы песьні, напрыклад *Luca*, апавядаюць пра няшчасных дзяцей, чалавечую адзіноту, нібыта Вы, насуперак сваёй дзейнасьці ў *Amnesty International*, лічыце, што чалавек ня здольны дапамагчы сам сабе, што ён адзінокі.**

— Я спадзяюся, што можа быць інача. Людзі могуць быць шчасьлівыя. Можа, мае песьні не найлепшы доказ гэтаму, але, калі я пішу, мяне апаноўваюць іншыя пачуцьці. Калі молішся, немагчыма аднachасова сьмяяцца.

Некалі я захаплялася ў песьнях сваёй незалежнасьцю, ганарылася ёю. А калі пасталела, дык выявілася, што найважнейшая рэч для мяне — жывая зносіны зь іншымі людзьмі. Наведнікам маіх канцэртаў пра гэта вядома даўно. Я размаўляю зь імі, сьмяюся, жартую. Мне гэта вельмі падабаецца.



**— Вы разьвяліся зь Мітчэлам Фрумам, які быў прадусарам Вашых альбомаў. Гэта дало Вам свабоду і як сьпявачцы?**

— Развод яшчэ ня скончаны, але мы жывём асобна. Не магу сказаць, што, калі мы працавалі ў студыі ці на канцэрце, Мітчэл быў тыранам. Але пасьля расстаньня зь ім я адчуваю сябе свабоднай ад вялікага канвэеру. У любую хвіліну я магу ўзяць гітару і засьпяваць тое, што хачу.

**Паводле *Rzeczpospolitej***

## СЬЮЗЭН ВЭГА

**Амэрыканская сьпявачка. Папулярнасьць ёй прынесла кампазыцыя *Wooden Heart*. Галоўная тэма яе творчасьці — "адзінота сярод людзей". Любоў да музыкі Сьюзэн прышчапіў яе айчым, вядомы амэрыканскі пісьменьнік Эдзі Вэга. Спачатку яна займалася клясычнымі танцамі ў *High School of Performing*, затым у снабіцкай атмасфэры каледжу імя Бэрнарда вывучала літаратуру. У 70-я яна напісала першыя свае песьні-баляды, навеяныя творчасьцю знакамітых амэрыканскіх бардаў, у тым ліку Леанарда Кохена, а таксама Джоні Мітчэл і Лоў Рыда. Дэбютавала яна ў музычных клюбах раёну *Greenwich Village* у Нью-Ёрку.**

**У часы, калі пераважаў цяжкі рок, Сьюзэн выступіла з камэрнымі запісамі ціхіх сьпеваў мелянхалічным голасам. Сусьветную славу здабыла яе песьня *Luca* — гісторыя пра адзінокага хлопчыка, зь якога зьдзекуюцца бацькі. Адстойваць правы дзіцяці сьпявачка пачала, працуючы ў арганізацыі *Amnesty International*. Яна зьяўляецца членам журы літаратурнай узнагароды *The Orange Prize for Fiction*, якая прысуджаецца выключна пісьменьніцам.**

**Нядаўна Сьюзэн Вэга выдала зборнік паэзіі *The Passio*.**

**Некалькі тыдняў таму яна пабывала з гастролямі ў Варшаве.**

Людміла Рублеўская

# КАЛЯДНАЕ АПАВЯДАНЬНЕ

Як мне хочацца калі-небудзь напісаць сапраўднае калляднае апавяданьне! Хаця б самае традыцыйнае — з палаючым камінам, цвыркуном і багатым дабрадзеем беднага сямейства. Але манатонныя арыі цвыркуноў страшэнна раздражняюць мае чульлівыя пісьменьніцкія нэрвы. Ня менш за ціканьне “ходзікаў”. Калі мы з мужам зрэдзь начуем у хаце ягоных бацькоў, дзе жыве гэты добры мэханічны дух з маятнікам, мы прыблізна апоўначы не вытрымліваем і ці муж, ці я на дыбачках падыходзім да сямейнай рэліквіі ды спыняем ейнае жыцьцё. І маці наранiцу дзівіцца: чаго гэта гадзіньнік стаў?

Лепей напісаць штосьці рамантычна-гістарычнае... Канец XIX стагодзьдзя. Паўночна-Заходні край імпэрыі. У багатым маёнтку для адзінаццацігадовага паніча рыхтуецца дзіцячы баль, прыбіраецца вялізная яліна... Тут добра было б даць апісаньне зіхоткіх упрыгожаньняў. Сьвечкі з пазалочанага воску ў выглядзе херувімчыкаў. Пернікі ў рознакаляровай глязуры. Яслі зь лялечным Хрыстом і парцалянавымі анёлкамі...

Хлопчык назірае за прыгатаваньнямі — такі маленькі ў белай кашульцы з карункавымі манжэтамі перад цёмнай грамадай ёлкі. Узрушана прамаўляе: “Каля-яды...” Маці ласкава папраўляе: “*Рождество, сынок*”. Але той упарта, нібыта прыслухоўваючыся да далёкага голасу, паўтарае: “Каляды...” І гэтак жа адсланёна: “Куцьця... Абрус кружасты... Зорка... Паляндвіца... Пане гаспадару...” Раптам хлопчык бачыць, што бацькі чымсьці засмучаныя. Маці плача. Бацька груба, адчужана адсылае яго ў дзіцячы пакой. Адыходзячы, хлопчык чуе незразумелае: “*Отродье...*” За гэтым адчуваецца таямніца. Хлопчык вяртаецца, каб падслухаць размовы дарослых. Высьвятляецца: ён — ня родны сын. Ягоныя сапраўдныя бацькі — “бунтаўшчыкі”. Ім яшчэ дзесяць год таму належаў гэты маёнтак. Сёньняшні гаспадар быў “суцішальнікам” бунту і атрымаў маёнтак як узнагароду за верную службу, а дзіця ўсынавіў, каб выхаваць у вернападданага. Ніхто ня думаў, што немаўля магло захаваць у памяці нешта зь “мінулага жыцьця”. Словы, што выпадкова ўсплылі ў памяці ў часе перадкаляднай мітусьні, дапаўняюцца цьмянымі вобразамі. Хлопчык як праз туман прыпамінае нечыя аблічча, галасы, мэлёдыі песень... Тут належала б падсумаваць, што, маўляў, гэтак у героя скончылася дзяцінства...

А мо я проста апішу сучасныя гарадзкія Каляды. Да якіх рыхтуюцца па “Энцыкляпэдыі этнаграфіі”. Сям'я постсавецкіх інтэлігентаў, чыё юнацтва прыпала на пэрыяд “Талакі”... Куцьця, звараная з пшанічных шматкоў “Нэстле”. Пад даматканым абрусам — сухія сьцяблінкі, ашчадна павыцяганыя з ікебаны, каб не парушыць кампазыцыі. Запісы гурту “Ліцьвіны”, якія пасьля таго, як гаспадар выпівае першыя дзьве стограмоўкі гарэлкі “Белая Русь”, зьмяняюцца на “Сэкс пістолз”. Дзеці ня ведаюць, каго ім чакаць — Дзеда Мароза, Санта-Кляўса альбо Сьвятога Мікалая. Але на ўсялякі выпадак прывязваюць шкарпэткі да батарэі цэнтральнага ацяпленьня... “Я адной табе належу, Беларусь мая...”, — шэпча-настальгуе гаспадар над чарговай чаркай... Пад сынтэтычнай елкай матэрыялізуюцца падарункі, і ўрэшце ўсе забываюцца выцягнуць з-пад абрусу па сьцяблінцы. Навошта? І без таго вядома, што жыць будзем кепска, але нядоўга...

Не, такога аповеду я дакладна не напішу. А то яшчэ падумаюць, што гэта пра маю ўласную сям'ю. А я ніколі не вару куцьці са шматкоў “Нэстле”!

Дон’t ўоры, бі хэпі...

Лепей ужо нейкую фантасмагорыю. Напрыклад, пра тое, як кампанія маладзёнаў вырашае зладзіць традыцыйнае калядаваньне. Пераапранаюцца, мажуць твары, начапляюць страшныя маскі... Непазнаныя, зьяўляюцца да аднаго зь сябрукоў, якога лічаць занадта ганарлівым. Кампэнсуюць свае крыўды напоўніцу. Абражаны гаспадар нарэшце ўсьведамляе, што ня ўсе на белым сьвеце яго любяць. А наранiцу высьвятляецца, што маскі калядоўшчыкаў не здымаюцца. Прырасьлі.

Вось толькі ня ведаю, як працягнуць сюжэт... Ці героі пойдуць каяцца ў царкву, проста ў сваіх страшных масках, і сьвечкі пры іх зьяўленьні паскручваюцца і задымяць, а маскі абпаляць твары, як агнём, і зваляцца... Ці самая прыгожая дзяўчына з калядоўшчыкаў паабяцае ў якасьці выкупленьня агульнай правіны выйсьці замуж за пакрыўджанага гаспадара, даўно і безнадзейна ў яе закаханага... Не, не атрымліваецца. Лепш запасьці на лірыку.

Жанчына зьбіраецца на калядны карнавал. Дастае з шафы чорную аксамітную сукенку са сьмелым разрэзам. Доўга змагаецца з нафталінавай аўрай рэдка надзяванага строю. Робіць на твар маску з дрожджаў напалам з рафінаваным алеем — падмаладзіць скуру. Старанна ўкладае валасы ў высокую прычоску, і над скронямі — па залатой сьпіральцы локану, замацаванага лакам. Кладзе ў сумачку чорныя туфлі на высокіх шпільках і... чакае. Яна прыўкрасная і трывожная. І тут, вядома, ёй прыносяць тэлеграму... Ці нехта тэлефануе і кажа, што ўсё адмяняецца. І яна застаецца ў пустой цёмнай кватэры, дзе пабліскае калядная ёлка... Або яшчэ лепш — гераіня ідзе на свой карнавал, а там усе ў майках, джынсах і красоўках на вялізарнай плятформе... І сядзіць яна там у цёмным куце пад камланьне белага рэпэра Эмінэма дурніца дурніцай у сваім аксаміце з локанамі і шпількамі.

А чаму б тады не напісаць пра дзявочую варажбу? Як у пакоі студэнцкага інтэрнату сядаюць дзяўчаткі па чарзе перад люстэркам між запаленых сьвечак і ўглядаюцца ў прывідную далеч. І адна з варажбітак, вядома, самая прыгожая, студэнтка інстытуту культуры, бачыць... Што дакладна — не расказваю. Але назаўтра сустракаецца менавіта з тым, хто паказаўся ёй у люстэрку. А ён працуе паталягаанатамам...

Не, гэта ўжо зусім далёка ад цвыркуна і палаючага каміну... Тым больш, у мяне самой з той варажбою не зусім рамантычныя ўспаміны. Мы са стрыечнай сястрою Танькай зьнялі са сьцяны вялікае люстэрка ў багеце пад бронзу, але, пакуль прыладжваліся гадаць, пачуліся крокі маёй маці. Схавалі люстэрка на ложку, пад посьцілкай. Маці падазрона агледзела пакой, ведаючы нашу схільнасьць да шкадлівых гульняў. “Што ў вас тут робіцца?” Танька запэўніла, што мы проста адпачываем, і ў доказ сваіх слоў паваліілася на ложак.

Яна дасюль пераконвае мяне, што ў тое імгненьне цалкам забылася на люстэрка.

Пасьля я намалявала да таго багету на кардонцы выяву Рагнеды ў манаскім убраньні на фоне навальнічнага неба і белай царквы. Танька пасьля чарговага гасьцяваньня заявіць, што мая Рагнеда занадта страшная. Але маці карціна спадабалася, і яна дагэтуль вісіць у яе на сьцяне як прывід няспраўджанай варажбы.

Але гэта быў бы зусім не калядны аповед.

І я яго, відаць, ніколі і не напішу. Як не напісаў Міхась Стральцоў пра смаленьне вепрука.



Віктар Шніп

# УСЁ ЦЯЧЭ

Усё цячэ, усё зьмяняецца... Падчас дажджу цякуць, дакладней, працякаюць стрэхі многіх хатаў у маіх Пугачах. Так было сёлета, так было летась і пяць гадоў таму, так будзе і налета. Цяпер зіма, і праз тыя дзіркі ў стрэхах у хаты цячэ холад, а людзі дзівяцца, чаму так халодна. З кароўніка цячэ жыжка на поле. Цякла б, відаць, як у многіх калгасах, у рэчку, але ў нас рэчак даўно няма. Засталіся толькі назвы — Рабінаўка і Малышоўка. І мне часам здаецца, што гэтыя няісныя рэчкі я прыдумаў сам. Ды не — яны яшчэ жывуць у памяці майго бацькі, старэйшых вяскоўцаў...

Уначы ў Пугачах, як і па ўсёй Беларусі, з самагонных апаратаў весела цячэ самагонка — ідзе падрыхтоўка да вясны, калі поўная пляшка ў вёсцы будзе як даляр у горадзе. За пляшку некаторыя мясцовыя мужыкі, а часам і жанчыны, зробяць па гаспадарцы ўсё, што загадаеш...

У начное зімовае неба з комінаў цячэ дым. Там-сям завываюць сабакі. Па вуліцы — зь песьнямі, з расейскімі мацюкамі — у клюб ідзе моладзь. Калі будзе магчымасьць, патанчаць, а калі й не патанчаць, дык хоць вып'юць, а там, глядзіш, і паб'юцца, і сьнег акрэпяць кропляй маладой крыві. Так было, калі я быў хлапчуком, так ёсьць, так будзе і надалей...

Усё цячэ, усё зьмяняецца... У калгасе апошнія гады амаль не мянялася тэхніка. Нібы дыназаўры з нораў, выпаўзалі зь вёскі падчас жніва старыя камбайны. Але ў двары аднаго вяскоўца я заўважыў улетку два навюткія трактары зь вялікімі прычэпамі. Наўрад ці калгасныя. У вёсцы ёсьць мужыкі, якія ўмеюць ня толькі выпіць добрую чарку, але й працаваць як сьлед. Дый хаты ня ўсе развальваюцца. На некаторыя будыніны люба глянуць. І ў гародзе не трава расьце! Словам, ня ўсё так дрэнна. Жыць і сёньня можна як належыць, калі не спадзявацца на калгас. Калгас дасьць зарплату, калі ты яе заробіш, а ўкрасьці асабліва там няма чаго — што можна было, яшчэ пры камуністах расьцягалі...

Іду вечарам з жонкай па вуліцы. Расказваю, дзе і што. І раптам чую — бяжыць нехта сьледам і крычыць: “Віця! Віця! Пачакай!” Спыняемся. Даганяе п'яны мужык: “Віця, гэта я, Тонік!” Павіталіся. Тонік, мой сусед па вуліцы, маладзейшы на два гады за мяне, пачаў расказваць пра сваё жыцьцё, успамінаць нашае маленства. Зьняў шапку і ледзь ня плача — ці то ад радасьці, што сустрэў мяне, ці то ад таго, што ўжо лысы. Я маўчу, слухаю. Люда глядзіць, дзівіцца, што ў мяне такі сябар. А Тонік, яшчэ крыху паўспамінаўшы нашае басаногае дзяцінства, кажа: “Я ў саўгасе самы лепшы газазваршчык. Дай мне мільён!” “Мільён?” — разгубіўся я. “Ня бойся, не мільён, а тысячу...”, — папраўіўся Тонік. Я б яму і дзьве тысячы даў, але ў мяне з сабой не было, і я прапанаваў Тоніку пайсьці да нас. Ён адмовіўся, сказаўшы, што баіцца маёй мамы. І мы разышліся...

На пачатку лета ў суседняй вёсцы памёр хлопец, які вучыўся недзе ў горадзе. Даведаўся пра гэта ягоны дзядзька, стары пугачоўскі настаўнік, і, набраўшы ў галаву жалобы, сышоў з дому. Шукалі яго і ў сажалках, і ў калодзежах, і ўсе лясы абышлі — нідзе няма чалавека. Не знайшлі да сёньня...

А ў суседа, майго аднакласьніка Сашкі, сёлета памерла маці. Сашка і раней выпіваў, а цяпер наагул запіў. Увогуле, на нашыя могілкі, што ў Дубравах, сёлета шмат народу пераехала. Пераехаў туды і мой Граждан. Як яго звалі насамрэч, я ня ведаю. Для ўсіх ён быў Гражданом, якога часта крыўдзілі розныя Сабакі...

І ўсё ж у маіх Пугачах і ў навакольных вёсках у сыходным годзе ня толькі працякалі стрэхі, пілася самагонка ды паміралі людзі, але і сеялася, і жалася, і будавалася, і нараджалася. У майго стрыечнага брата Сяргея Шніпа нарадзіўся сын, назвалі Максімам. У вёсцы Лягезы ў дзесяці хатах засталося жыць восем чалавек. Мой лягезаўскі стрыечны брат Зьміцер сёлета ажаніўся зь мянчанкай і зьехаў у горад. Я быў на вясельлі. Сабралася пад сто чалавек. Быў багаты стол, гулялі тры дні. Вырваўшыся з кампаніі, я павёў сваю Люду паказаць рэчку Яршоўку, а рэчкі і няма. Высахла, і рэчышча зарасло травой.

Усё цячэ, усё зьмяняецца...

# Абразкі і абрэзкі

Па салёне пуставатага нядзельнага аўтобуса ходзіць маладзіца-кандуктарка ў шараварах, хатніх шлёпанцах і белых вязаных шкарпэтках. Пэўна, гэтак ходзіць яна дома па кухні, мо гэтак і сьпіць у восеньскія халады. І сьніцца ёй невераготнае: нарэшце ім выдалі спэцадзеньне — кабаты ды валёнкі з новымі бліскучымі галёшамі...

Кожны раз, улучаючы кампутар, успамінаю Казімера Малевіча. Геніяльны, відаць, быў мастак, калі яшчэ на пачатку XX ст. стварыў такую актуальную сёньня карціну. Штодня дзясяткі мільёнаў людзей, перш чым засьвецяцца іхныя дысплэі, бачаць перад сабой рэпрадукцыю знакамітай карціны нашага земляка — “Чорны квадрат”...

Рэдкая ў лістападзе сонечная раніца: халодна, лужыны добра прыхапіў мароз; жанчыны дружна апранулі зімовыя строі; зыркае сонца сьлепіць вочы, але зусім ня грэе — амаль як нашая радзіма-Беларусь. Але хай бы хоць сьвяціла, а грэцца мы будзем самі — хто будзёнымі клопатамі, хто марамі аб будучыні, хто модным футрам, а хто добрым словам. Адагрэўшыся самі — адагрэем і яе...

Зноў давялося ісьці на рынак. Наколькі за савецкім часам ён быў цікавым месцам з самай несавецкай, стыхійнай і некантраляванай атмасфэрай, настолькі сёньня ён нецікавы — занудная людская гурма, гэтая квінтэсэнцыя “рынкавага сацыялізму” — тлумная таптаньня на месцы ды марнаваньня часу і сілаў. Нахадзіў па базары кілямэтраў 4—5, але патрэбнай адзежыны не прыдбаў. Кажуць, не сэзон — чакайце лета...

**Васіль Аўраменка**

# Год Чэслава Мілаша

**У Польшчы — год Чэслава Мілаша. Найлепшы польскі паэт XX ст., нобэлеўскі ляўрэат спраўляе свае *90* гадоў. За працай — як звычайна. Апошняя ягоная кніга (*TO, Znak, Kraków*, 2000) амаль цалкам складзеная з *новых* вершаў. І якіх вершаў! Гэта не старэчы маразм, але квінтэсэнцыя душы і розуму, памножаная на неверагодны жыцьцёвы лёс і вопыт.**

**У апошняй кнізе Чэслаў Мілаш піша пра Амэрыку і мастацкія галерэі Эўропы, Яна Паўла II і свайго калегу Аляксандра Вата, але найчасьцей зьвяртаецца да берагоў Нявежы і Вяльлі, сваіх продкаў, сваіх дарогаў, азёраў, ляшчынаў — не ва ўспамінах сэнтымэнтальных вяртаецца, а цяпер. У свае дзевяноста ў Край свайго маленства, які ён быў і будзе на сьвеце, бо такі быў і будзе ў чалавечай памяці. У тым цэлы сэнс чалавечага існаваньня.**

**"Ліцьвін польскай культуры", паводле ўласнага самаакрэсьленьня, якім у свой час зьбянтэжыў польскія эліты, Чэслаў Мілаш ня так даўно даў прыклад разуменьня гісторыі і настальгіі — гэта значыць жыцьця і хваробы (бо настальгія — гэта хвароба). Можа, шкада палякам, што Вільня больш ня іх места, але мне добра ад таго, што Вільня стаіць, што яна ў свабоднай краіне і што праз гэта *вярнулася ў Эўропу,* дзе ад вякоў была, часткай якой была і на тую эўрапейскую культуру сама рабіла. Тым болей што межы ня маюць аніякага значэньня... Цяпер параўнаем гэта з нашым "плачам пра Вільню". Неба і зямля.**

**Паэт мае быць вышэйшы за свой Час і свой Народ. Бо той час ляціць, а той народ — катэгорыя таксама зьменлівая і пераменлівая. Кожная мяжа яго зьмяняе — то палякі яго, бедненькага, апалячылі, то маскалі замаскалілі, то цяпер саветы засавецілі... Наш інтэлігенцкі плач пра Вільню — гэта адбітак народнага самаапраўданьня "нам так сказалі". "Пан кепскі — мы добрыя".**

**Чэслаў Мілаш у апошняй кнізе ўзгадвае пра сваю "здраду" таму часу, таму асяродзьдзю, якога няма ў рэальным жыцьці. Ну, хіба што ў віртуальным. Піша, што кляйміла яго "*другая вернасьць*". Вернасьць Свабодзе. Вернасьць Слову. Вернасьць Сабе Самому.**

**Бо духоўныя і маральныя абавязкі без такой вернасьці — гэта простая дарога ў чыё-небудзь *рабства*. Чыё? Можа, дыктатуры. А можа, падпольля. Можа, цэлага народу. А можа, аднаго сямейнага клану. А можа, адных толькі бацькоў ці дзяцей. Гэта нейкае такое ТОЕ, што нельга выказаць словам. То значыць, выказаць можна. Але для гэтага трэба быць Чэславам Мілашам. Што немагчыма. Бо Чэслаў Мілаш ужо ёсьць і наступным разам зьбіраецца бяз жартаў сьвяткаваць свае бесьсмяротныя "сто лят"...**

**Алесь Чобат**



## Чэслаў Мілаш

### *ТОЕ*

Каб, нарэшце, здолеў сказаць, што сядзіць ува мне.
Каб мог выкрыкнуць: людзі, хлусіў вам,
Калі казаў, што такога ўва мне няма,
Бо ТОЕ ўва мне заўжды, днём і ноччу.
Хаця дзякуючы таму
Умеў я апісваць вашыя месты, што так лёгка гарэлі,
Вашыя кароткія каханьні а забавы, рассыпаныя ў порах,
Пярсьцёнкі, люстра, брэтэлька спадае з пляча,
Сцэны ў спальнях, у падваротнях, на мардабойсках.

Пісаньне было для мяне стратэгіяй абароны,
Замятаньнем сьлядоў. Бо ня можа падабацца такі, як я,
Хто цягнецца дасягнуць забароненага.

Клічу па дапамогу рэкі, у якіх купаўся, азёры
З кладкай паміж чаротам, даліну,
У якой рэха песьні паўтарае вечаровае сьвятло,
І прызнаю, што мае экстатычныя пахвалы існаваньню
Маглі быць толькі практыкаваньнямі высокага стылю,
А пад сподам было ТОЕ, чаго назваць не насьмелюся.

ТОЕ падобна да думак бяздомнага, што ідзе
Праз марознае, чужое места.

І падобнае да імгненьня, калі жыд у аблаве бачыць,
як набліжаюцца
цяжкія каскі нямецкай жандармэрыі.

ТОЕ — гэта калі сын караля выпраўляецца ў горад
і бачыць сапраўдны сьвет:
галоту, хваробы, старасьць і сьмерць.

ТОЕ можа быць параўнана зь нерухомым тварам таго,
хто зразумеў нарэшце, што пакінулі яго назаўжды.
Альбо са словамі лекара, што прысуд не падлягае адмене.

Бо ТОЕ — гэта ўсё роўна як наткнуцца на каменны мур
І зразумець, што мур не адступіць ні перад малітвай, ні перад плачам.

### *ГАЛАВА*

Аграмадная галава высоўвалася
з-за пагоркаў на другім беразе ракі
і бачыла перад сабой хлопца з вудай,
каторы ўглядаўся ў паплавок
і пра адно думаў: торкне, ня торкне.

— Што ж рабіць зь ім, — разважала галава,
аддаючы загады лятаючым духам,
спэцыялістам па канструяваньні лёсаў.

— А вось ужо зроблена, — казала сама да сябе галава,
гледзячы зноў на тое самае месца над ракой
і старога дзеда, які вярнуўся з далёкіх вандровак.

— Бо ёсьць такія, каму здаецца,
што гэта яны самі нешта пастанаўляюць, спаўняюць.
Гэты хоць ведае,
што быў толькі цацкай
у руках тых, хто хіхікае, лётаючы ў паветры,
і надзівіцца ня можа,
што выпаў яму такі лёс.

### *ТЭХАС*

Вярнуўся з Тэхасу,
Там чытаў вершы.
Нідзе так добра ня плацяць за чытаньне вершаў, як у Амэрыцы.
Пад аўтографамі ставіў дату 2000.
Старасьць абляпіла ногі, як густая смала.
Розум бароніцца, бо сьвядомы той старасьці.
І што мне зь ёю рабіць, каму адкрыць тую сьвядомасьць?
Найлепшая стратэгія — гэта не гаварыць нічога.

Спазнаў я сорам прыгаданай ілюзіі
каханьня, нянавісьці,
чаканьня, імкненьня.

І ледзь паверыць магу.
Што ўдалося мне пражыць жыцьцё.

### *UNDE MALUM*

"Адкуль бярэцца зло?
як гэта адкуль
з чалавека
заўжды з чалавека
і толькі з чалавека"
*Тадэвуш Ружэвіч*

На жаль пане Тадэвушу
добрая прырода і злы чалавек
гэта рамантычная выдумка
калі б так было
то можна было б вытрымаць
а пан гэтак паказвае адны глыбіні
свайго аптымізму

дастаткова дазволіць чалавеку
вынішчыць свой род
і наступяць нявінныя ўсходы сонца
над вызваленай флёрай і фаўнай

там дзе разваліліся фабрыкі
вырастуць дубровы
кроў разадранага ваўкамі аленя
ніхто ня ўбачыць
і ястраб будзе падаць на зайца
бязь сьведкаў

зло зьнікне са сьвету
калі зьнікне сьвядомасьць што гэта зло

так пане Тадэвушу
зло і дабро паходзіць ад чалавека
ад аднаго чалавека
і толькі ад чалавека

### *ПА ЎСІМ*

Асыпаліся зь мяне погляды, перакананьні, вераваньні, ацэны, пастуляты, прынцыпы,
правілы, звычкі.

Ачомаўся голы на ўскрайку цывілізацыі,
падалася яна мне камічнай, незразумелай.

Скляпеньні паезуіцкай Акадэміі,
дзе калісьці набраўся навукі,
не былі б задаволеныя мной.

Хоць яшчэ памятаю
некалькі лацінскіх сэнтэнцый.

Далей цякла рака скрозь бары і дубровы.

Стаяў у траве да грудзей, дыхаў дзікім пахам
жоўтых кветак.

І аблокі. Як заўжды над гэтай зямлёй
Аблокі. Адны аблокі.
Толькі аблокі.

### *VIPERA BERUS*

Хацеў гаварыць праўду,
і не атрымалася.
Спрабаваў ужыць споведзі,
але ня ўмеў прызнацца.
Ня верыў у псыхааналіз,
бо вось бы дзе ад душы нахлусіў.
І далей у сабе нашу спавітую гадзюку віны.
А для мяне гэта зусім не абстрактны вобраз.
Стаю на амшары ў Раўдонцы пад Яшунамі,
і хвост гадзюкі зьнікае ў купіне моху
пад карлікавай сасонкай,
калі цісну на спуск
і валю зарадам шроту зь бярданкі.
Дагэтуль ня ведаю, ці хоць шроціна
трапіла ў агідны белы трыбух
ці ў зігзаг на хрыбце *Vipera berus*
Усё ж лягчэй апісваць гэта,
а не прыгоды душы.

Вы, пераможаныя,
Вы, пераможаныя і выгнаныя,
З году ў год загледжаныя ў фатакартку белага двара
І таварыства ў летніх строях перад ганкам,
Прабачце мне, панічы з радаводам,
Бо яшчэ ў школе вам здрадзіў,
Калі выбіраўся шыю скруціць у краіну аналізу,
Там над тлумам вернікаў не плыве бальдахін
На сьвята Божага Цела
І зялёныя гірлянды не аздабляюць
Парафіяльнага касьцелу.

Пустка ў сьвятле месяца, самота і гнеў
Бываюць патрэбныя
Для таго, каб мог узьняць да вышэйшай моцы
Мой павет і вас, мае цені,
Хто прыходзіць на мой покліч,
А гэта толькі таму, што быў я чалавекам
З усімі заганамі,
Быў выключаны з бацькоўскіх звычаяў,
Бо кляймом была ўжо на мне іншая вернасьць.

### *У ПАРАФІІ*

Калі б ня быў такі крохкі, у сярэдзіне пераламаны,
Ня думаў бы пра іншых — пераламаных у сярэдзіне.
Не выбіраўся б на пагорак, на цьвінтар каля касьцелу,
Каб пазбыцца літасьці над сабой.
Шалёныя Зоські,
Казюкі, што прайграўшыя ўсе бітвы,
Агаты, што зацкавалі самі сябе,
Ляжаць пад крыжамі з годам нараджэньня і сьмерці.
І хто ж за іх цяпер скажа? Іх галашэньні, плачы,
Надзеі, сьлёзы, пакаяньні?
Тыя самыя яны ў макраце, у паху мачы,
У шпітальным сораме перакручаных целаў.
І цяпер вечнасьць. Непрыстойная. Не да ўжытку.
Як батлейка, пераеханая коламі воза, як слон,
Які растаптаў хрушча,
Як акіян, які затапіў востраў.
Ісьцінна, дзіцячая глупота ўсіх нас
Не адпавядае насамрэч астатняй праўдзе.
Ня мелі часу, каб хоць што зразумець
З побыту адзінак, калі кожны сам па сабе,
З тым *principium individuationis*,
І я не разумею, і ня маю на тое рады.
Замкнёны ўсё жыцьцё ў шкарлупіне арэха,
Дарэмна хацеў зрабіцца кімсьці зусім іншым.
А цяпер ідзем у зямлю, парафіяне.
З надзеяй, што трубы Суду
Выклічуць кожнага па імені.
Замест вечнасьці — зелень і рух аблокаў.
Паўстаюць тысяча за тысячай
Зосяў, Кацярынаў,
Барталамеяў,
Марысяў, Агатаў, Браніславаў,
Каб нарэшце даведаліся,
Навошта ўсё тое было і дзеля чаго.

**Пераклаў з польскай Алесь Чобат**

## Беларусь праз 100 гадоў

# Праспэкт Алеся Пушкіна

Праз 100 гадоў Менск застанецца сталіцай Беларусі, але некаторыя функцыі падзеліць з Полацкам, Навагрудкам і Нясьвіжам.

У Менску будуць адноўленыя ўсе гістарычныя пабудовы. Саборная плошча набудзе свой аўтэнтычны выгляд з Ратушай і гатэлем "Эўропа". Зь цяперашніх будынкаў на ёй застануцца толькі Кансэрваторыя, сабор і гмах каля мосту цераз вул. Няміга. Будзе перароблены толькі ягоны фасад — каб гарманічна ўпісваўся ў гістарычнае асяродзьдзе. Сама плошча і вул. Францішканская (цяпер Леніна) станецца пешаходнай, для транспарту будзе пракладзеная падземная траса (кшталту Варшаўскай трасы W-Z) ад праспэкту Скарыны. За адноўленым Менскім замчышчам дарога будзе выходзіць на паверхню.

Па адным баку Францішканскай таксама будуць адноўленыя старыя будынкі. Другі бок захаваецца ў сёньняшнім выглядзе — дзеля гістарычнае пераемнасьці.

ГУМ цераз 100 гадоў станецца непрыдатным для гандлёвых мэтаў, і зь яго зробяць Нацыянальную галерэю мастацтваў. Сучасны ж Палац мастацтваў будзе разабраны, каб адкрыць від на касьцёл Сьв.Роха ад вул. Даўгабродзкай. Кастрычніцкую плошчу пераназавуць у Плошчу 25 сакавіка, да фасаду трыбуны будзе прымацаваная вялікая белая мармуровая пліта, на якой будзе адбіты чырвоным колерам гістарычны здымак першага ўраду БНР. Архітэктурны ансамбль плошчы застанецца ранейшы, толькі перад палацам прафсаюзаў на прыступках зьявіцца помнік Янку Лучыну. Музэй вялікай айчыннай вайны стане Нацыянальным гістарычным музэем, на адкрытую пляцоўку якога будзе з гонарам перанесены помнік "першаму танку". З боку Дамініканскай вуліцы, за Палацам Рэспублікі, будзе адноўлены касьцёл і кляштар дамініканаў ды шэраг іншых старых будынкаў.

Пішчалаўскі замак стане музэем-гатэлем. На ягонай сьцяне зьявіцца памятная дошка з імёнамі ўсіх знакамітых вязьняў-патрыётаў — ад філяматаў зь філярэтамі ды першых нашаніўцаў да маладафронтаўцаў. Любы ахвотны зможа пажыць у камэры Якуба Коласа або Масея Сяднёва, правесьці велікодны пост на нарах Юрася Хадыкі і г.д. Турмы за 100 гадоў увогуле зьнікнуць. Злачынцаў будуць караць мэдыцынскім спосабам: паралюш і інвалідны вазок на месяц, год, 5 гадоў — у залежнасьці ад рашэньня суду прысяжных.

Лошыцкі сад стане беларускімі Лазенкамі — са статуямі й альтанкамі. Перад сядзібай паставяць помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму. Ля ягонага падножжа традыцыйна будуць праходзіць музычныя конкурсы й фэсты.

Цяперашнія мікрараёны стануць прыгажэйшымі пасьля таго, як мастакі-графітысты размалююць іх у стылі Малевіча, Шагала й Кандзінскага. Імёнамі гэтых ды іншых мастакоў будуць названыя менскія вуліцы і праспэкты. Захавае сваю сёньняшнюю назву хіба толькі праспэкт Пушкіна. Але праз 100 гадоў усе будуць лічыць, што названы ён у гонар мастака Алеся Пушкіна. Тым больш што фасады будынкаў будуць расьпісаныя ягонымі карцінамі: такі сабе праспэкт-выстава, праспэкт-галерэя. Тысячы турыстаў будуць швэндацца там, прыносячы немалыя прыбыткі ў бюджэт.

**Літвак Крывейта**

*жарт*




# З пэўных крыніцаў

*фэльетон*

У сераду, 15 чэрвеня, адбыліся тэлефонныя перамовы паміж Аляксандрам П. і Уладзімерам Л., у выніку якой была дасягнутая дамоўленасьць аб сустрэчы ў другой палове месяца дзеля абмеркаваньня палітычнае сытуацыі ў сьвеце й разгляду пытаньняў, што знаходзяцца ў сфэры супольных інтарэсаў.

16 чэрвеня згодна з раней дасягнутай дамоўленасьцю спадар П. наведаў спадара Л. ў загараднай рэзыдэнцыі апошняга. У часе ўрачыстага прыёму яны трымаліся як старыя сябры — абняліся, моцна паціснулі рукі, зычліва ўсьміхаліся адзін аднаму, жартавалі.

Потым згодна з рэглямэнтам адбыліся перамовы, якія паступова перайшлі ў сяброўскую размову, што натуральна перацякла ў таварыскую вячэру. Бакі абмеркавалі шэраг пытаньняў, якія тычыліся пасьляваеннага ўпарадкаваньня Аўганістану. Асабліва сурazмоўцы акцэнтавалі ўвагу на недапушчэньні сыходу баевікоў на тэрыторыю Пакістану. Аляксандар П. выказаў меркаваньне, што тэрарыст № 1 Усама бэн Ладэн усё яшчэ знаходзіцца на аўганскай тэрыторыі. Уладзімер Л. не згадзіўся, але адзначыў, што верыць у посьпех апэрацыі па захопе кіраўніка Аль-Каіды. Бакі выказалі занепакоенасьць ісnаваньнем у сьвеце ісламскага фундамэнталізму і згадзіліся з тым, што аўганская апэрацыя ЗША і саюзьнікаў гэтае праблемы не вырашыла. Суразмоўцы выказалі спадзяваньне, што расейска-амэрыканскае збліжэньне дапаможа мінімізаваць небясьпеку новых тэрактаў і паспрые ўсталяваньню трывалага міру ва ўсім сьвеце.

Уладзімер Л. і Аляксандар П. засталіся вельмі задаволеныя перамовамі і прыйшлі да думкі аб неабходнасьці правесьці шэраг двухбаковых сустрэчаў дзеля далейшага збліжэньня пазыцыяў.

Пры канцы афіцыйны візыт Аляксандра П. быў, на жаль, сапсаваны зьяўленьнем на авансцэне дэструктыўных апазыцыйных сілаў у асобе жонкі Ўладзімера Л..

— Абібокі! — крычала яна на ўсю вёску, густа перасыпаючы сваю прамову непарлямэнцкімі выразамі. — Алькашы! Сена не варушанае, у копы не складанае! Чым, ідзі вашу макаўку, жыць будзем зімой, палітыкі сраныя?! Што жэрці будзем, калі карова акалее? Вунь сапраўдныя мужыкі — як Мамудаў Міхась — ужо ўсё па гаспадарцы парабілі!..

На што Савелі Ш. удала зазначыў: "У Мамуда Міхася — срака чорная ўся!" — намякаючы на Міхасёву мяшаную кроў. Жонка адрэагавала на гэта шэрагам парушэньняў дыпляматычнага этыкету, што месцамі пераходзілі ў адкрытыя абразы:

— Ах ты дармаед! Гаворыш усё, каб ты выпруцыўся! Мне твае размовы ўжо ў пячонцы сядзяць, трыбух пустагаловы! Абы вочы заліць! Вон з хаты к чортавай матары! Ідзі работу рабіць!

Такім чынам, у сувязі зь непрадбачанымі абставінамі сустрэчу, што прайшла ў цэлым у атмасфэры сяброўства і ўзаемаразуменьня, давялося скараціць. Бакі вымушаныя былі хутка разысьціся, так і не пасьпеўшы прыняць рэзалюцыі аб паваенным упарадкаваньні Аўганістану і расейска-амэрыканскім супрацоўніцтве.

**Кастусь Травень**

# ЛІСТЫ АД ГРАЖДАНОЎ

**Яшчэ раз пахвалёны табе ў хату, паважаная "Наша Ніва"!**

Вось жа справядліва напісана ў Мацея: "І многія лжэпрарокі паўстануць і ўвядуць у зман многіх; і ад памнажэньня беззаконьня ахалоне любоў у многіх" (Мц., 24:11-12). І вось яны ўжо паўсталі: Ілжэграждан ды Лжэсабака.

Першы зь іх — нехта "тутэйшы Граждан". Ён вазмушчон. Ён не пазволіць. Ён ня хоча, каб маскаль у нас хлеба прасіў, бо ўсё адно ня дасьць ні цяпер, ні праз сто гадоў. Чаму ня дасьць? Бо, бачыце, ён і сёньня часта нічога ня есьць. А каб табе яно наскрозь прайшло, ужо калі што естанькі мецьмеш, дзеткі мае, як жа ж вечна табе ўсяго мала! Хто табе не дае? Еж, хоць расьперажыся! Скажам, кілбаса "Тузік"! Сабака, праўда, яго ў рот не бярэ (распанела сабача морда на пэдзіграх, пампэрсах і грынпісах!), а я вось, ды яшчэ калі пад чарчыну "Залатога веку", — за мілую душу. І ні дрысьні, ні залатухі — хаджу сабе пан-панам: спраўны, гладкі, ніхто ў вочы ня пора, благога ня скажа, яшчэ й ацечаства слаўлю, каторае есьць! — таму я й славянін-патрыёт, а ён, бачыце, усходняму брату скарынкі хлеба пашкадаваў. Так, браце, не інтэгруюцца.

Другі зь іх — "Ваш Сабака". Ня наш ты **Сабака**, ня наш! Можа, ты і лабрадор які, будзь ты і ньюфаўндлэнд, але калі ня ведаеш, дзе і з кім сёньня прыткнуцца нанач, дык на шпіцбэрген ня пніся, пашукай сабе будкі! От духам чую, з павадкі і вуманастраеньня, ты — кундаль падплотны. Вядома, дзе ж табе за сто гадоў наперад бачыць, калі далей сучай падхвосьціцы пэрспэктывы разгледзець ня можаш, і тое ўсё нюхам, нюхам...

За маскалёў у яго, бач, крыўда, за Глёбуса. За Гражданоў і Сабак... І ўвесь гэты патас — адзіна дзеля таго, каб нам Палесься не сушыць. А не пераймайся ты за іх. Глёбус — ён круглы, не дакруціцца, дык дакоціцца. І Гражданы будуць, і Сабакі будуць, бо як жа бяз нас? І будзе Шніп з жэншчынамі, бо хто ж летапісаць нам будзе. А, бог дасьць, дык і савецкая ўласьць вернецца, і паедзеш ты зноў з цэнтру Эўропы мардву асымілюваць.

А можа, і не паедзеш, бо Бацька ў нас добры, і за твае правы заступаецца, і мяне пахваліў (ну, пажурыў крышачку, але ж лагодна, па-ацечаскі), а за Віцю Шніпа — дык гарой, усім нам пальчыкам загразіў, каб ня крыўдзілі, а мы лішне і ня будзем. І як бы ты ні зьвягаў, а Бацька будзе, бо, як казала мая цётка Яўдося, — Бацькам ні зводу няма, ні альтэрнатывы.

Не, Палесьсе сушыць усё-такі трэба, бо без сухога месца нявыкрутка. А да вас, кундалёў, і да прусакоў, як спадар Прафэсар даказаў у сваёй дысэртацыі, ніякая радыяцыя не прыстае — абжывяце!

**Ваш натхнёны Бацькам Граждан.**

**Господин Редактор "Нашай Нівы"!**

Мы, женщины-пенсионерки славянской национальности, активистки общественного движения антиглобалистов, решительно и со всей бесповоротностью требуем не ущемлять уважаемого нами тов. писателя Граждана и опубликовать на страницах газеты его произведение о нашей славной сказочно-мифологической подруге и соратнице Шехерезадзе. Уверены, что Вы понимаете серьёзность возможных последствий в случае отказа в виде разбитых витрин и перевернутых автомобилей на территории всей Золотой Горки, к чему Вы приложите всё Ваше старание для опубликования.

С уважением

**Женщины-антиглобалистки 113-го домоуправления г.Минска (Всего 78 подписей)**

**Паважанаму спадару Начальніку паважанай газэты "Наша Ніва"!**

Усьцешаны шырокім розгаласам маіх і Шніповых пра мяне ж расповедаў у Вашай газэце. Хацелася б адкрыць адну таямніцу: мы з Сабакам і са Шніпом згаварыліся ўчыніць невялічкую містыфікацыю, так бы мовіць, сацыялягічнае апытаньне грамадзкасьці на прадмет мэдыцынскай абслугі. Дамовіліся: я граю Гамлета, Сабака — Дзэзьдзямону: скарбіт і кліча дапамогу, Шніп, як член СП, — караля Ліра: усё фіксуе, апісвае й падбівае бабкі.

І вось я, Гамлет-гамлетам, ляжу на чорным асфальце і ўдаю зь сябе абгарэлы кусок ялавічыны на патэльні, Сабака **войкае, дзяўгае, пытаецца ў дапамогі** пра дыягназ, Шніп стаіць убаку — фіксуе. Тут зьбягаецца грамадзкасьць, крычыць, ягліць, валіць на Сабаку чорт ведама што, што прыставаў, што чапляўся, што сьсільнічаць мерыўся... Іскуства не панімаюць...

Гэта ўжо пайшло супроць нашага пляну. Бо, ведаеце, калі Сабака падняў лапку на хуткую дапамогу, гэта зусім не азначае, што ён падсёрбваецца зь нейкімі матрыманьяльнымі намерамі альбо хоча пакласьці з прыборам. Зусім наадварот: наш Сабака зладзіўся такім чынам апісваць, хоць, паводле папярэдняй дамоўленасьці, гэта была чыстая прэрагатыва Віці Шніпа — ён і толькі ён усё і ўсіх апісваць мае.

І тут зьбеглася цэлая вочарадзь, уся гэта навалач, усё гэта пазадзьдзе. Ачосы грамадзтва. І ўсе крычаць кожны сваё, каму што набалела, каму што засьвярбела: Дзеўцы Міліцыянта падавай, сама пад арышт просіцца, Баба і Мужыку горла перагрызла б, Прафэсар дысэртацыяй не нахваліцца — калі гэта прафэсар Санька, дык чыталі мы яго антысабачую дысэртацыю, у "Народнай Волі" друкавалася...

Ай, брыдка, таварышы грамада, — усё наша сацыялягічнае апытаньне на глум зьвялі, так бы мовіць, — Сабаку пад хвост гледзячы...

**Ваш Граждан**

## *Наступны нумар "НН"*

**выйдзе 11 студзеня, у пятніцу.**

Бо з Новага году "НН" будзе выходзіць **у пятніцу.**

У нумары:

- Беларусь у люстэрку самагубстваў. Тэма нумару
- Агляд музычнага году і каляднага року
- Новае апавяданьне Натальлі Бабінай "Чалавек на сваім месцы, або Закусь багоў"



# "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Двор Сінцы, Менскай губ., Ігуменскага пав.** У гэтым двары завялі цікавую навіну. Памешчык генэрал Рутынскі выпісаў з Самарскай губ. 8 вярблюдаў, за каторых плаціў па 150 руб. з дастаўкай на станцыю Пухавічы. Выпісаўшы вярблюдаў, пачалі імі працаваць на ральлі. Воз, на каторы паклалі 120 пудоў збожжа і села 8 людзей, пара вярблюдаў вязла саўсім лёгка. Здатны яны да ўсякай працы каля ральлі. Маразы пераносяць добра, адно толькі баяцца дажджоў, у часе каторых іх трэба акрываць гунькамі. Ядуць абы-што і калі ім налажыць яды на цэлы тыдзень, то не зьядуць больш, як вымагае іх арганізм.

**У Лесьніках Ковенскай губ. Вількамірскага пав.** валасная сходка ўжо другі раз пастанаўляе, каб у нядзелі і сьвятыя дні зачыняць усе шынкі.

**Дзьвінск.** У ваенным складзе Дзьвінскай крэпасьці выкрылі немалую крадзежу салдацкай адзежы. Крадзежа тым больш цікавая, што гэтыя склады ўдзень і ўночы вартуюць салдаты зь вінтоўкамі ў руках.

**5 (18) студзеня 1912 г. № 1**

**показкі**

## Троху пра сабак

Адзін сабака любіў чытаць Гайдэгера, а Гражданка брахала, бы сучка, што той сьпіць з Марыяй Кюры-Складоўскай.

Нейкі Граждан стварыў поп-гурт "Як гуртавалася шваль". Сабака ж нядрэнна граў на дудзе, хоць гражданству больш падабалася языком ды ў цілявізары к таму жа.

Сабака займаўся вывучэньнем першай дзяржаўнай, а Граждан вязаў пад плотам лыка, аднак атрымлівалася малавынікова па ўсіх паказчыках дзяржкамстату.

**Сяргей Балаханаў**



## Паштовая скрынка

**Яўгену Л. зь Менску.** У тэксьце ўкраінскага гісторыка няма такіх фактаў ці ацэнак бітвы пад Воршай, якіх нельга было б знайсьці ў беларускіх падручніках па гісторыі. Розьніцца ён ад працаў Сагановіча ці Чаропкі хіба праўкраінскімі акцэнтамі.

**Юр'ю Ф. з Гомлі.** Артыкул Ваш надрукаваць ня можам — многа на тэму бэн Ладэна пісала «НН» і іншыя выданьні. Дый Беларусь на чатырох старонках у Вас згадваецца толькі раз — і тое дзеля неабавязковага параўнаньня.

**Сьцяпану Л. зь Менску.** У пару, калі большасьць людзей займалася фізычнай працай, кумірамі былі людзі інтэлектуальных прафэсій. У пару, калі большасьць людзей праце інтэлектуальна, кумірам дае найперш спорт. Гэта натуральна, і проста наракаць на такі стан ня мае сэнсу.

*Віншуем Тацяну Сьнітку й Зьмітра Гарбунова з нараджэньнем сына Стасіка. Дай вам Бог сілаў вырасьціць яго сапраўдным беларусам.*

*Рэдакцыя*

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32
E-mail: nn@irex.minsk.by
http://niva.s5.com

 Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.
Наклад 3800.
Нумар падпісаны ў друк 04.01.2002.
Замова № 34.
Рэдакцыйны адрас. Менск, Калектарная, 20а/2а